ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ: ТАЯМНІЦЫ МАЦІ БОЖАЙ МІНСКАЙ

# Наша Гісторыя

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 history.nn.by

№ 12(41) — 2021

ISSN 2617-2305

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

АЛЕСЬ КУДРЫЦКІ
КАНТЫНЕНТ УКРАІНА

ВІТАЛЬД ПІЛЕЦКІ:
ВЯЗЕНЬ АСВЕНЦІМА ПА ЎЛАСНАЙ ВОЛІ

МІЛДА
ШЭДЭЎР АПОШНЯГА РАМАНТЫКА

ЯК ПРЭЗІДЭНТ ЧЭХАСЛАВАКІІ ПРЫМАЎ ПРЭМ'ЕРА БНР

## КАМУ НАЛЕЖЫЦЬ

# АДАМ МІЦКЕВІЧ

16+

## Ад рэдакцыі

На вокладцы гэтага нумара «Нашай гісторыі» — Адам Міцкевіч. У Беларусі геніяльнага паэта лічаць не чужым, а сваім. Ён нарадзіўся пад Навагрудкам і ўсё жыццё марыў пра вяртанне.

Аўтар цэнтральнага артыкула гэтага нумара Сяргей Грунтоў піша, што «калі сёння па-беларуску пішаш фразу “польскі паэт Адам Міцкевіч”, то адчуваеш патрэбу паставіць у канцы яе зорачку і пусціцца ў шматслоўныя ўдакладненні...». Гэтаму не запярэчыш. Але слова «сёння» ў выказванні вельмі дарэчнае. Такая сітуацыя была не заўжды.

Гэта цяпер мы зрадніліся з персанажамі нашай гісторыі, якія ўвасаблялі сабой культурны працэс на беларускіх землях у 1-й палове XIX стагоддзя, лічым іх безумоўна сваімі. Але калі пагартаць гістарычна-ідэалагічныя працы, пісаныя беларускімі інтэлектуаламі ў першай палове XX стагоддзя, калі толькі зараджаўся арганізаваны нацыянальны беларускі рух і яго ідэалогія, то мы заўважым, што Адам Міцкевіч і ягоныя сябры-аднадумцы звычайна там ці не згадваюцца зусім, ці згадваюцца толькі мімаходзь. Толькі напрыканцы 1930-х у Заходняй Беларусі пачынае ўзнікаць разуменне, што дзеячы падобнага кшталту для беларусаў таксама важныя.

Міцкевіч і людзі яго пакалення, якія выраслі на сутыку культур і рэалізаваліся ў польскай, у беларускі нацыянальны кантэкст вярнуліся ўжо ў пасляваенныя савецкія часы. Тады многае было забаронена, гуманітарныя даследаванні знаходзіліся пад прэсам ідэалогіі. Шмат чаго было проста немагчыма вывучаць. Але літаратуразнаўства дасавецкага перыяду было акурат той дзялянкай, на якой можна было пры жаданні разгарнуцца дапытлівым інтэлектуалам. Звязанымі з гэтым тэмамі можна было займацца даволі свабодна.

Цэлае пакаленне беларускіх інтэлектуалаў акурат гэтым тады і займалася, многія аддалі таму ўсё сваё жыццё. І калі пры канцы 1980-х ідэалагічныя абручы спалі і стала магчыма распрацоўваць сапраўды нацыянальную канцэпцыю беларускай гісторыі, стала зразумела, што дзеячы польскага рамантызму XIX стагоддзя родам з нашых земляў гарманічна ўпісваюцца ў агульны неперарыўны кантэкст. І іх спадчына — неадлучны элемент нашай культуры.

Так сталася, што акурат гэтымі днямі адышоў у вечнасць адзін з апошніх сапраўдных тытанаў той генерацыі, якая вяртала і прыносіла беларусам Міцкевіча і іншых, — Адам Мальдзіс. Ягонай памяці мы прысвячаем гэты нумар.

Наша Гісторыя
12/2021
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Валянціна Андрэева

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — партрэт Адама Міцкевіча, апрацаваны з дапамогай нейрасеткі Русланам Чатыркам.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X,
УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефон:** +375 (33) 311-28-43

**E-mail:** kramanasha@gmail.com

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 24.01.2021.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 92022.
Наклад 3005.

Надрукавана з гатовых дыяпазітываў заказчыка ў друкарні «Маскоўскі друкарскі двор», вул. 3-я Харашоўская, д. 18, к. 1, 123298, г. Масква, Расійская Федэрацыя
www.printyard.ru, тэл. +7 (499) 283-64-29

# Падпісацца? Праз Рэдакцыю!

Цяпер падпіску праводзіць і дастаўляе выданні сама Рэдакцыя.
Кошт — 7 рублёў за адзін нумар. Пры падпісцы на паўгоддзе зніжка — 35 рублёў за шэсць нумароў. Гэта значыць, што вы плаціце за пяць і шосты атрымліваеце ў падарунак.

Аформіць падпіску можна двума спосабамі.

1. **Усіх, хто карыстаецца інтэрнэтам,** просім зайсці на сайт **Nashakrama.by**, выбраць часопіс, перыяд падпіскі і аплаціць анлайн па картцы. Можна ў любы момант падпісацца адразу на год!
2. **Хто не карыстаецца інтэрнэтам**, можа прыйсці ў любы банк ці на пошту і зрабіць аплату за падпіску па рэквізітах, указаных ніжэй. Пасля выражце і запоўніце квітанцыю, змешчаную ў нізе старонкі. Дашліце яе нам лістом па адрасе: 220004, Мінск, а/с 62. Альбо адпраўце звесткі ў тэлеграм ці вайбер на нумар +375 33 311 28 43.

**Рэквізіты для аплаты** ў банку ці на пошце (праз «адвольны плацеж» ці «плацеж па рэквізітах» — «произвольный платеж» или «платеж по реквизитам»):
*Атрымальнік плацяжу:* Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы»
*УНП атрымальніка:* 190786828
*Рахунак атрымальніка:* BY84BLBB30120190786828001001
*BIC банка атрымальніка:* BLBBBY2X
*Прызначэнне плацяжу:* Падпіска на часопіс «Наша гісторыя» на перыяд ........
*Сума плацяжу:* ........

**!** Вельмі просім усіх прыярытэтна карыстацца спосабам 1. Пры ім будзе меней збояў і меншая нагрузка на калектыў Рэдакцыі пры апрацоўцы замоваў.

Тэлефон для даведак па пытаннях падпіскі: +375 33 311 28 43.

**ПАДПІСНЫ АБАНЕМЕНТ**
на часопіс **«Наша гісторыя»**

| Кошт падпіскі | | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|

На _____ год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Каму ____________________

Куды ____________________

____________________


















Тэлефон для кантакта

Нумар рахунку (чэка, квітанцыі аб аплаце)

Даслаць на адрас 220004, Мінск, а/с 62.




61


24




56


66















**Міцкевіч на ложы смерці.** Калі ўпершыню бачыш гэта фота, то кажаш сабе: не можа быць. На ім стары чалавек, стомлены, няголены, ляжыць на нейкім тапчане. Такое ўражанне, што гэта небарака, які памёр у халоднай начлежцы.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ МУЗЕЙ У ВАРШАВЕ

# Каму належыць АДАМ МІЦКЕВІЧ

**Як толькі вялікі паэт памёр, за яго спадчыну і прыналежнасць пачаліся спрэчкі. Пра месіянскае і чалавечае піша Сяргей Грунтоў.**

27 лістапада 1855 года стамбульскі фатограф спяшаўся па лабірынце вулак у аддаленую частку раёна Пера, сёння больш вядомага як Беяглу. Гэта раён амбасад, гандлёвых цэнтраў, Галацкай вежы, чырвоных рэтратрамваяў, растыражаваных на мільёнах выяў, раён Музея цноты Архана Памука і плошчы Таксім — сімвала барацьбы за палітычныя свабоды ў краіне. Турыстаў тут шмат, але на тыя вуліцы, куды ідзе наш фатограф, трапляюць яны даволі рэдка.

Трэба думаць, што і для яго апынуцца тут нязвыкла: жыхары гэтых бедных кварталаў рэдка карыстаюцца яго паслугамі і тым больш запрашаюць да сябе дадому. Гісторыя не захавала для нас імя фатографа, а ён сам, хутчэй за ўсё, ніколі не чуў імя памерлага. Тым

не менш апоўдні ён усталёўвае на трыножніку фотакамеру, каб зрабіць свой самы знакаміты і тыражаваны фотаздымак: «Адам Міцкевіч на ложы смерці».

Калі ўпершыню бачыш гэта фота, то кажаш сабе: не можа быць. На ім стары чалавек, стомлены, няголены, ляжыць у вопратцы, у шапцы і паліто, у якое ён нібы захутаўся, спрабуючы сагрэцца. Ляжыць на нейкім тапчане, на кароткім пакрывале і нечым жа падобным завешана сцяна за ім. Такое ўражанне, што гэта небарака, які памёр у халоднай начлежцы.

А ўсё ж гэта той, каго яшчэ пры жыцці сучаснікі называлі Прарокам (Вешчам). Так ён быў апрануты адмыслова для развітання і фатаграфавання: на ім чамара* і канфедэратка, часткі адзення, якія ў XIX стагоддзі лічылі польскім нацыянальным строем і працягвалі актыўна насіць у штодзённым жыцці. І пасля смерці ён не вольны ад гэтай ідэнтычнасці, якая вызначыла ўвесь яго жыццёвы шлях і хутка выправіць у новае доўгае падарожжа.

### Загадкавая смерць

Міцкевіч памёр напярэдадні, 26 лістапада, каля дзявятай гадзіны вечара. Смерць была раптоўнай: бліжэй да паўдня яму моцна забалеў жывот, пасля стала лепей, потым прыйшлі дактары і сказалі, што прагноз дрэнны, а стан тым часам стаў зноў горшаць. Было падобна на тое, што гэта халера, якая развіваецца імкліва, а значыць, надзеі амаль няма (гл. пра гэтую хваробу, якую ў той час не ўмелі толкам лячыць, артыкул Андрэя Вашкевіча ў № 7/2019 «Нашай гісторыі»). Хвораму давалі лаўданум, папулярную ў XIX стагоддзі опіумную настойку, якая толькі крыху дапамагала зменшыць пакуты. Затое тут жа прыносілі новыя пакуты шматразовым расціраннем скуры. Без чвэрці дзевяць пачалася агонія, і неўзабаве жыццё паэта абарвалася.

Гэта прытым што з Парыжа ён з'язджаў на некалькі месяцаў раней здаровым чалавекам, а эпідэміі халеры ў Стамбуле ў гэты час акурат не было. Таму хутка пачалі шырыцца чуткі, што Міцкевіч быў атручаны — вінаватых шукалі то ў Пецярбурзе, то сярод саміх эмігранцкіх колаў палякаў. Аднак ніякіх доказаў гэтаму не знойдзена. Існуе верагоднасць, што чуткі пашырала само найбліжэйшае кола Міцкевіча, каб атрымаць дазвол на транспартаванне цела ў Еўропу замест таго, каб быць вымушаным хутка пахаваць яго на халерных могілках.

* **Чамара** — доўгая адзежына з рукавамі (часам кароткімі), шылася з сукна і ўпрыгожвалася на грудзях і на поясе шнуркамі.




**На месцы драўлянага дома, дзе памёр Міцкевіч, цяпер стаіць амаль такі самы каменны. З 1955 года ў ім музей.** Туркі любяць падкрэсліваць, што яны адзіныя не прызналі падзелаў Польшчы. Болей пра Стамбул чытайце ў артыкуле Максіма Маханькова ў № 6/2021 «Нашай гісторыі».




**Брытвы** Адама Міцкевіча.

**Шырыліся чуткі, што Міцкевіча атруцілі — вінаватых шукалі то ў Пецярбурзе, то сярод саміх польскіх эмігрантаў**

Папулярнасці чутак пра атручванне спрыяў і вобраз самога Прарока, якога бачылі нястомным вандроўнікам і змагаром за волю народаў, які ў тым ліку актыўна выступаў за ўзброеную барацьбу. Складана было паверыць, што ён памёр проста так, без дай прычыны, а не ў змаганні з ворагам.

У кожным разе смерць Міцкевіча дагэтуль застаецца загадкай і ўжо стала часткай ягонага міфа.

### Апошняя авантура

Калі абставіны смерці паэта падаваліся сучаснікам трывіяльнымі, то месца смерці як найлепей пасавала для завяршэння біяграфіі рамантыка, якому не знайшлося месца на радзіме. ▶

▸ Байран памёр у Грэцыі, Лермантаў — на Каўказе, Шэлі загінуў у Італіі, Славацкі і Гейнэ памерлі ў выгнанні ў Парыжы.

У верасні 1855 года Міцкевіч прыехаў у Турцыю, каб асабіста далучыцца да фармавання польскіх атрадаў, якія павінны былі ўзяць удзел у вайне супраць Расійскай імперыі. Гэтай справай тут ужо не адзін год займаўся іншы польскамоўны літаратар родам з Украіны, Міхал Чайкоўскі, больш вядомы як Садык-паша. Гэтае імя ён узяў пасля вымушанага прыняцця ісламу ў 1850 годзе. Дзейнасць ягоная мела поспех, і цягам некалькіх год ён здолеў сфармаваць два палкі султанскіх казакаў. У сваіх марах у адроджанай Рэчы Паспалітай Чайкоўскі бачыў сябе атаманам казакаў, а князя Адама Ежы Чартарыйскага, аднаго з лідараў польскай эміграцыі, — каралём.

У 1853 годзе пачалася Крымская вайна, якая падагрэла эмігранцкія надзеі на магчымасць пасунуць межы Расійскай імперыі на ўсход і вярнуць страчаную незалежнасць Польшчы. На гэтай хвалі сюды прыязджае Адам Міцкевіч, які спадзяецца сваім аўтарытэтам дапамагчы вярбоўцы і хоча сам узяць удзел у баявых дзеяннях.



**Князь Адам Ежы Чартарыйскі**, якога бачылі каралём адроджанай Рэчы Паспалітай.

WIKIMEDIA COMMONS

Для яго гэта ўжо трэцяя спроба ўключыцца ва ўзброеную барацьбу. У 1831 годзе ён гатовы перасячы пруска-расійскую мяжу, каб далучыцца да паўстання, але яно ўжо пачынае захлынацца, і паэт з'язджае ў Дрэздэн.

У 1848 годзе ў Рыме і Мілане Міцкевіч удзельнічае ў фармаванні Польскага легіёна, які мае ўзяць удзел у «Вясне народаў» і дапамагчы барацьбе за вызваленне Італіі. Аднак тут ён больш займаецца дыпламатыяй, і ў той момант, калі легіён удзельнічае ў баявых дзеяннях, паэт знаходзіцца ў Парыжы, дзе шукае фінансаванне для створанага атрада.

1855 год прыводзіць яго ў Турцыю. Міцкевічу ўжо 56 гадоў, і, магчыма, гэта ягоны апошні шанец далучыцца да ўзброенай барацьбы з Расіяй. Тут ён едзе ў лагер Садыка-пашы пад Бургасам, дзе жыве ў палявых умовах, катаецца на конях, палюе. Баявыя дзеянні ідуць на іншым беразе Чорнага мора, зусім непадалёк ад мясцін, апетых ім у «Крымскіх санетах», і скалы Аю-Даг, на якой маляваў яго Валенцій Ваньковіч.

Аднак убачыць іх другі раз яму не давядзецца. Удзел у баявых дзеяннях усё адкладаецца, набліжаецца зіма, у пачатку лістапада з двума таварышамі Міцкевіч перабіраецца ў Стамбул. Тут яны здымаюць дом ва ўдавы палкоўніка асманскіх войскаў пані Рудніцкай, дзе праз некалькі тыдняў паэту наканавана памерці.

### Хоць ты стаў зорачку

Калі сёння па-беларуску пішаш фразу «польскі паэт Адам Міцкевіч», то адчуваеш патрэбу паставіць у канцы яе зорачку і пусціцца ў шматслоўныя ўдакладненні. Пра тое, што ён «наш», супольны, што былі

WIKIMEDIA COMMONS



**Міцкевіч з Садык-пашою.** Карціна Юлюша Косака.

Наваградчына і «Свіцязянка», пра вершы ў перакладах, вывучаныя на памяць на ўроках беларускай літаратуры. Пра «Літва, мая Айчына», і тут ужо паставіць дзве зорачкі, і гэтак далей. Літоўская Вікіпедыя піша, што гэта «паэт з гістарычных земляў Вялікага Княства Літоўскага, які пісаў па-польску», беларуская — што гэта «польскі паэт беларускага паходжання».

**Былі Навагрудчына, і «Свіцязянка», і «Літва, мая Айчына»**

Жаданне «валодаць» Міцкевічам было яблыкам разладу і для колаў польскай эміграцыі адразу пасля яго смерці. Ні ў каго не выклікала сумневу, што паэт мусіць спачыць на радзіме, але, пакуль гэта было немагчыма, трэба было вызначыцца з месцам часовага пахавання.

Стамбульскія эміgranцкія колы хацелі пакінуць Міцкевіча ў сябе, пахаваўшы яго ў крыпце касцёла Святога Бенедыкта.

Генерал і граф Уладзіслаў Замойскі выступаў за тое, каб цела паэта было пахавана ў наваствораным пасяленні палякаў на беразе Басфора (гл. пра яго артыкул Сяргея Егарэйчанкі ў № 7/2019 «Нашай гісторыі»). Яно мелася атрымаць назву Адампаль. Над магілай Замойскі хацеў насыпаць курган на ўзор касцюшкаўскага ў Кракаве і нават пачаў збіраць на гэта грошы.

Аднак князь Чартарыйскі выказаўся супраць і выступіў за тое, каб пахаванне прайшло на польскіх эміграцкіх могілках Манмарансі ў прадмесці Парыжа. Спрэчкі і сваркі з гэтай нагоды, а таксама патрэба атрымаць неабходныя дазволы прывялі да таго, што забальзамаванае цела Міцкевіча ў трайной труне так і прастаяла больш за месяц у доме, дзе ён памёр.

Нарэшце 30 снежня вялікая працэсія выправілася з яго дома ў касцёл Святога Антонія, а адтуль, пасля адпявання, у порт, дзе труну пагрузілі на французскі параход «Еўфрат». 7 студзеня транспарт паспяхова прыбыў у порт Марсэля.

**Сваркі адносна таго, дзе пахаваць генія, прывялі да таго, што цела Міцкевіча больш за месяц прастаяла ў доме, дзе ён памёр**

### Паляк, суперпаляк

Чалавек змяняецца цягам жыцця — фізічна, але не ў меншай ступені ў тым, як ён бачыць свет і сябе ў ім. Паэт, памерлы ў Стамбуле, ужо не быў тым самым, ▶



ФОТА ГАННЫ ЗАВАРОНКА-АЛЕЙНІЧАК, PRZYJACIELEBPP.ORG

**Рэшткі стамбульскай труны** Адама Міцкевіча.

хто пісаў «Оду маладосці» ў Вільні ці «Пана Тадэвуша» ў свае бліскучыя раннія гады парыжскай эміграцыі. У апошнія пятнаццаць год жыцця ён амаль не ствараў мастацкіх тэкстаў, радкі больш не хацелі складацца ў строфы. Душа яго была захоплена іншым.

У 1840 годзе ў Парыж прыязджае польскі шляхціч з Літвы Анджэй Тавяньскі. Дома ён пакідае маёнтак, жонку і пяцярых дзяцей. Для такога ўчынку ёсць сур'ёзная прычына: ён адчувае сябе вядзёным Божай рукою і едзе выратоўваць свет. 27 верасня 1841 года ў саборы Нотр-Дам Тавяньскі гаворыць прамову, дзе выкладае асновы сваёй філасофіі. Палякі для яго — гэта Богам абраны народ, які захоўвае ў сабе дух праўдзівага хрысціянства і мае гістарычную місію — наблізіць надыход Царства Божага, а заадно дапамагчы вызваленню ўсіх славянскіх народаў.


**Адам Міцкевіч на скале Аю-Даг.** Карціна Валенція Ваньковіча.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ МУЗЕЙ У ВАРШАВЕ

## Кола Справы Божай хутка пачынае набываць рысы секты

Міцкевіч і дагэтуль выношваў месіянскія ідэі — ягоная публіцыстыка яшчэ ў Літве натхняла Тавяньскага. Таму паэт горача падтрымлівае агучаныя ідэі і фактычна становіцца другім чалавекам у коле Тавяньскага. 1 чэрвеня 1842 года афіцыйна ўтвараецца Кола Справы Божай, куды акрамя згаданых асоб уваходзяць Юліюш Славацкі, Зыгмунт Красінскі, Валянцін Ваньковіч і многія іншыя прадстаўнікі Вялікай эміграцыі.

Кола вельмі хутка пачынае набываць рысы секты: у ім распрацоўваюць сваю сістэму абрадаў, унутраную жорсткую іерархію, спрабуюць рэгуляваць прыватнае жыццё. Міцкевіча ў ім афіцыйна называюць Брат-Прарок. Кола рэгулярна збіралася ў касцёле Святога Севярына на левым беразе Сены, каля копіі абраза Маці Божай Вастрабрамскай, напісанай Ваньковічам, які там можна пабачыць і цяпер.

Праз некалькі месяцаў ад заснавання Кола Тавяньскі вымушана з'язджае ў Цюрых, а Міцкевіч становіцца яго старшынёй у Парыжы. Але ў 1846–1847 гадах ён разрывае адносіны з Тавяньскім, бо той асуджае ідэю ўзброенай барацьбы, блізкую Міцкевічу. Ад месіянства паэт, аднак, не адыходзіць. Слова «прарок» («вешч» па-польску), якое так часта ўжывалася да яго — гэта не метафара, яго атачэнне і ён сам так сябе ўспрымае. У 1848 годзе ў Рыме Міцкевіч піша *«Skład zasad»* — свайго кшталту духоўную канстытуцыю, дзе пяты пункт гучыць так: «Польскі дух — слуга Евангелля, польская зямля са сваім грамадствам — цела. Польшча ўваскрашаецца ў целе, у якім пакутавала і сто год

як пакладзена ў магілу. Польшча ўстае ў асобе вольнай і незалежнай і працягвае руку Славяншчыне».

## Слова «прарок» — гэта не метафара, яго атачэнне і ён сам так сябе ўспрымае

### Міцкевіч як Напалеон

Калі сектанцтва і крытыка Царквы раздражнялі ўлады духоўныя, то цывільныя ўлады найбольш былі заклапочаныя культам Напалеона, які актыўна прапагандаваў Міцкевіч. Яго пакаленне вырасла ў цяні міфа вялікага француза, а ў сталым узросце, папаўшы на месіянскія дрожджы, ён разросся ў галаве паэта ў паўбоства, якое не толькі выконвала сусветную місію, але непазбежна павінна было адрадзіцца зноў. Міцкевіч так быў захоплены вобразам імператара, так шмат казаў пра яго, што сучаснікі знаходзілі ў іх партрэтнае падабенства.

Прапаганда культу Напалеона стала прычынай страты Міцкевічам кафедры ў Калеж дэ Франс, важнай трыбуны, з якой ён мог трансляваць свае ідэі для шырокага кола інтэлектуалаў свайго часу. Апошні напісаны ім верш — гэта кароткая лацінская ода Напалеону III з 1854 года. Сярод іншага там гаворыцца, што «свет у табе славіць уваскрослага з труны вялікага дзядзьку» (Напалеон III быў пляменнікам Банапарта).

Асацыятыўная сувязь Міцкевіча і Напалеона была для сучаснікаў такой моцнай, што некалькі чалавек, што бачылі яго пасля смерці, пакінулі нататкі пра тое, што «рысы твару памерлага адразу пасля скону сталі надзвычай падобнымі да твару Напалеона. Усе прысутныя аднадушна заўважылі гэту дзіўную трансфармацыю».

### Сустрэча з жонкай

9 студзеня 1856 года Міцкевіч цягніком прыбывае ў Парыж. Але да пахавання праходзіць яшчэ дванаццаць дзён. Ён чакае сваю жонку Цэліну Міцкевіч.

Яны ўзялі шлюб у Парыжы ў 1834 годзе. Адам на той момант ужо быў суперзоркай польскай эміграцыі. Цэліна, дачка піяністкі Марыі Шыманоўскай, была яскравай і эмансіпаванай жанчынай, якая раздражняла кансерватыўныя колы эмігрантаў вольнасцю сваіх паводзін і выказванняў. Месіянства Міцкевіча знайшло добрую глебу і ў яе характары. У 1838 годзе яна аб’явіла сябе прарочыцай і ўвасабленнем Маці Божай, а таксама пачала сцвярджаць, што мае дар цудоўным чынам вылечваць людзей.

Уласныя месіянскія прэтэнзіі паўсталі перад Адамам нібы ў крывым люстэрку і хуткаператварыліся ў кашмар псіхічнай хваробы. Прарок завёў прарочыцу ў псіхіятрычны шпіталь, метады лячэння ў якім у той час мала адрозніваліся ад катаванняў.

## Прапаганда культу Напалеона стала прычынай страты Міцкевічам кафедры ў Калеж дэ Франс

Невядома, чым скончылася б гэтая гісторыя, каб у справу не ўмяшаўся Анджэй Тавяньскі. Ён здолеў пераканаць Цэліну Міцкевіч, што дзякуючы свайму дару вылечыў яе ад псіхічнай хваробы. Яе вера ў гэта была такой моцнай, што яна і сапраўды паправілася і да канца жыцця была адданай паслядоўніцай Тавяньскага.

Разам Цэліна і Адам Міцкевіч пражылі 21 год. Яна нарадзіла ▶




ФОТА ГАННЫ ЗАВАРОНКА-АЛЕЙНІЧАК, PRZYJACIELEBPP.ORG

**Адам Міцкевіч захоўваў медальён з валасамі Напалеона Банапарта (злева).** У зборах яго шанавальнікаў цяпер — і медальён з пасмай самога паэта (справа).

▸ шасцярых дзяцей і памерла 5 сакавіка 1855 года. На познім фотаздымку, зробленым за некалькі год да смерці, мы бачым жанчыну ў чапцы і ў карункавай блузцы, у шырокай спадніцы і ў доўгіх пальчатках, што захавала сваю прыгажосць. У яе лёгкая ўсмешка на вуснах і амаль гіпнатычны позірк.

## Жонка Міцкевіча ў 1838 годзе абвясціла сябе прарочыцай і ўвасабленнем Маці Божай




**Цэліна Міцкевіч.**

21 студзеня 1856 года Цэліну эксгумавалі з могілак Пер-Лашэз — і пара разам спачыла на могілках Манмарансі, уз'яднаўшыся яшчэ на 34 гады.

### Рэліквіі

Міцкевіч памёр, але культ яго пасля гэтага толькі расквітнеў. Так здараецца са святымі, а ягоны статус стаў ад гэтага недалёкім. Магіла стала месцам патрыятычных пілігрымак, сучаснікі пісалі пра яго мемуары, ягоны вобраз актыўна тыражаваўся, а вершы і паэмы выходзілі ў незлічоных выданнях.

Вялікая эміграцыя пацярпела паразу: спачатку ў 1831 годзе, пасля ў сваіх спадзяваннях на будучыя палітычныя змены. Гэта было пакаленне, якое ніколі не ўбачыла Рэч Паспалітую вольнай. Тым мацнейшай была яго прага да месіянства, да патрыятычных жэстаў і рытуалаў. У той палітычнай рэлігіі, у якую фактычна ператварыўся польскі нацыяналізм да сярэдзіны XIX стагоддзя, Міцкевіч займаў ключавое месца. І гэта рэлігія патрабавала сваіх рэліквій.

Пяро, якім ён пісаў у Стамбуле, яго брытва, чарніліца, візітоўніца, лісце з туганавіцкіх дрэваў, ружанец, зроблены для яго Марыляй Верашчакай, шлюбныя пярсцёнкі Адама і Цэліны, медальён з валасамі Напалеона, які захоўваў паэт, — і гэтак далей, гэтак далей. Гэта толькі частка міцкевічаўскага «рэлікварыя», які захоўваецца ў Польскай бібліятэцы ў Парыжы. Падобныя зборы можна знайсці і ў іншых буйных польскіх музеях.

Калі 27–28 чэрвеня 1890 года ў Парыжы была праведзена эксгумацыя цела Міцкевіча для перапахавання яго на кракаўскім Вавелі, парэшткі былі перакладзеныя для транспартавання ў новую труну. Тым часам прадпрымальныя трунары разрэзалі ранейшую металічную дамавіну на невялікія кавалкі і прадавалі іх усім ахвотным па паўфранка за штуку. У Польскай бібліятэцы ў Парыжы разам з іншымі рэліквіямі апынуліся ручкі і дрэва ад Міцкевічавай труны, фрагмент савана і жменя зёлак, якімі было пасыпана цела.

### Амаль вяртанне

Але галоўнай нацыянальнай рэліквіяй тут былі самі парэшткі




Ружанец, зроблены для каханага **Марыляй Верашчакай.**



**Стужка з пахавальнага вянка** ад наваградчан.



**Міцкевіч пахаваны ў самым сэрцы Кракава** — горада, у якім ніколі не быў.

паэта. Яны выправіліся ў новае падарожжа: праз Цюрых, дзе ў 1878 годзе спачыў Тавянські, і Вену ў Кракаў. Тут яго цела з усімі ўрачыстасцямі было перанесена ў крыпту кафедры на Вавелі, дзе яно спачыла ў адмыслова падрыхтаваным саркафагу. Дно саркафага выслалі пяском з Наваградка і з Нёмана. З Прарокам развітвалася ўся былая Рэч Паспалітая, з блізкіх і далёкіх куткоў прыбылі дэлегацыі, кожная са сваім вянком: 38 металічных і 337 з жывых кветак. Стужкі з апошніх сёння захоўваюцца ў Нацыянальным музеі ў Кракаве. Сярод іншага ёсць тут і адна з надпісам «Ад наваградчан іх кветкі, каласы і слёзы».

## Дно яго саркафага выслалі пяском з Нёмана і з Наваградка

Позні перыяд жыцця Міцкевіча хутка стаў сцірацца з калектыўнай памяці, можа быць, таму, што ад яго амаль не засталося літаратурных тэкстаў. Збольшага забылася і ягонае месіянства. У калектыўнай свядомасці ён з часам памаладзеў: застаўся то закаханым юнаком з наваградскіх ваколіц і Вільні, то рамантычным выгнаннікам са скалы Аю-Даг, то натхнёным аўтарам з ільвінай грываю валасоў з ранніх парыжскіх гадоў, калі ён дапісваў «Пана Тадэвуша». Застаўся, як на яго парыжскім помніку, у вобразе пілігрыма, які вечна вяртаецца на сваю родную Літву.

## Гэты момант не адрозны ад моманту экстатычнага натхнення — той мяжы, якой дасягае чалавек у рэдкія свае хвіліны



**Медальён, на якім Міцкевіч з заплюшчанымі вачыма**: ці то ў хвіліны натхнення, ці то смерці.

### Заплюшчаныя вочы

На кракаўскім саркафагу мы бачым яго партрэтны медальён, пазнавальны і тысячакроць паўтораны профіль з манет, медалёў, кніжных вокладак і карабкоў для запалак. Паэт у свае сталыя гады са спакойным усведамленнем зробленага і таго значэння, якое ён мае для польскай культуры, глядзіць у вечнасць.

Але ў Парыжы, на надмагіллі сям'і Міцкевічаў, захавалася ▸



НАЦЫЯНАЛЬНЫ МУЗЕЙ У КРАКАВЕ

**Міцкевіч-пілігрым.** Карціна Яна Стыкі, 1894 год.

▸ і яго іншая знакамітая выява. Яна была выканана вядомым французскім скульптарам Агюстэнам Прэо ў 1866 годзе і выклікала захапленне сучаснікаў: Віктора Гюго, Эміля Заля ды іншых. На ёй мы бачым Міцкевіча ў момант смерці: галава закінутая, а вочы заплюшчаныя. Але гэты момант не адрозны ад моманту экстатычнага натхнення — той мяжы, якой дасягае чалавек у рэдкія свае хвіліны. У гэтым і Міцкевіч-паэт, і Міцкевіч-містык, і чалавек, які ў апошні момант азіраецца на сваё надзвычайнае жыццё. Невыпадкова Гюго здзіўляўся таму, «як шмат у гэтай выяве жыцця», прытым што яна паказвае чалавека на парозе смерці. Ад гэтага медальёна, які актыўна тыражаваўся ў копіях, у іканаграфію Міцкевіча стала ўвайшоў яго вобраз з заплюшчанымі вачамі.

У Мінску таксама ёсць помнік Міцкевічу. Ён пастаўлены ў невялікім скверы на Гарадскім Вале, які носіць імя паэта. Да яго можна трапіць, збочыўшы з праспекта Незалежнасці на вуліцу Валадарскага. Прайсці міма некалькіх старых камяніц,ператворанай у тэатр Харальнай сінагогі, турмы, якая бачыла не аднаго паэта, вялізнага гмаха Інфармацыйнага цэнтра МУС і лякарні для дзяцей з псіханеўралагічнымі захворваннямі. Ці можна іншым шляхам збочыць з таго ж праспекта на Гарадскі Вал, міма будынка МУС, за якім яшчэ адна турма, гатэля і помніка гарадавому з царскіх часоў.

Так мы трапім у сквер. Тут, прысеўшы ў макінтошы каля зарослых папараццю ды іншымі травамі парэнчаў і падпёршы правай рукою галаву, Адам Міцкевіч заплюшчвае вочы. І мы разумеем чаму. ◆

ФОТА ВАЛЯНЦІНЫ АНДРЭЕВАЙ

**У Мінску таксама ёсць помнік Міцкевічу.** Ён пастаўлены ў невялікім скверы на Гарадскім Вале, які носіць імя паэта.

# Калі б Напалеон перамог у 1812-м — што ён прынёс бы на беларускія землі?

**Разважае Андрэй Скурко.**

Напалеона перамагла не столькі вайсковая сіла саюзнікаў, «зима, Барклай иль русский бог», як эканоміка. У 1813-м, пасля гібелі Вялікай арміі ў рускім паходзе, Напалеон мабілізаваў яшчэ адну такую ж. А ў 1814-м — яшчэ адну. І правёў дзве паспяховыя ў вайсковым сэнсе слова кампаніі, паклаўшы сотні тысяч людзей. Да ахвяр ён, дарэчы, ставіўся абыякава, людзі былі для яго сродкам дасягнення мэты — сусветнага панавання Францыі пад яго неабмежаванай уладай.

І ён ваяваў бы далей, але ўпёрся ў эканоміку. Рэсурсы краіны, супраць якой устала ўся Еўропа, вычэрпваліся: разрабаваныя войнамі суседзі не мелі грошай, каб купляць французскія тавары; англічане, галоўныя канкурэнты Францыі, старанна душылі Францыю фінансава; ад рэкруцкіх набораў край абязлюдзеў — у некаторых мясцовасцях не заставалася мужчын ад 17 да 70 год.

Калі б Напалеон перамог у 1812-м — што ён прынёс бы на беларускія землі? Ці даў бы свабоду сялянам, ці аднавіў бы Вялікае Княства Літоўскае? Тадэвуш Касцюшка, які не быў уладалюбцам і ўспрыняў у Амерыцы дэмакратычныя ідэі, не паверыў Напалеону і не захацеў з ім супрацоўнічаць.

## Касцюшка не паверыў Напалеону і не захацеў з ім супрацоўнічаць

Улада Напалеона для заваяваных краін была шэрагам абрабаванняў і кантрыбуцый, якія браліся бессістэмна — як толькі з'яўлялася патрэба. Як англічане Індыі, Францыя навязвала Еўропе свае тавары, каб дадаткова нажывацца на іх. У выпадку перамогі Францыя стала б еўрапейскай кантынентальнай імперыяй, а ўсе падуладныя — калоніямі. Узяць хоць бы той факт, што, сыходзячы, Банапарт пакінуў краіну з бездэфіцытным бюджэтам — і пры гэтым ваяваў 18 папярэдніх гадоў. Можна ўявіць, колькі ён выпампаваў з заваяваных.

Палітычным вынікам яго кіравання была рэстаўрацыя каралеўскай дынастыі Бурбонаў — тых, якіх французскі народ з такімі ахвярамі зрынуў. Яны былі, канечне, ужо не тыя, што ў часы абсалютызму, але развіццё краіны (і ўсёй Еўропы) гэта запаволіла.

Напалеон гатовы быў супрацоўнічаць з раялістамі, калі яны прызнавалі яго ўладу. Але якабінцаў ненавідзеў. Ён забараніў нават тыя газеты, дзе іх лаялі, каб ніякай згадкі не засталося пра падзеі, якія былі да яго прыходу да ўлады. І калі Францыю апанавалі інтэрвенты, імператар не меў, на каго абаперціся...

# Нашы продкі — з Дуная

**Успамінае родную гаворку, жыццёвыя прыгоды і разважае пра карані Віктар Губарэвіч. Ён жыве ў Брэсце, а нарадзіўся ў Вульцы Драгічынскага раёна.**

Хто мы такія? Хто нашы продкі? Яны заўжды тут жылі ці калісьці прыйшлі сюды? А як прыйшлі, то адкуль? Многія з цягам жыцця пачынаюць задаваць сабе гэтыя пытанні. Не прамінула такая доля і мяне.

Нарадзіўся я ў Драгічынскім раёне на поўдні Беларусі. Калі ў 1950 годзе пайшоў у школу, то, як і іншыя дзеці, адразу заўважыў, што мова, на якой гаварыў настаўнік, зусім не падобная да той, якой размаўлялі нашы бацькі, суседзі, усе жыхары нашай вёскі. Мы, дзеці, разумелі большасць беларускіх слоў, але нашай роднай, «матчынай» мовай усё ж была наша палеская гаворка: вусная, без сваёй пісьменнасці, граматыкі і нават азбукі. Нашу мову ў нас называлі «мясцовай».




**Драгічынскае Загароддзе** ў апошнія гады ператварылася ў ягадную сталіцу Беларусі.

У маёй вёсцы, якая называлася Вулька, школа была толькі пачатковая. У сямігадовую школу я пайшоў у суседнюю вёску Сыманавічы. Дзеці з гэтай вёскі размаўлялі на той жа гаворцы, што і мы. А вось дзеці з іншых суседніх вёсак, такіх як Ласінцы, Бялынь і Пярэспа, гаварылі па-іншаму. Так, на дзверы ў нас казалі *двэры*, а яны — *двары*, на мёд у нас казалі *мэд*, а яны — *мад*, лічэбнік «пяць» у нас вымаўлялі як *пьяць*, а яны — *пьець*, і г. д. Мы добра разумелі іх гаворку, але яна здавалася нам смешнай.

## На дзверы ў нас казалі двэры, а суседняй вёсцы — двары, на мёд у нас казалі мэд, а яны — мад

Пасля заканчэння школы-сямігодкі я пайшоў вучыцца ў тэхнікум. Там выкладанне ўсіх навучальных дысцыплін ішло на рускай мове. Выкладалі яшчэ нямецкую, а беларускай не было зусім. А пасля тэхнікума я па размеркаванні паехаў на ўсход Расіі і правёў там шэсць гадоў: у Якуціі, на Камчатцы, у Прымор'і. У сваю Беларусь я вярнуўся ўжо рускамоўным.

Калі я яшчэ жыў сярод якутаў, то адразу пачаў вывучаць іх мову. У свае 17 гадоў я ►

лічыў, што абавязкова трэба ведаць мову народа, на зямлі якога цяпер знаходжуся і сярод якога жыву. Тым больш што на тагачасным месцы жыцця і працы мяне атачалі толькі якуты. Рускую мову тады, на пачатку 1960-х, разумелі менш за палову іх.

Але праз паўгода мяне перавялі з таго месца, якое было побач з полюсам холаду, у іншае. Яно было непадалёк ад Якуцка, сталіцы аўтаномнай рэспублікі. Гэта ўжо быў буйны для Якуціі пасёлак, раённы цэнтр. Там была грамада рускіх і рускамоўных, чалавек, можа, з сорак. Гэта былі ў асноўным спецыялісты рознага кшталту, што, як і я, прыляцелі сюды па размеркаванні пасля навучання.

У пасёлку былі кніжная крама і бібліятэка. Я спытаўся там пра падручнік якуцкай мовы для рускіх. Такога ні ў кнігарні, ні ў бібліятэцы не было. Потым, калі я трапляў часамі ў Якуцк, то шукаў такі падручнік там. Але ж і ў Якуцку яго таксама не знайшоў. Было мноства разнастайных падручнікаў, дапаможнікаў па рускай мове для якутаў. І нічога не было для рускіх, каб яны маглі вывучаць якуцкую мову. Такой была моўная палітыка Масквы.

Большасць людзей, якіх прыслалі сюды з «вялікай зямлі» па размеркаванні, адпрацаваўшы свой тэрмін, варочаліся на захад. Але былі і такія, што заставаліся. Я пытаўся ў сваім пасёлку ў тых рускіх, якія жылі тут ужо па 8–10 гадоў, як яны вывучалі якуцкую мову. Адказ звычайна быў такім: «А зачем мне нужен этот их собачий язык? Пусть они изучают русский!»

З усёй рускамоўнай грамады якуцкую мову ведалі толькі некалькі чалавек. Вельмі слаба — я, беларус. Трохі лепей — загадчык звераферы, дзе гадавалі чорна-бурых лісаў, яўрэй. І добра валодаў ёю паляк па прозвішчы Пенёнжэк, які тут быў у ссылцы, ажаніўся з якуткай ды і застаўся ў гэтым халодным краі назусім. Я быў знаёмы з ягонымі дзецьмі.

Праз два гады мяне перавялі на Камчатку, а потым ва Уладзівасток. І цяпер, праз больш чым палову стагоддзя, у маёй памяці засталося не больш за сотню слоў з якуцкай мовы.

Потым, калі я ўжо зноў жыў на сваім родным Палессі, вывучыў украінскую, польскую, нямецкую мовы. Нямецкая прымаўка кажа: *«Wie viele Sprachen Du kennst, so viele Leben Du lebst»* («Колькі моваў ты ведаеш, столькі жыццяў пражывеш»). Калі чалавек валодае некалькімі мовамі, то ён разумее, што няма моваў добрых і дрэнных, моцных і слабых. Мовы бываюць проста розныя. І кожны чалавек на сваёй роднай мове мае поўную магчымасць выказаць усе свае думкі і пачуцці.




Больш пра Сыманавічы, Вульку і мясціны, апісаныя ў артыкуле, чытайце ў кнізе Сяргея Літвінкі і Віктара Губарэвіча **«Сыманавічы. Гісторыя адной палескай вёскі»**.

**Якуцкую мову ведалі толькі некалькі чалавек. Я, беларус. Загадчык звераферы, яўрэй. І паляк па прозвішчы Пенёнжэк, які тут быў у ссылцы і ажаніўся з якуткай**

Калі мне даводзілася бываць па службовых і асабістых справах у розных краінах, то мяне заўжды цікавіла мова, на якой там размаўляюць. Аднойчы я заўважыў, што ў Чарнагорыі і Сербіі мова падобная да той, на якой размаўлялі дзеці з суседніх з маёй вёсак Ласінцы і Бялынь. Гэта мяне вельмі здзівіла і зацікавіла.

У Чарнагорыі я кожны дзень купляў у кіёску мясцовую газету *«Vijesti»*, без асаблівых цяжкасцяў чытаў і разумеў яе змест. Купіў дэтэктыў на сербскай мове, чытаў яго без слоўніка свабодна. Чаму дэтэктыў? Тэксты ў дэтэктывах звычайна бываюць самыя простыя і лёгкія для разумення. Гэта я ўсвядоміў, вывучаючы




**Ураджэнец Сыманавіч Хведар Клімчук пераклаў на гаворку свайго сяла Новы Запавет.**

розныя мовы. З усіх славянскіх моў для мяне цяжкія для разумення толькі балгарская ды македонская.

Ужо ў пачатку III тысячагоддзя мяне пазнаёмілі з вельмі цікавым, вядомым у асяроддзі мовазнаўцаў чалавекам, Клімчуком Фёдарам Данілавічам. Гэта быў мой зямляк, паходзіў ён з суседняй вёскі Сыманавічы. Клімчук працаваў у Акадэміі навук і сур'ёзна займаўся палескімі гаворкамі. У час, калі ён пачынаў сваю працу, у пачатку 1960-х, на розных палескіх гаворках у Беларусі, Украіне і Польшчы размаўляла больш за 7 млн чалавек. Фёдар Данілавіч аб'ехаў практычна ўсё Беларускае Палессе, быў ці не ў кожнай вёсцы.

Па выніках гэтых навуковых пошукаў Клімчук склаў карту палескіх гаворак. Усяго ён вылучыў на брэсцка-пінскім Палессі чатыры асноўныя гаворкі:

– сярэднезагародская, на якой размаўляе больш за палову ад усіх палешукоў брэсцка-пінскага Палесся;

– паўночназагародская, у якой адчуваецца значны ўплыў беларускай мовы;

– тураўская, распаўсюджаная на гістарычнай Тураўшчыне, у тым ліку часткі цяперашняга Столінскага раёна;

– тараканская, на якой размаўляюць людзі ў вёсках даволі шырокіх ваколіц былога Тараканскага манастыра (цяпер вёска Імянін) у Драгічынскім раёне, а таксама ў некалькіх вёсках Столінскага і Кобрынскага раёнаў. На тараканскай гаворцы размаўляюць каля 5% усіх беларускіх палешукоў, у тым ліку і згаданыя мною жыхары вёсак Ласінцы і Бялынь.

Я для сябе высветліў, што мая матчына мова — гэта сярэднезагародская гаворка. Цікава, але нягледзячы на тое, што вёскі з тараканскай гаворкай месяцца ўсяго за кіламетр ад маёй, за шмат стагоддзяў іх мова з нашай не змяшалася. Пры змешаных шлюбах той з пары, хто пераходзіў з сужонцам на пражыванне ў іншую вёску, пераходзіў на іншую гаворку.

Мне стала зразумела, што мова Беларускага Палесся ні ад якой іншай мовы не запазычана. Гэта адна з самых старадаўніх славянскіх моў, асабліва яе тараканская гаворка. Палескія гаворкі захаваліся без вялікіх зменаў, магчыма, таму, што ў нашы багністыя раней мясціны складана было зайсці чужынцам. Ды і рабаваць тут не было чаго.

Адкуль гэтая мова да нас прыйшла, мне ўжо было зразумела. З поўдня, з Дуная. Я з ранняга дзяцінства любіў музыку і песні. Сам усё сваё жыццё спяваў і цяпер спяваю. Вялікае ўражанне на мяне аказалі тыя народныя песні, якія гучалі ў вёсцы на зажынках, дажынках, заручынах, вяселлях. Іх спявалі хорам, прыгожа.

Гэта былі розныя песні, у тым ліку і сучасныя. Але мяне асабліва цікавілі нашы абрадавыя песні. Яны вельмі і вельмі старыя, старадаўнія. Словы ў іх з'яўляюцца канонамі, іх нельга змяняць. І хоць змяняецца ўсё навокал, па-ранейшаму гучаць у абрадавых песнях такія выразы, як «сэрпом жала, слёзамі полывала», хоць зараз той серп многія ніколі і ў руках не трымалі, і ў вочы не бачылі.

**У нашым сяле запісалі 250 вясельных песень. У іх тэкстах ні разу не згадваюцца Волга, Дняпро, Вісла. Заўжды — Дунай**

Альбо аб тым, як муж паехаў у Крым чумаком па соль, хоць соль цяпер без праблем купляецца ў найбліжэйшай краме. Клімчук запісаў 250 вясельных песень, якія спявалі на нашай палескай гаворцы ў ягоных Сыманавічах. Па гэтых песнях можна ўявіць сабе наша вельмі даўняе мінулае. У іх тэкстах я ніколі не чуў назваў такіх рэк, як Волга, Дняпро, Вісла, Одра ці Лаба. Заўжды — Дунай. Ніколі ў іх не ўспамінаюцца Урал, Каўказ, Бяскіды, заўжды Карпаты.

У іх пяецца пра вінаград. Гэтая расліна ў нас пачала культывавацца толькі некалькі дзясяткаў гадоў таму. Раней у нас яго не было. Тым больш яго не магло быць на поўнач ад нашых мясцін. Вось з гэтага я і зрабіў для сябе выснову, адкуль прыйшлі на Палессе мае продкі. Той жа думкі, як аказалася, прытрымліваўся і Клімчук.

## Трэба расказваць гісторыю цалкам, а не напалову

Ехаў у метро і позірк кінуў на TV-экран, што вісіць пад столлю вагона.

Там у рубрыцы «Вуліцы нашага горада» паказалі фота Міхася Чарота. Побач быў кароткі допіс пра паэта, што працаваў у 1920-х гадах, удзельнік суполкі «Маладняк». І ўсё. Жудасны канец яго жыцця не ўзгадваўся, знакаміты верш на сцяне турмы таксама.

Мне стала ад гэтага сумнавата. Як быццам бы яго гісторыя расказаная напалавіну і спынілася перад кульмінацыяй.

Пакуль ехаў, пачаў узгадваць прозвішчы тых, хто сканаў у сталінскіх засценках і ўрэшце заслужыў вуліцу ў свой гонар: Уладзіслаў Галубок, Алесь Дудар, Жылуновіч, Галадзед, Чарвякоў, Тухачэўскі, Убарэвіч, Кузьма Чорны (вядома ж, забралі здароўе ў турме)...

Як жа так атрымалася, што іхнія каты яшчэ жывыя былі, а ў гонар слаўных людзей вуліцы называлі? Гэта супярэчнасць у галаве не змяшчаецца.

Пры адной і той жа ўладзе ты і закатаваная паскуда, выкрасленая з падручнікаў і памяці, і годны чалавек, варты назвы вуліцы ў сталіцы.

Твае нашчадкі ацанілі твой унёсак у станаўленне нацыянальнай культуры (Чарот, Дудар), але як ты загінуў і месца твайго пахавання ўслых называць не трэба.

Так і жывём спрэс супярэчліва ды па коле.

Дзякуй за часопіс. Адчуваю, што найбольш захапляюць, прынамсі апошнім часам, допісы пра ХХ стагоддзе, мабыць, праз гэта і думкі такія ды «Споведзь» Ларысы Геніюш на тумбачцы.

**З павагай да вашае справы,**
**Сяргей**

## Волачак на Мядзельшчыне

**У № 9/2021 кандыдат гістарычных навук Віктар Якубаў у артыкуле «Да Рыгі і назад» апавядае пра водныя гандлёвыя шляхі нашых продкаў.** Сярод розных маршрутаў узгадваецца: «Па Віліі, пратоках Нарачанскіх азёраў і Дзісне пралягаў стратэгічны батарыянскі шлях з Вільні на Полацк. У 1579 годзе і пазней па ім войска з цяжкой артылерыяй хадзіла абараняць поўнач і ўсход ВКЛ».

Між іншым узгадваецца і вёска ды станцыя Паравалачная ў Талачынскім раёне, дзе стругі перацягвалі (валачылі) з адной рэчкі ў другую. Вельмі падобны тапонім ёсць і ў нас на Мядзельшчыне — вёска Волачак. Месціцца яна якраз на самым кароткім сухапутным адрэзку паміж азёрамі Мядзел і Мястра, на якім цяпер размешчаны горад Мядзел (кажу «цяпер», бо першапачатковае паселішча ўзнікла на аднайменным возеры).

Дык вось, неаднойчы даводзілася чуць ад мясцовых доўгажыхароў пра паходжанне назвы Волачак ад слоў *валачы*, *цягнуць*. Яны, тыя доўгажыхары, распавядалі, што менавіта тут пралягаў сухапутны (валочны) шлях тых жа стругаў. Як і належыць падобнага кшталту аповедам, у розных варыянтах яны суправаджаліся рознага парадку падрабязнасцямі.

Дарэчы, адна з мясцовых версій пра паходжанне назвы возера Баторына паходзіць менавіта з часоў княжання ў ВКЛ/Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя.

**Вінцук з Мядзела**

# Кантынент Украіна

*Падарожжа ў краіну, дзе людзі захоўваюць аптымізм у любой сітуацыі*

**З Кіева на захад: па паўночнай Украіне, паралельна беларускай мяжы, праехаў Алесь Кудрыцкі.**

Дарога на Луцк з Кіева ідзе роўна следам за сонцам. Калі глядзець на мапу, то атрымліваецца гарызантальная лінія справа налева, у бок Польшчы. Яшчэ гэты шлях можна параўнаць з люстраным адбіткам Прыпяці — едзеш паралельна рацэ, толькі па ўкраінскай тэрыторыі і супраць цячэння.

Першая трацінa шляху ідзе па Кіеўшчыне, якая нагадвае паўднёвае Беларускае Палессе ля Мазыра. Але бліжэй да Жытоміра пачынаюцца пагоркі, парослыя лясамі, — і наваколле робіцца крыху больш падобным да цэнтральна-паўночнай Беларусі. Восень, і пагоркі проста залітыя жоўта-бурштынава-залатымі фарбамі. Іх разразаюць чырвоныя-чырвоныя палосы, нібыта хтосьці напляскаў фарбай — наколькі магу меркаваць на хуткасці здаля, гэта канадскі дуб, які ўвосень робіцца не залаціста-жоўтым, а глыбока чырвоным, амаль гранатавым. І ён мае лісцікі не скругленыя, як наш звыклы дуб, але з завостранымі кончыкамі, а таксама замест звычайных, падобных да выцягнутай кроплі жалудоў родзіць кругленькія пузатыя цэбрыкі з шырокай шляпкай-берэтам.

Шалёна прыгожыя гэтыя чырвоныя палосы сярод жоўтых пагоркаў, асабліва на сонцы.




**На фота: від з-пад замка ў Астрогу**, вотчыны князёў Астрожскіх і адбітку іх эстэтычных уяўленняў.

## Усё жывое

Закінутых вёсак, прынамсі ля большых дарог, не бачна. Усё вельмі жывое, драўляных хатак зусім няма (я бачыў толькі адну ашаляваную, як у нас — яна цалкам выбівалася з краявіду), а ўсё спрэс каменныя ці цагляныя дамы, атынкаваныя ці проста з тыповай украінскай рудой цэглы. Кладка часта складаная, імітуе на кутах і над вокнамі ўзоры, якія ў Беларусі звычайна робяць драўлянымі ліштвамі. На адной з цагляных хат у вёсцы выкладзена цэглай лічба 1936. Тры гады пасля Галадамору...

Большыя вёскі нагадваюць вялікія мястэчкі, раскінутыя па пагорках, — усё дамы, дамы, двухтрохпавярховыя, многія вельмі добрыя, дыхтоўныя, сучасныя. У мяне падазрэнне, што вялікую частку іх збудавалі сабе «зарабітчане», якія працуюць гадамі за мяжой, шлюць грошы дадому і будуюць сабе сядзібы, дзе мараць калісьці пажыць, як напрацуюцца і заробяць, колькі трэба. Але і мясцовая сельская гаспадарка дае добры даход, вёскі робяць уражанне заможнасці нават у змрочны восеньскі час.

Там, дзе ўкраінцы жывуць у прыватных дамах, трымаецца парадак. Недзе болей, недзе меней, але ў прынцыпе ўсё дагледжана — у тым ліку ўздоўж дарогі, на якую выходзяць сядзібы. Сметнікаў няма, усё чыста.

А вось там, дзе вёска вырастае да такіх памераў, што людзі пачынаюць перасяляцца ў кватэры, хоць бы і ў малапавярховых будынках, карціна зусім іншая. Тут ужо нярэдкія бруд і занядбанне.

У адной такой вёсцы — нягледзячы на тое, што ў ёй, як магу меркаваць, стаіць вялізны цукровы завод і пабудаваны фенаменальна вялізны сабор ва ўкраінскім стылі з мадэрнізаванымі купаламі ў стылі казацкага барока, — ходнікаў няма зусім, а замест іх нейкая каша з чорнага скрышанага асфальту і чарназёму. У нас бы гэты цукровы завод першае, што зрабіў, дык паклаў ходнікі ды пафарбаваў беленькай фарбай парапеты, каб было бачна начальству, якое пралятае па шашы з мігалкамі. Тут, аднак, гэта нікога не хвалюе. Грузавікі забіраюць той цукар, паркуючыся ўздоўж трасы проста пасярод вёскі, ды нішчаць коламі ходнікі, па якіх тупаюць, замешваючы нагамі бруд, дзеці ў школу.

## Дубовае войска

Траса ўваходзіць у вялізны дубовы гай, які здаецца бясконцым. Нават дзіву даешся, як змагло нарасці столькі дубоў! Цэлае дубовае войска. Дарога ідзе ўгару сярод гэтага залатога лесу, паварочвае, і раптам паабапал — дубовы кірмаш. На высокіх дубцах развешаныя, нібы святочныя ўпрыгожанні, венікі з дуба. І колькі ж іх — дзясяткі, а мо і сотні! Тут, пасярод гаю, відаць, стаіць вёска, а яе жыхары займаюцца тым, што вяжуць венікі з дуба ды прадаюць іх каля трасы. Едзеш, а траса абвешаная з усіх бакоў бясконцымі вязкамі тых венікаў, абкручаных у пластыкавыя пакеты, якія матляюцца на ветры — відаць, каб не пыліліся ад машын.

## Мірнае суіснаванне помнікаў

Як і ў нас, тут бачна, што ты заехаў у іншую вобласць, па тых вялізных бетонных знаках уздоўж дарогі з назвай рэгіёна. Але я заўважыў, што ва Украіне ▶




**Каларыт украінскай эстэтыкі** на прыпынках.

▸ вобласці — гэта ўсё-такі не проста чыста адміністрацыйныя ўтварэнні, як у Беларусі. Яны і сапраўды неяк адрозніваюцца адна ад адной. У іх трошкі розныя парадкі, свая міфалогія.

Напрыклад, Ровенская вобласць прамаркіраваная як «паўстанцкі край». І сапраўды, тут перыядычна на падворках сустракаюцца салідныя флагштокі з чорна-чырвонымі «бандэраўскімі» сцягамі. Часцяком пад імі трапляюцца крыжы, мемарыялы памяці тых, хто загінуў у гэтых мясцінах, змагаючыся за незалежнасць. Пры гэтым помнікі савецкім салдатам таксама дагледжаныя, шчодра памаляваныя белай ці бронзавай фарбай. Але то помнікі героям вайны, а не Леніны з Калінінамі — такіх нідзе па дарозе не трапляецца.

### Логіка крывізны

На ўездзе ў Луцк радыё ловіць Першы канал Польскага радыё, па якім ідзе радыёспектакль. На ўездзе ў горад шыльда на ўкраінскай і польскай мовах «Вітаємо у Луцьку/*Witamy w Łucku*». У восеньскім змроку навігатар вядзе па шырокай дарозе сярод прыватных сядзібаў, але потым шлях зноў губляецца ў цемры і тумане. Толькі пасля разумееш, што ехаў вуліцай па высокім, пароcлым дрэвамі беразе шпаркай ракі Стыр, паўтараючы яе выгін.  На перакрыжаванні справа застаецца мадэрновы цэнтр горада, а злева цябе сустракае Стары горад — соннае мястэчка, слаба асвечанае цёплымі жоўтымі ліхтарамі. Але ж якое знаёмае! Як тут не ўсміхнуцца і не паехаць павольней.

**Луцк** — адміністрацыйны цэнтр Валынскай вобласці Украіны. У ім жыве каля 220 тысяч чалавек. Самая значная памятка ў горадзе — замак Любарта, які ў свой час стаў сімвалам новай улады — Вялікага Княства Літоўскага.

Стары горад у Луцку нагадвае Навагрудак, Ваўкавыск ці любы стары цэнтр мястэчка, які складаўся яшчэ за часамі ВКЛ. Такія самыя мураваныя камянічкі з маленькімі крамамі. Тая самая логіка вуліц, якія перасякаюцца не пад простымі кутамі, а судакранаюцца, як бы паўколамі, і абавязкова на перасячэнні трох вуліц утвараюць плошчу няправільнай, трохкутнай формы. А ў цэнтры гэтай павуцінкі мусіць быць — абавязкова! — замак. Калі



**Луцк.** Панарама горада з боку ракі Стыр. Гістарычная частка горада ляжыць у выгіне ракі, нібы на вялікім паўвостраве.

**Быў бы іншы час, то можна было сесці ў човен проста ля сінагогі і па Стыры, па Прыпяці даплыць на радзіму**


АЛЕСЬ КУДРЫЦКІ

**Сінагога ў Луцку** нагадвае аналагічныя абарончыя сінагогі-сёстры ў Беларусі, напрыклад у Быхаве.

ўзгадаць, то часта плошчы ў старых гарадах, асабліва маленькіх, няроўныя, думаю, гэта таму, што яны арганічна склаліся на перасячэнні старых шляхоў, якія ніхто не планаваў з генпланам, проста людзі будаваліся і ездзілі, як ім зручней. Так і тут, у Луцку. Вось і трохкутная маленькая ўтульная плошча, якая трошкі нагадвае крыху занядбанае Траецкае прадмесце, а на ёй — мікраскапічны скверык з дрэвамі ды парай садовых услонаў.

## Луцк і Наваградак, Луцк і Быхаў

Як гэта ўсё было родна і знаёма! Асабліва ў такім цёплым жоўтым вечаровым святле. Асабліва моцна адчуваецца кантраст з Кіевам — мегаполісам, сучасным Канстанцінопалем, горадам гарадоў. А стары Луцк — маленькі магдэбургскі гарадок.

З цемры і туману выплывае кубічны гмах, пазірае сваімі вокнамі-байніцамі і круглымі вакенцамі-дзірачкамі, і побач вежа з рэнесансавым дэкорам. Прапорцыі проста дасканалыя! Вялікая сінагога. Адразу прыгадваюцца абарончыя сінагогі-сёстры ў Беларусі, асабліва ў Быхаве. Дзе Быхаў, а дзе Луцк? Але ж які аднолькавы, знаёмы стыль!

Раніцай робіцца зразумела, што сінагога рэстаўруецца, а да яе дабудаваны корпус спартзалы таварыства «Дынама». Гучыць даволі трэшова, але на самай справе прыбудова вельмі густоўная, цалкам у стылі сінагогі. Трошкі далей, калі прайсціся ўніз па падворку, трапляеш на пясчанае ўзбярэжжа Стыра. Гэта такая невялікая, але хуткаплынная рака, па якой плывуць жоўтыя лісцейкі з навакольных дрэваў. Паводле карты, яна бяжыць у бок беларускай мяжы, дзе злучаецца з ракой Простыр, потым упадае ў Прыпяць, дабягае да Пінска. Быў бы іншы час, то можна было б сесці ў човен проста ля сінагогі і, праз радзіму, па Прыпяці і Дняпры, вярнуцца да месца старту вандроўкі ў Кіеў.

## Шакуючы замак

Для чалавека, звыклага бачыць напаўразбураныя муры часоў ВКЛ, сустрэча з Луцкім замкам можа зрабіцца сапраўдным шокам. На выездзе са Старога горада на шырокім перакрыжаванні адкрываецца панарама на тытанічны замак з трыма вежамі з зубчастым дэкорам. Унізе мітусяцца людзі, нагрувашчаныя маленькія ▶


АЛЕСЬ КУДРЫЦКІ

**Старое места ў Луцку не турыстычнае, не рафінаванае**, а нават крыху бязлюднае і прывіднае. На вуліцах, якія кружляюць каля замка, жывуць людзі, а вось крамаў ці рэстарацыяў вобмаль. Тут ціха, чуваць і крокі людзей, і птушкі, і як вецер дзьме — нібы ў вёсцы.




Менавіта ў Луцку сабраў еўрапейскіх манархаў **Вітаўт наш Вялікі.**

▶ буданы і кіёскі, крамкі — віруе вялікі рынак. А над усім гэтым вісіць у паветры замак. Чыстае Сярэднявечча!

Цяжка адарваць вачэй ад замка. Бадай, падобна выглядаў наш замак у Наваградку. Хто б мог падумаць, што я пабачу ягонага «родзіча» ў Луцку, ды яшчэ і ў такім цэласным аўтэнтычным выглядзе.

### Жолуд, старэйшы за дрэва

Гістарычная частка горада ляжыць у выгіне ракі Стыр, нібы на вялікім паўвостраве. Вікіпедыя не дае яснай карціны паходжання гэтай назвы, але чалавеку, які валодае нямецкай мовай, яна лёгка счытваецца як «Бык» (*Stier*). Хто ведае, можа, гэта і сапраўды спадчына германамоўных готаў, якія праз Берасцейшчыну і Валынь ішлі ў свой час у Крым, у Прычарнамор'е? І сапраўды, невялікая, але вельмі энергічная рака абхапіла горад у паўкола, нібы пасадзіла на лоб паміж рагоў.

Нечаканая рэч, якую разумееш пра Луцк, — гэта на самай справе тры гарады з розных эпох. Калі ў Беларусі гарады перабудоўвалі паверх разбуранага, то тут, здаецца, кожныя новыя ўлады будавалі не замест старога, а побач. Гэта ператварыла Луцк у штосьці накшталт машыны часу, дзе можна пешкі зрабіць экскурсію, якая будзе пераносіць вас з адной эпохі ў іншую. Прычым гэта не нейкія аскепкі, а сапраўды тры паўнавартасныя асобныя гарады.

Візуальна можна параўнаць Луцк з галінай дуба. Ад роўнай шырокай галіны праспекта Волі, адбудаванага за апошнімі саветамі, адыходзіць больш гнуткая вуліца Лесі Украінкі — гэта міжваенны горад у стылі польскага функцыяналізму, а з яго, як вялікі жолуд, звісае Стары горад часоў Вялікага Княства, у цэнтры якога — замак. І вось у гэты буйны жолуд упіраецца сваім ілбом «бык» Стыр. Параўнанне, канечне, кульгавае, бо жолуд старэйшы за дрэва, на якім ён трымаецца.

### Дворыкі, аплеценыя вінаградам

Сярэднявечны горад — гэта як павуцінка, па якой трэба караскацца ў самы цэнтр. Ён моцна адрозніваецца, напрыклад, ад тыповай забудовы гарадоў за часамі апошніх стагоддзяў царскай Расіі, дзе вуліцы праводзілі паралельна, утвараючы квадраты-кварталы.

Блукаць па Старым горадзе ў Луцку — сапраўдная асалода для інтуіцыі. Невысокі, з разнастайнымі дамкамі, прапахлы вугальным дымам з комінаў. Паварочваеш у завулак — і раптам ён адкрываецца на востры шпіль кірхі, ці на сабор, ці на вежу замка. Што ні паварот, то нейкі сюрпрыз.




Паварочваеш у завулак — і раптам ён адкрываецца **на востры шпіль кірхі, ці на сабор, ці на вежу замка.**

## Блукаць па Старым горадзе ў Луцку — сапраўдная асалода для інтуіцыі

Пры гэтым Старое места не турыстычнае, не рафінаванае, а нават крыху бязлюднае і прывіднае. На вуліцах, якія кружляюць каля замка,



жывуць людзі, а вось крамаў ці рэстарацыяў вобмаль. Тут ціха, чуваць і крокі людзей, і птушкі, і як вецер дзьме — нібы ў вёсцы. Здаецца, жыццё перамясцілася ў іншую частку горада (што, як пазней разумееш, так і ёсць).

На адным з будынкаў вісіць шыльда: тут у дзяцінстве жыла Леся Украінка, калі была дзяўчынкай, а вокны кватэры выходзілі на бакавы фасад каласальнага езуіцкага калегіума. Калі чалавек расце ў такой атмасферы, у ім міжволі развіваецца пачуцце прыгожага.

Пад мурам калегіума — рознакаляровыя дзверы буданчыкаў-склепікаў, якімі карыстаюцца людзі з дома насупраць. Тут нешта сярэдняе паміж вёскай і горадам: ля пад'езда людзі зрабілі сабе маленькія дворыкі, аплеценыя вінаградам, паставілі ўслоны. У адной з двухпавярховых кватэрных камяніцаў адчыненыя дзверы пад'езда — можна зазірнуць і для цікавасці падняцца па сцёртых сходах, якія такія старыя, што не проста рыпяць, а стогнуць пад нагамі.

Каля катэдры Апосталаў Пятра і Паўла атмасфера



АЛЕСЬ КУДРЫЦКІ

З драўлянай балюстрады, адкуль адкрываецца шыкоўны від на абедзве вежы, са здзіўленнем заўважаеш, што **проста на замкавым падворку растуць яблыні.**

вельмі падобная да Нясвіжа каля Фары. Насупраць яго каласальная арка-каланада. Вельмі ўсё ўрачыста і з вялікім маштабам. Недзе ў інтэрнэце бачыў, што першапачаткова касцёл быў падобны да нашых абарончых храмаў, накшталт таго, што ў Мураванцы. Ну а цяпер гэта такая рэнесансная будова, нібыта проста з Рыма.

Побач з былым кляштарам брыгітак — помнік чатыром тысячам вязняў турмы, якіх энкавэдзісты расстралялі ў першыя дні вайны. Зняволеных не паспявалі вывезці і спехам знішчылі.

### Яблыня Вітаўта

Замак цэласны і жывы. Нават не зразумела, што тут было адрэстаўраванае, а што аўтэнтычнае. Цікава глядзець, якая розная кладка ў мурах. Відаць, везлі цэглу ад розных

▶ пастаўшчыкоў — нехта халтурыў (тыя-іншыя слаі кладкі моцна выветрыліся), а іншыя пастаўлялі высакаякасную цэглу, якой за стагоддзі не зрабілася нічога. Часам трапляюцца палосы жоўтыя, часам карычневыя, а некаторыя чырвоныя, з-за чаго муры выглядаюць як слоены пірог.

## У беларускіх замках я б абавязкова пасадзіў на падворках па яблыні

У двары таксама ўсё жыва: расце трава, брукаваныя дарожкі, усё так зроблена без залішніх прыдумак і ашчадна, але затое вельмі натуральнае. Можна ўзняцца на драўляныя балюстрады і агледзець горад з вышыні. Усе драўляныя элементы змайстраваныя грунтоўна, але не станкамі, а, відаць, рубленыя ўручную, не ідэальна, а таму таксама выглядаюць вельмі натуральна.

Як ні дзіўна, а і дагэтуль замак застаецца адным з самых высокіх збудаванняў у Луцку. А калі зірнуць у бок кірмашу з яго хаатычнымі намётамі і бляшанымі кіёскамі, то лёгка ўявіць сабе, што пад мурамі стаіць табарам варожае войска, на якое можна глядзець скрозь байніцы. Тыя — сапраўдны твор інжынернай думкі. Калі стаяць ад іх на пэўнай адлегласці, то бачная толькі шчылінка. А падыдзеш бліжэй — так, каб можна было прасунуць у іх стрэльбу, — то адкрываецца вельмі зручны агляд уніз. Максімальны кут для абстрэлу з твайго боку і мінімальны — для нападнікаў знізу.

З драўлянай балюстрады, адкуль адкрываецца шыкоўны від на тры вежы, са здзіўленнем заўважаеш, што проста на замкавым падворку растуць яблыні.

І так жыва ўяўляецца, як тут ідзе Вітаўт, зрывае сабе жоўтую папяроўку ды са смакам кусае. Як прыгожа мусіць быць у замку ўвесну, калі яблыні зацвітуць!




**Байніцы** — сапраўдны твор інжынернай думкі.




**Туалеты на замкавай сцяне** былі тыповымі для замкаў таго перыяду. Добрае месца для закулісных перамоў?

Нездарма Луцк, як пішуць, быў любімай Вітаўтавай рэзідэнцыяй. Тут усё такое цёплае і больш паўднёвае, не тое, што строгая, зацягнутая туманамі Вільня.

Калісьці варта будзе зрабіць Луцк абавязковай праграмай для беларускіх школьнікаў для экскурсій: як ні парадаксальна, а пазнаёміцца з асяроддзем ВКЛ у гэтым горадзе можна так эфектыўна, як бадай нідзе ў Беларусі. А ў беларускіх замках я б абавязкова пасадзіў на падворках па яблыні, можа, нават узяўшы галінку для прышчэпкі з той самай яблынькі ў Луцкім замку.

### Дзяцінства пад мурамі

Вакол замка ідзе колам вуліца з прыватнымі сядзібамі. Каля адной брамкі сабраліся дзеці:




**Мадэль замка** дае магчымасць сляпым людзям зразумець яго выгляд. Дзецям таксама цікава.

прыйшлі ў госці да дзяўчынкі, а яна з імі размаўляе цераз плот (высокія глухія агароджы тут не ў модзе). Карцінка — нібы з кніжкі Астрыд Ліндгрэн. Над самой хатай, якая стаіць сярод дрэваў, узвышаецца брамавая вежа замка. Правесці тут дзяцінства — гэта сапраўдны жыццёвы скарб. Сумна не будзе дакладна.

А далей, каля іншай вежы, яшчэ адзін, але гэты ўжо, відавочна, калектыўны. Ці не карысталіся ім пасольствы падчас спробы каранацыі Вітаўта, каб правесці важныя закулісныя перамовы за важнай справай?

Тая самая чародка дзяцей з сядзібы каля замка бегае, дурэе каля самай уваходнай брамы, а за імі гойсае, высалапіўшы язык, сабачка. Ужо цямнее. Да замка сходзяцца невялічкія кампаніі моладзі, нягучна гутараць пра нейкія свае справы пры святле ліхтароў.

## Правесці тут дзяцінства — гэта сапраўдны жыццёвы скарб

Вартаўнік выпускае мяне апошняга і з глухім ляскам зачыняе цяжкую, абабітую жалезнымі палосамі браму. Я абарочваюся на вежу, якая жаўцее ў святле ліхтароў. Дзіўна: калісьці ў гэтым замку ішло жыццё, гатавалася ежа, гасцявалі госці, уначы хадзіла варта, свяціліся паходні ў байніцах. А цяпер ён апусцелы, на ноч тут застаецца адзіным гаспадаром той самы вартаўнік. Замак, а за ім і Стары горад пагружаюцца ў ранні сон. ▸

## Высокіх глухіх агароджаў тут нідзе няма

Проста са сцяны замка, каля Свідрыгайлавай вежы, тырчыць на вялізнай вышыні драўляны дамок — наколькі магу меркаваць, старасвецкі замкавы клазет. Каналізацыя па прынцыпе вольнага палёту — а калі ўнізе вораг, дык свайго роду біялагічная ўдарная зброя.




**У дворыках Луцка** здаецца, што час спыніўся ў XX стагоддзі.

## Варэнікі з сырам украінскія

Гэта адна з дасканалых страў сусветнай кухні. Проста і здарова.

Для цеста бярыце ў прапорцыі

- Вада 150 мл
- Мука пшанічная вышэйшага гатунку 250 г
- Соль 0,5 чайнай лыжкі

Для начынкі

- Тварог (раней тварог у Беларусі і Украіне называлі сырам, таму і замацавалася назва: варэнікі з сырам)

Начынку можна рабіць як салодкую, з цукрам, так і вострую — з чорным перцам. А можна і востра-салодкую — з перцам і цукрам. У тварог можна дабаўляць і любыя ягады, а можна — духмяныя травы.

Старанныя гаспадыні муку прасейваюць. Ваду — лепш, каб



яна была пакаёвай тэмпературы — уліваюць у ямачку ў сярэдзіне мукі. Туды ж усыпаюць соль. І паступова лыжкай размешваюць, каб мука ўбірала ваду.

Калі маса стане камяком, перакладзіце яе на пасыпаную мукой паверхню і, мнучы рукамі, скачайце мяккае, але эластычнае цеста. Па кансістэнцыі яно павінна быць такое, каб не ліпла да рук.

Пакладзіце яго назад у місу, накрыйце ручніком і пакіньце на 15–20 хвілін.

Гатовае цеста раскачайце, некаторыя любяць яго больш тонкім, некаторыя — таўсцейшым.

Наразайце кубкам на кругі.

Кладзіце начынку ў сярэдзіну круга і зляпляйце.

Гатовыя варэнікі кладуць у кіпячую ваду і вараць на малым агні пры адкрытай накрыўцы, каб кіпела, але не каляхавала. Вараць, пакуль яны не ўсплывуць, і яшчэ пару хвілін пасля ўсплыцця. Невялікія варэнікі — каля 5 хвілін, калі вы наляпілі вялікія — трохі больш.

Гатовыя варэнікі дастаюць шумоўкай і ў талерцы на іх адразу кладуць трохі масла, каб яны не зліпліся.

Варэнікі з вострай начынкай падаюць з маслам, ці з маслам і смятанай, ці засмажанымі цыбуляй ці скваркамі.

Салодкія варэнікі — з маслам, смятанай ці ягадамі.

Варэнікі можна і замарожваць на запас. Яны мала горшаюць ад гэтага.

### Міжваенны горад

Як я і казаў, Стары горад нібы жолуд, які вісіць на галінцы міжваеннага Луцка, змураванага за часамі польскай улады паміж дзвюма сусветнымі войнамі. Як бы і не дужа доўгі перыяд, але ж які моцны след ён пакінуў. Гэтае «міжваеннае» места нанізанае на пешаходны брукаваны бульвар — вуліцу Лесі Украінкі. Тут ужо нашмат жывей, чым у Старым горадзе. Гуляюць людзі, грае вулічны музыка, свецяцца вітрынамі маленькія крамы на першых паверхах характэрных дамоў-кубікаў з геаметрычна простымі, але элегантнымі жалезнымі парэнчамі на гаўбцах. А калі збочыць з бульвара, то ўвесь час трапляеш на камерныя плошчы са скверыкамі. У дворыках утульна і па-хатняму — такое ўражанне, што зайшоў у госці.

Ля абменніка жанчына сярэдняга веку і маладзейшы хлопец стаяць купіць злотыя і аплаціць збор для пасольства. Усе едуць у Польшчу на працу. Сышліся на тым, што добра ведаць украінскую ці беларускую — польскую лёгка зразумееш. А хто ўмее толькі па-руску — таму складана. Хлопец са здзіўленнем кажа, што ведае беларусаў, якія па-беларуску ні бум-бум. Цікава, што пішуць, што ў 2014 годзе праводзілі апытанне, дык выявілася, што Луцк і Роўна самыя ўкраінамоўныя ва ўсёй краіне. У Луцку сказалі, што гавораць дома ўкраінскай 97%.

Вуліца Лесі Украінкі выходзіць на шырокі пляц, дзе стаіць праваслаўны кафедральны сабор, які некалі быў касцёлам. Насупраць — тэатр у савецкім стылі і зіхціць шклом ды ліхтарамі абноўлены савецкі ЦУМ з «Пузатай хатай» на апошнім паверсе (самае таннае месца для таго, каб смачна ды сытна, па-хатняму павячэраць).

Адсюль, з плошчы, убок направа пачынаецца праспект Волі — несумненна, дагэтуль



Увесь мой шлях прайшоў па вельмі добрым — а часам і ідэальным — асфальце.

АЛЕСЬ КУДРЫЦКІ

гэта быў праспект Леніна. А за сваю гісторыю, па сумнавядомай з Беларусі традыцыі, вуліцу пераназывалі трынаццаць разоў — адпаведна з кожнай новай уладай.


АЛЕСЬ КУДРЫЦКІ

**У перспектыве Крэменец можа стаць проста дыяментам** — калі ён напоўніцца нейкай новай культурай, калі пачнуць замяняць пачварныя безгустоўныя шыльды на штосьці больш далікатнае і з мясцовым каларытам, калі трошкі хацяб б прычэшуць ды ўладкуюць ходнікі.

### «Савецкі горад» і Ганна Кіеўская

Савецкая частка горада, якая ідзе ўздоўж праспекта Волі па высокім доўгім пагорку ўздоўж Стыра, не ўтварае дысанансу. Як ні дзіўна, нават «сталінскія» будынкі тут захоўваюць сувымернасць і стылістычна набліжаныя да своеасаблівага рэнесанснага стылю дзякуючы арыгінальнаму дэкору ды высокім вальмавым дахам.

На праспекце шмат добрых кавярняў, асабліва ў ваколіцах універсітэта, які займае цэнтральную плошчу, што глядзіць на вялікі парк, які спускаецца да ракі. У адным з унутраных дворыкаў, сярод дрэваў, стаіць маленькі помнік крохкай дзяўчынцы ў кароне. Аказалася, гэта Ганна Кіеўская, якая потым зрабілася каралевай Францыі. Пры гэтым яна была з Рурыкавічаў, а роднай мовай для яе была шведская, мова маці... Помнікі ёй ставяць на шляху з Кіева ў Францыю, і гэта адзін з іх. А побач, у пляме бурштынавага святла пад ліхтаром, маленькія дзяўчаткі такога самага ўзросту гуляюцца, збіраючы і раскідаючы жоўтае лісце з клёнаў, нібы маленькія феі ў цемры.

### Заходняя Валынь — шахцёрскі край

Калі паехаць на поўдзень ад памежнага з Польшчай маленечкага Усцілуга, з яго дзяўчатамі-ўкраінкамі з калашнікавымі на блокпосце, то трапляеш у зусім іншы край. За Нававалынскам на даляглядзе трапляюцца пагоркі, разварочаныя нейкай нечалавечай сілай. Нібыта хтосьці ўзяў і гіганцкім шуфлем зрэзаў гару напалову — дрэвы стаяць ля абрыву і са страхам пазіраюць уніз. Гэта не Данбас, але таксама шахцёрскі край.

Перыядычна трапляюцца шахты з чорнымі жалезнымі вежамі пад’ёмнікаў, а таксама пачынаюцца шахцёрскія дачы — бяскрайнія паселішчы, нарэзаныя на маленечкія надзельчыкі, хіба па пары сотак, на якіх стаяць, як кубікі, такія самыя мініяцюрныя дамочкі. Дзіву даешся: пры ўсёй бяскрайнасці Украіны чаму так шкадавалі людзям зямлі? Далі б ужо болей, чым гэтыя лапікі (па-ўкраінску гэтае слова, дарэчы, гучыць як «клаптык»).

Раз-пораз на перакрыжаваннях ля напаўразваленых часовых буданоў трапляюцца гурбы вугалю, з якіх ідзе продаж ураздроб. На ўзбочцы дарогі — каша з разбітага асфальту, глебы і чорнай вугальнай крошкі, якая пад дожджыкам ператвараецца ў сапраўднае месіва. Мястэчка Востраў — кульмінацыя безнадзеі, сапраўдная выспа брутальнай індустрыяльнай дэпрэсіі.

**Крэменец** — горад на Цярнопальшчыне. У ім жыве 20 тысяч чалавек. На крутой гары тут стаіць крэпасць, заснаваная яшчэ ў дакіеўскія часы. Яна была адзінай на Русі, якая вытрымала аблогу манголаў Батыя. Тут нарадзіўся Юліюш Славацкі.

### Крэменец

Калі Луцк нечакана выявіўся інтуітыўна вельмі родным, то іншы горад, Крэменец, аказаўся цалкам незнаёмым і незвычайным асяроддзем. Нейкая гадзіна язды — а тут усё інакшае.

Ходнікі ў вёсках паабапал трасы тут пасыпаныя светла-жоўтым каменным друзам. І тут — раз! І на гарызонце, нібыта хтосьці намазаў фіялетавую фарбу на вялікі палец і правёў шырокія мазкі, з’явіліся горы! Яшчэ ▶

▶ не сапраўдныя горы, але ўжо і не пагоркі, а грэбні ў фіялетавай дымцы.

Па дарозе трапляюцца прыгожыя вобразы. Вось вялізны дуб у некалькі ахопаў з ідэальна сіметрычнай жоўтай кронай, нібы піраміда. Камель абведзены кольцам бляклай белай фарбы — пазнака, каб не ўразаліся машыны. Пад ім ідзе бабуля ў хустачцы і нясе ў кошыку яблыкі. За ёй вёска, над якой купалы царквы ў тыповым украінскім барочным стылі, а далей пачынаецца густы бор.

Потым дарога ідзе праз гай, зямля пад якім засланая, нібы россыпам залатых манет, апалым лісцем. Калі глядзіш у глыб гэтага гаю, то ён здаецца вялізнай залай з шэрымі калонамі, межы якой губляюцца ў паўзмрочнай глыбіні.


АЛЕСЬ КУДРЫЦКІ

**Крэменец — адзіны са старажытнарускіх гарадоў, які не змаглі ўзяць манголы Батыя.** Каменны замак ім аказаўся непрыступны. Навала Батыя дала штуршок масаваму будаўніцтву каменных замкаў у Венгрыі і па ўсёй Усходняй Еўропе.

Дарога пачала крыху матляцца з боку ў бок, абыходзячы горы-пагоркі, якія ўсё цясней набліжаліся, абціскаючы трасу з усіх бакоў. Асфальт роўненькі, нібы шкельца. Вось табе і ўкраінская правінцыя... Асяроддзе

**Сярод лабірынта будынкаў пагорак**, на якім стаіць, нібы разгорнуты акардэон, вялізны езуіцкі сабор, а перад ім каскадамі спускаецца крыху занядбаны сад.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY G.EVGENIJ




АЛЕСЬ КУДРЫЦКІ

**У Крэменцы ўражанне, што ты раптам патрапіў у Тыбет**

пачынае нагадваць шлях да гарналыжнага курорта.

Нечакана і імкліва машына трапляе ў заціснутае між гарамі мястэчка — так, што ажно даводзіцца схіляцца, каб вызірнуць з акна і агледзець ваколіцы. Дамы караскаюцца па схілах. Дарога ператвараецца ў галоўную вуліцу Крэменца. Тут ужо зусім іншае і адчуванне, і нават паветра, і рытм, які нагадвае мітуслівую горную ручаінку, якая бяжыць хутчэй у вузкім месцы. Лётаюць запэцканыя матаролеры, на якіх цягнуць на продаж на рынак гародніну, сноўдаюць туды-сюды праз дарогу пешаходы, стаіць парачка каларытных мясцовых вар'ятаў...

Людзі чакаюць запырсканай брудам маршруткі. Вуліцы пакрытыя сумессю зямлі і дробнай гранітнай крошкі, якая, відаць, змываецца з навакольных гор дажджамі. Будынкі нібы крыху закураныя — магчыма, так і ёсць, бо не факт, што пячны дым хутка выдзімаецца адсюль у бязветраны дзень.

Я спыняю машыну, выходжу і стаю разявіўшы рот, задраўшы галаў і крыху ашалелы. Уражанне, што ты раптам патрапіў у Тыбет.

Сярод лабірынта будынкаў пагорак, на якім стаіць, нібы разгорнуты акардэон, вялізны езуіцкі сабор, а перад ім каскадамі спускаецца крыху занядбаны сад, у якім — брацкая магіла савецкіх салдат і помнік, на якім ваякі пагражаюць гранатай руінам замка Боны Сфорцы на высачэзнай гары насупраць. Гара з руінамі замка і вялізным флагштокам з жоўта-блакітным сцягам цалкам дамінуе над мястэчкам.

Я глядзеў на Крэменец і проста хітаў галавой. Што я магу сказаць? У перспектыве гэта можа быць проста дыямент — калі ён напоўніцца больш далікатнай культурай, калі пачнуць замяняць нягеглыя безгустоўныя шыльды на штосьці больш далікатнае і з мясцовым каларытам, калі трошкі хаця б прычэшуць ды ўладкуюць ходнікі. Не трэба рабіць з яго глянец — дастаткова проста прыбрацца, як робяць у кватэры, вярнуўшыся ў яе пасля доўгай эміграцыі — і ён проста заззяе. Гэта проста фантастыка, што ва Украіне на такой адносна недалёкай адлегласці знаходзяцца настолькі розныя па адчуванні гарады, як Луцк і Крэменец. Здаецца, адзінае, ▸

што іх лучыць, — гэта людзі. І там, і тут гэта, бясспрэчна, тыя самыя ўкраінцы, адначасова чымсьці ўстурбаваныя і бесклапотныя.

### Замак Боны Сфорцы

Я зірнуў на навігатар, змераў вачыма серпанцін, які ўецца па гары да замка, і рызыкнуў — паехаў на машыне, бо часу ўзбірацца пешкі туды не было. Колы гучна загупалі па брукаванцы, жаўтавата-шэрай, з таго самага каменю, які я ўжо заўважыў паабапал дарог на Цярнопальшчыне. Калі не ляцець, то даехаць на верх гары і не забіць падвеску цалкам рэальная справа (але зімою — не ўпэўнены). Праз сосны ўздоўж серпанціну пачалі праглядацца размашыстыя краявіды. Брукаванка каля самай макаўкі гары перайшла ў белую грунтавую дарогу, засыпаную горным пылам. І вось я наверсе.

Ну і паветра! Смачнае, проста як вада з крыніцы. Унізе ў Крэменцы яно трохі сціснутае, стомленае, а тут — свяжэйшае, чысцейшае. Бачна далёка-далёка, проста стэрэаскапічная карціна. Чырвоныя горы, пакрытыя клёнамі, а далей — сінія, хваёвыя...

## Украіна — не краіна, а цэлы кантынент

А замак суворы. Гэта ўжо не цёплы і хатні Луцкі — тут сцены сталёва-шэрыя. Калі ў нас Караткевіч, калі не памыляюся, узгадваў «літасцівую каралеву Бону» (хіба гэта было з сарказмам?), то тут — дзесьці праскочыла — яго назвалі замкам злой каралевы. А разбурылі яго казакі: ну ў каго яшчэ хапіла б сілы з боем падняцца на такую гару... І пасля сябе пакінулі магілы з суворымі каменнымі крыжамі, прычым, наколькі магу меркаваць, для ўкраінцаў гэтыя простыя каменныя крыжы больш важныя і любыя сэрцу, чым той замак.

У заціснутым паміж гарамі Крэменцы здаецца, што ён знаходзіцца ў іншым вымярэнні, куды цяжка трапіць звонку, і ўсе вятры свету ды гісторыі мусяць абыходзіць яго бокам. Але, як выявілася, акурат праз яго ўвесь час пракатваліся навалы — сімвалам гэтаму сам замак. А ў мінулую вайну у Крэменцы дык увогуле было сапраўднае пекла... У 1942 годзе габрэі Крэменца паднялі паўстанне ў гета, пратрымаліся два тыдні, 9 000 з іх загінулі, а пасля гітлераўцы падпалілі горад, каб усіх знішчыць. Толькі 14 габрэяў з Крэменца перажылі Халакост.

Вось вам і Украіна, а гэта ж толькі яе кавалачак. Не краіна, а цэлы кантынент.


Дзеля аднаго гэтага краявіду, дзеля гэтага чыстага, як вада з крыніцы, паветра варта было ехаць у Крэменец

АЛЕСЬ КУДРЫЦКІ

### Астрог

Вандраваць па Украіне восенню — гэта бегчы навыперадкі з сонцам. Часу мала, цямнее даволі хутка, а адлегласці гіганцкія — што ні сплануй, а адразу немінуча адчуваеш, што хоць бы хапіла часу гэта пабачыць.

Я вырашыў з'ехаць з трасы і зірнуць на Астрог. Бо ці паеду я калі яго глядзець спецыяльна? А тут такая нагода — пабачыць, адкуль родам такі моцны суровы дзядзька, які разграміў Маскву пад Оршай.

Чакаў пабачыць правінцыйнае мястэчка, але рэальнасць аказалася больш каларытнай.

Улічваючы, што Астрог — гэта такі старадаўні бастыён праваслаўя, было цікава пабачыць на могілках, якія трапляюцца па дарозе, зусім простыя жалезныя крыжы, з дзвюх перакладзін, з простым каваным узорам. Такія ж чатырохканцовыя — толькі драўляныя, з простых квадратных у сячэнні бэлек, пафарбаваныя

АЛЕСЬ КУДРЫЦКІ

**Вежы як сам князь Астрожскі: такі суровы, моцна збіты і пільны поглядам. Вось ужо дзе чалавек збудаваў замак пад сваю натуру!**



**Больш пра Астрожскі замак** чытайце па гэтым к'юар-кодзе.

блакітнай фарбай (дарэчы, тут таксама крыжы блакітнай фарбай фарбаваныя) — сустракаюцца на старых магілах на Палессі. У цэнтральнай і паўночнай Беларусі такі крыж успрымаўся б як каталіцкі, а тут гэта старая праваслаўная традыцыя.

## Калі ў Беларусі глеба шэрая ці чырванаватая, з дамешкам гліны, то тут — чорная, нібы асятровая ікра

Блакітная фарба, падазраю, гэта яшчэ спадчына савецкіх часоў, дзе набор фарбаў быў зусім малы (карычневая для падлогі, белая і такая во блакітная) — і бралі прыгажэйшую па колеры і цікавейшую фарбу нябеснага колеру, і ёй фарбавалі ліштвы на вокнах ды вось крыжы на могілках. Дарэчы, і знакамітыя блакітныя палескія драўляныя цэрквы паабапал Прыпяці пафарбаваныя такой самай фарбай... Калісьці, можа, археолагі будуць рабіць аналіз і ламаць галаву над сімвалічным сэнсам блакітнай фарбы ў рэгіёне.

Ваколіцы Астрога — вось дзе сапраўды «чорнае мора»! Да гарызонту разлягаюцца шырокія хвалі пагоркаў, чорных, цёплых, нагрэтых слабымі промнямі восеньскага сонца, з парасткамі ці то жыта, ці то пшаніцы. Калі ў Беларусі глеба часцяком шэрая, бурая ці чырванаватая, з дамешкам гліны, то тут — чорная, нібы асятровая ікра.

Вёскі — а тут, здаецца, глыбокая правінцыя — хоць і небагатыя, але жывыя. Людзі разворваюць свае чарназёмныя дзялянкі, паўсюль нешта расце, вось маладая жанчына няспешна вядзе па вясковай дарозе статак кароў, якія разбрыдаюцца па вуліцы. Каровы дагледжаныя, гладкія і спакойныя. Успамін, нібы з дзяцінства: рагуляў вядуць з пашы па вёсцы, а яны разыходзяцца кожная ў свой падворак. Цяпер у Беларусі такую карціну амаль нідзе ўжо не пабачыш.

Вялікія чарназёмныя пагоркі пераходзяць у роўную даліну, ▶



АЛЕСЬ КУДРЫЦКІ

праз якую цячэ такая звілістая, але энергічная і глыбокая рачулка — толькі потым я зразумею, што гэта Гарынь, па якой можна даплыць проста ў Беларусь да самага Давыд-Гарадка.

За рачулкай, пасярод даліны, нібы ўзняты кулак, узвышаецца круты пагорак з дрэвамі і званіцамі ды купаламі цэркваў — несумненна, гэта Астрог. Усё мястэчка такое крэпкае, добра збітае і сканцэнтраванае — ідэальная маленькая сталіца магутнага сямейнага клана.

Спыняюся на плошчы пад замкавай гарой. На яе гранях сядзяць моцныя вежы — накшталт маленькіх палацыкаў. Прычым бачна, што жарцікаў тут не вадзілі: сцены таўсценныя, на ўсе бакі глядзяць байніцы, з якіх на верхнім паверсе тырчаць гарматы! Каб зразумець характар мясціны, дастаткова зірнуць на партрэт самога князя Астрожскага. Ён сам як гэтыя вежы: такі нахмураны, суровы, моцна збіты і пільны поглядам. Вось ужо дзе бачна, што чалавек збудаваў месца пад сваю натуру! Уздымаешся па гэтых пагорках да падмурку вежы — і ажно сэрца б'ецца: і ўздым няпросты, і ўражанне моцнае — пазіраць на свет з таго самага ракурсу, з якога бачыў пераможца бітвы пад Оршай.

У сам замак і старажытную Вежу Муравану — дыхтоўную каменную гатычна-рэнесансавую фартэцыю-палацык на схіле — я не трапіў, бо ўжо было позна. Проста паглядзеў праз агароджу, парослую цёрнам і глогам. На замку, натуральна, праваслаўная царква з многімі вежамі ды купаламі, а побач, за ровам, таксама і каталіцкая катэдра з аркай-званіцай.

Цікава — і гэта я зразумеў ужо пастфактум, калі пачытаў Вікіпедыю, — што Астрог цяпер універсітэцкі горад. Дзякуючы гэтаму невялічкі Астрог не па-правінцыйнаму рухавы, на вуліцах моладзь, шпацыруе па парку каля замка, сядзіць на ўслончыках.

Канстанцін-Васіль Астрожскі (не гетман, які пад Оршай перамог, а ягоны сын) заснаваў тут у 1576 годзе Астрожскую славяна-грэка-лацінскую


АЛЕСЬ КУДРЫЦКІ

**Пад Астрожскую акадэмію ўзялі стары савецкі даўгабуд** у цэнтры горада і перабудавалі яго ў сучасную ратушу з высокай вежай.


АЛЕСЬ КУДРЫЦКІ

**Вялікая сінагога Астрога** цяпер рэстаўруецца, як і дзясяткі іншых старажытнасцяў па ўсёй краіне ў рамках агульнанацыянальнай праграмы «Вялікая рэстаўрацыя».


WIKIMEDIA COMMONS

**Канстанцін Астрожскі** — выдатны дзяржаўны дзеяч і военачальнік Вялікага Княства Літоўскага. Апякун праваслаўя. Перамог у 63 бітвах, у тым ліку ў бітве пад Оршай у 1514 годзе. У побыце быў выключна сціплым чалавекам.

**Алеська** — месца нараджэння караля Рэчы Паспалітай Яна III Сабескага. У 1951 годзе замак згарэў пасля ўдару маланкі, але пасля быў адбудаваны і стаў месцам размяшчэння фондаў Львоўскай галерэі мастацтваў.

**Замак у Алеську**, на мяжы Галіччыны і Валыні.

DEPOSITPHOTOS.COM, BY SLAVA2271

школу. У 1990-я яе аднавілі як Нацыянальны ўніверсітэт «Астрожская акадэмія». Наколькі магу меркаваць — вельмі сучасная ўстанова, прычым яна ўзяла стары савецкі даўгабуд у цэнтры горада і перабудавала яго ў сучасную ратушу з высокай вежай, якая чымсьці нагадвае маяк. Прычым адмыслова зрабілі гэта як сімвал таго, што горад меў магдэбургскае права — гэтым ва Украіне, як выявілася, ганарацца, як і ўсёй «літоўскай» гісторыяй. Хаця «казацкі» элемент для гэтай нацыі застаецца нарожным, да яго, як дадатковыя вымярэнні, дадаецца «рускі» ці «кіеўскі» міф, а таксама і «літоўскі» час узгадваецца часта і збольшага пазітыўна. У адрозненне ад ужо пазнейшай Рэчы Паспалітай, якая паўстае як вораг і акупант.



АЛЕСЬ КУДРЫЦКІ

Нібы шэрыя кубікі нейкая вялізная рука, высунуўшыся з-за нізкіх хмараў, акуратна склала на пагорку. **Алескі замак.**

Калі спусціцца з замкавай гары, то ў ніжняй частцы горада трапляеш у закручаныя вулкі, якія месцамі нагадваюць кірмаш. Гойсаюць маршруткі, стаяць, перакурваючы, таксісты, гарадзь шыбы крамак з няхітрым таварам, тыповым для правінцыйнага мястэчка. Святло хаатычных рэклам з гіганцкімі літарамі — тыповая для Украіны карціна. Пасярод усяго гэтага старанна і прыгожа рэстаўруюць вялікую сінагогу, у тым самым знаёмым абарончым рэнесансным стылі. А на вузенькай вулачцы пад самымі нагамі Вежы Мураванай, ▶

здаецца, жыццё не моцна адрозніваецца ад таго, якое ішло за часамі Астрожскіх. У мініяцюрных дворыках няхітрых драўляных хатак гаспадары з задаволеным выглядам складаюць свежа наколатыя дровы...

## Алескі замак

Алескі замак — на самай мяжы Галіччыны ды Валыні. Нібы шэрыя кубікі, якія нейкая вялізная рука, высунуўшыся з-за нізкіх хмараў, акуратна склала на пагорку, дадаўшы для акцэнту спічастую зялёную вежачку.

Замак падкупляе сваёй лёгкай занядбанасцю: няроўны тынк не дае магчымасці зразумець, што тут старое, а што падноўленае. А яшчэ нечакана цудоўнай калекцыяй жывапісу.

Тут і барочныя іконы, такія блізкія ўважліваму беларускаму



АЛЕСЬ КУДРЫЦКІ

**Якія тут камяні пад нагамі.**



**Пазнаяце гэтага дзядзьку?**

воку, са срэбным узорыстым фонам. Вытанчаны каменны бюст Барбары Радзівіл. Са сцяны, на ўзроўні вачэй, пільна пазірае на цябе Стэфан Баторый, нібы прыцэньваецца, чаго ты варты. Набліжаеш позірк. Гузік на жупане караля цьмяна зіхціць глыбокім смарагдавым водбліскам. А яшчэ — фантазійная карціна-карта з загадкавымі караблямі. Так і ўяўляецца, як малы Хмяльніцкі стаяў і разглядаў яе. Так, сапраўды, аказваецца, у замку дзіцячыя гады правёў Багдан Хмяльніцкі, чый бацька быў на службе ў яго ўладальніка. А яшчэ тут нарадзіўся Ян Сабескі, які ў 1683-м зладзіў атаку




**Падарожжы на гару Афон** былі для нашых продкаў тэмай мараў і мрояў.



**Партрэт Яна Караля Хадкевіча.** Фрагмент.



**Партрэт шляхціча.** Фрагмент. З цудоўнай калекцыі жывапісу ў Алескім замку.

крылатых гусараў на туркаў, якія абкладалі Вену. Так была выратаваная Еўропа.

З замка адкрываецца вялізны краявід, ён як бы плыве па-над усім наваколлем, над шырокімі хвалямі лясоў і палеткаў. Хто тут жыў, мусіць мець маштаб. Дзіва што адзін з іх паспрыяў, каб Еўропа засталася еўрапейскай, а другі — каб Украіна сталася ўкраінскай.

## Вялікае будаўніцтва

Унізе, пад замкам, праз гасцінец — кляштар капуцынаў. Актыўна ідзе яго аднаўленне, сноўдаюць работнікі. Вялізны жоўты білборд «Велика реставрація».

Адны ўкраінцы хваляць Зяленскага за гэтыя праграмы — «Вялікае будаўніцтва», праграма па высадцы лесу «Зялёная краіна» (за тры гады высадзяць 1 мільярд новых дрэваў). Іншых гэта дратуе, з’явілася нават ініцыятыва пазначаць на кожным


АЛЕСЬ КУДРЫЦКІ



АЛЕСЬ КУДРЫЦКІ

аб'екце «будуецца за кошт падаткаплатнікаў». Але не адняць тое, што інфраструктура ў краіне паляпшаецца. Увесь мой шлях прайшоў па вельмі добрым — а часам і ідэальным — асфальце. Час ад часу шырокая траса звужалася, бо побач пашыраюць дарогу ці будуюць якую-небудзь развязку. І праносяцца бетанавозы з шыльдамі на радыятарах «Велике будівництво. Програма президента України».

У адной з невялічкіх крамак каля кляштара заварваюць львоўскую каву («найлепшы гатунак!»), прадаюць фабрычныя «гуцульскія» торбачкі — сувенір танны і эфектны — і мастацкія кубачкі з таго самага Львова. Прадавачка чуе акцэнт: «Да нас багата турыстаў з Беларусі едзе. І дзіва: цяпер што ні аўтобус — моладзь размаўляе між сабою па-беларуску».

### «А я на небі»

Вяртаюся ў Кіеў, спыняюся купіць каву ў гіпермаркеце. Гарадок Буча вырас вакол лецішчаў, якія пачалі будавацца яшчэ за царскім часам каля чыгуначнай станцыі згодна з канцэпцыяй акружыць Кіеў гарадамі-садамі, канцэпцыяй, якую паспрабуе развіць Паўло Скарападскі ў часе свайго нядоўгага гетманства.

Цяпер былыя дачныя пасёлкі ператварыліся ў анклавы кіеўскай сярэдняй класы ў таўнхаўсах пад векавымі соснамі і прыгажэзнымі волатамі-дубамі. Па дарогах ездзяць старыя «Таўрыі» і навюткія «Тэслы», падбібікваючы — гэта ўжо Кіеўшчына, тут цырымоній меней, чым у Заходняй Украіне.

Каля гіпермаркета бязногі хлопец у інвалідным вазку спявае пад электрагітару «А я на небі» «Акіяна Эльзы». Украінцы ды ўкраінкі стаяць каля яго і, грэючы рукі аб кубачкі, слухаюць, усміхаюцца ды падпяваюць. На шыльдачцы, прымацаванай да вазка, надпіс фламастарам па-ўкраінску: «У мяне ўсё цудоўна. Я проста люблю спяваць».

У гэтай краіне так паўсюль: адчай ідзе поруч з усмешкай, а гора — са спевам. Такая ў гэтага народа парадаксальная якасць — захоўваць аптымізм у любой сітуацыі, адчайвацца без адчаю. А калі трэба — то па-казацку, голым па пояс, шырокімі крокамі ісці на закутага ў латы ворага, папыхваючы люлькай ды закінуўшы шаблю на плячо. Ну і з песняй, вядома. ◆


АЛЕСЬ КУДРЫЦКІ

**Буча**, Кіеўская вобласць.

# Па старым-старым тракце



## Малое Вольжава – Белагруда – Тарнова – Лебяда – Мажэйкава – Вялікае Мажэйкава – Ішчална

**Калісьці яго называлі «самай прыгожай дарогай» краю. Пра стары тракт піша Святлана Лугаўцова.**

Вядомы знаўца Лідскага краю Міхал Шымялевіч лічыў, што самая старадаўняя дарога з Ліды на захад бегла каля Астроўлі і Цыбараў на мост цераз Дзітву, на якім здаўна бралі маставую аплату, або так званае «мыта».

Старая дарога была простай, нешырокай, цяпер яе назвалі б палявой. Толькі і адрознівала яе, што на рэках былі перакінутыя масты, а цераз балоты — грэблі. А ў 1796 годзе на загад Кацярыны II віленскі генерал-губернатар Мікалай Рапнін пачаў рэканструкцыю іншай дарогі з Ліды да Гродна. Новы тракт скіравалі праз вялікія панскія двары: Тарноўшчыну, Вялікую Лебяду, Вялікае Мажэйкава, Ішчалну, Шчучын і Каменку. На гасцінцы былі пабудаваныя вялікія заезныя корчмы са станцыямі коннай пошты. У выніку шлях паміж Лідай і Гроднам павялічыўся са 100 да 116 вёрст (каля 120 км). (*Магчыма, без хабару ад багатых землеўласнікаў не абышлося.*)

Па новым гасцінцы ў абодвух кірунках ехалі конныя пары, чацвёркі, шасцёркі, вазілі пошту. Ён быў ажыўленай магістраллю, аж пакуль у 1860–1862 гадах не збудавалі чыгунку Санкт-Пецярбург – Варшава праз Гродна і Вільню. Паступова гасцінец амаль замёр і перайшоў у шэраг другасных дарог.

Дарожнае палатно зарастала травой. Паміж радамі старых бяроз засеяліся ядловец, рабіна і асіна. Увосень яны перафарбоўваліся ў розныя колеры, і тады, на думку апошняга ўладальніка маёнтка Малое Мажэйкава Андрэя Брахоцкага, гасцінец станавіўся самай прыгожай дарогай у Літве.

Гэтую думку падзяляў і прэзідэнт міжваеннай Польшчы Ігнацы Масціцкі. Падчас наведвання Лідчыны ў 1920-я гады ён быў зачараваны гасцінцам і казаў, што гэта самая прыгожая дарога, якую ён калі-небудзь бачыў.


ФОТА СВЯТЛАНЫ ЛУШАЦОВАЙ

Польскія ўлады меркавалі надаць тракту статус гістарычнага помніка. Прапаноўваліся дзве назвы: тракт Напалеона ці тракт Баторыя. Большасць схілялася да назвы ў гонар Баторыя: маўляў, Напалеон ніколі па ім не ехаў (хоць за Баторыем ён і ўвогуле не існаваў). Але Другая сусветная вайна перакрэсліла гэтыя планы. Нямецкія войскі падчыстую павысякалі старыя бярозы на дровы.

То рушым гэтай некалі раскошнай трасай: праз Малое Вольжава – Белагруду – Тарнова – Лебяду – Мажэйкава – Вялікае Мажэйкава – Ішчалну. Агульная працягласць маршруту — 70 кіламетраў.

## Макавыя палі

Цяпер нішто не нагадвае пра багатае гістарычнае мінулае **Малога Вольжава,** хоць існавала яно ўжо ў XV стагоддзі, а валодалі паселішчам магутныя роды Клаўсуцяў, Завішаў і Радзівілаў. Вёсачка як вёсачка, у паветры пахне гноем. Чаму тады журналісты і блогеры атачылі Вольжава ўвагай, а яго фота вы знойдзеце ў кожным другім акаўнце?

Прычына — дзікарослы мак (гл. пра гэтую расліну артыкул Алеся Белага ў № 7/2021 «Нашай гісторыі»), які ўтварае тут цэлыя палі. Сотні людзей у сезон робяць тут фотасесіі. Але далучыцца да гэтага цуду няпроста, бо, як толькі мак пачынае квітнець, пачынаецца спаборніцтва паміж аматарамі прыгожых фота і работнікамі міліцыі, якія такія палі стараюцца скошваць. На жаль, мы спазніліся: поле ўжо адкрасавала. А чаму тут макавыя палі стварыліся? Рэч у тым, што мак-самасей і рамонак — тыповае пустазелле на палях з рапсам. Калі рапс адцвітае, зацвітае мак, і поле на нейкі час афарбоўваецца ў чырвонае.

## Мадэрновыя кветкі

Калі вы ўбачыце на беразе Дзітвы ў **Белагрудзе** касцёл Святога Міхала Арханёла, вы яго не забудзеце. Храм з жоўтай цэглы так удала ўпісаны ў прастору, што становіцца яе неад’емнай часткай.

Белагрудскае ўзвышша ўздымаецца на 162 м над узроўнем мора. Некалі тут быў белы пагорак з вапны* — адсюль і назва. Радовішча даўно выпрацавана і забыта, а назва засталася.

Белагруда вядомая з XV стагоддзя. Да сярэдзіны XVIII стагоддзя ёй валодаў род Завішаў. Калі Барбара Завіша пабралася шлюбам з Мікалаем Фаўстынам Радзівілам, Белагруда стала часткай пасагу.

### Стаянка на беразе ракі ў Белагрудзе

частка экалагічнага воднага маршруту «Дзітва», агульная працягласць якога 41 км.

Касцёл пад тытулам Святога Міхаіла Арханёла быў заснаваны ў 1609 годзе па фундацыі віцебскага ваяводы Яна Завішы пасля яго навяртання з кальвінізму. Драўляную святыню пабудавалі на маляўнічым левым беразе ракі Дзітвы.

Сучасны каменны храм — цікавая эклектыка: рысы неараманікі спалучаюцца з рысамі неаготыкі і мадэрну. Ён быў пабудаваны і асвечаны ў 1908 годзе дзякуючы нястомным намаганням ксяндза Казіміра Сталеўскага. Унутраная прастора храма перакрыта цыліндрычнымі ▶




ФОТЫ ЖАННЫ ШАСТАКОВІЧ (@JANNETYUMMY)

* **Вапна** (бел.) = известь (рас.) = lime (анг.), багаты на кальцый прыродны матэрыял.
**Груд, грудок** = узвышэнне, гара сярод балота, нізіны.

▶ скляпеннямі з аркамі. Вялікае ўражанне пакідае роспіс раслінным арнаментам у стылі мадэрн.

У цэнтры касцёла знаходзіцца цудадзейны абраз Маці Божай Міласэрнасці XVII стагоддзя. Гэта копія выявы Багародзіцы канца XV стагоддзя з Вастрабрамскай капліцы ў касцёле Святой Тэрэзы ў Вільні. За касцёлам, сярод могілак, ад комплексу папярэдняга драўлянага храма захавалася драўляная двух'ярусная брама-званіца.

У Белагрудзе ўсё проста і абсалютна геніяльна. Хтосьці з вялікім густам размясціў лавачкі пад старымі дрэвамі на беразе Дзітвы, непасрэдна на месцы старажытнага селішча VI–VIII стагоддзяў. Хараство прыроды ў адзінстве з архітэктурнымі помнікамі, атмасфера цішыні і супакою ствараюць асаблівую аўру месца. Жаданне спяшацца, дзейнічаць і перамагаць змяняецца асалодай быць часткай



ФОТА СВЯТЛАНЫ ЛУШАУЦОВАЙ

**Касцёл Святога Міхала Арханёла** ў Белагрудзе.

старажытнай гісторыі і мясцовай прыроды. Ладзіць медытацыі можна бясконца.

## Брат Каруся Каганца

У 1925–1937 гады ў **Белагрудзе** жыў з сям'ёй Амброзій Самуэль Кастравіцкі (1871–1937) — доктар, брат аднаго з пачынальнікаў беларускай літаратуры Казіміра Кастравіцкага (Каруся Каганца). Амброзій нарадзіўся ў Сібіры, куды яго бацька быў сасланы за ўдзел у паўстанні 1863–1864 гадоў. Скончыў медыцынскі факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. Актыўна ўдзельнічаў у беларускім нацыянальна-дэмакратычным руху. У сакавіку 1917 года быў абраны старшынёй З'езда беларускіх нацыянальных арганізацый у Менску.
У 1925 годзе Амброзій Кастравіцкі атрымаў гаспадарку ў Белагрудзе, дзе ў 1937 годзе памёр і быў пахаваны. Але каторая з магіл ягоная, на сёння невядома, бо сям'ю ў 1940 годзе рэпрэсавалі.

## Маёнтак з чужога пляча

У сядзібе **Тарнова** мяне больш за ўсё ўразіў стары млын і той спосаб, якім захавалі палац Маўрасаў. Але пра ўсё па парадку.

Радзімай грэчаскага роду Маўрасаў быў востраў Родас, адкуль яны перасяліліся на Мальту, а ўжо адтуль у Малдову. Першым з роду на расійскую службу ў 1785 годзе перайшоў сын гаспадара Малдовы Георгія Маўраса Мікалай. У сваю чаргу яго сын Дзмітрый даслужыўся да звання генерал-маёра, браў удзел у Крымскай вайне 1853–1856 гадоў, вайне супраць Турцыі 1877–1878 гадоў, душыў паўстанне 1863–1864 гадоў.

Маёнтак Тарнова Дзмітрый Маўрас набыў у Канстанціна Кашыца. Удзельнік паўстання 1863–1864 гадоў, Кашыц выконваў абавязкі цывільнага кіраўніка па Наваградскім павеце. Ён быў арыштаваны і падчас допытаў даў паказанні, па выніках якіх следчая камісія даведалася імёны чальцоў наваградскай паўстанцкай

арганізацыі. «За заслугі перад следствам» віленскі генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў замяніў яму смяротны вырак на высылку ў Казанскую губерню.

А ў сакавіку 1866 года Кашыц атрымаў дазвол на трохмесячную паездку на радзіму, дзе змушаны быў «добраахвотна» падпісаць акт продажу свайго маёнтка. Вялікія ўладанні ў Лідскім павеце былі прададзеныя Маўрасу хутка і танна. Гэтак жа танна генерал купіў дом паўстанца ў самюсенькім цэнтры Вільні на цяперашнім *праспекце Гедыміна, 1.*

Акрамя Тарнова, з цягам часу генерал Маўрас набыў Вялікую Лебяду, Зданаўцы, Дубічы, Ярэмічы і іншыя маёнткі. Разам яго ўладанні складалі каля 15 000 дзесяцін, або 150 км$^2$, што раўнялася сярэдняму нямецкаму княству сярэдзіны XIX стагоддзя! У 1876 годзе Маўрас атрымаў у аўстрыйскага імператара Франца Іосіфа дыплом на графскі тытул, у тым жа годзе Аляксандр II тытул прызнаў.

У першай палове 1880-х граф пабудаваў у Тарнове палацавы комплекс, перад якім разбіў парк з дзвюма сажалкамі. Бібліятэка палаца налічвала больш за 8 000 тамоў на розных мовах. На пачатку Першай сусветнай вайны кнігі вывезлі ў глыб Расіі. Пасля 1917 года бібліятэка была нацыяналізаваная і ў значнай ступені раскрадзеная.

У палацы таксама знаходзілася калекцыя мастацкіх вырабаў з золата, бронзы, парцаляны, старадаўняй зброі, карцін, сярод якіх такія шэдэўры, як «Узнясенне» Пітэра Паўля Рубенса ды «Галава старога» Лукаса Кранаха. Куды яны дзеліся пасля Першай сусветнай, ніхто не ведае.

На шчасце, за савецкім часам палац у Тарнове пазбег зруйнавання. У 2008–2011 гадах ён быў рэканструяваны пад жыллё работнікаў гаспадаркі «Мажэйкава». Залы, дзе раней праходзілі балі, ператварыліся ў сучасныя кватэры з усімі выгодамі: газам і водаправодам. Праектоўцы пастараліся максімальна захаваць першапачатковы выгляд сядзібы: арачныя вокны з карнізамі, бляшаны дах, склеп з высокай столлю. Часткова захаваліся і гаспадарчыя пабудовы сядзібы: вятрак, бровар, стайня, лядоўня.

## Гарод для французскага генерала

Вёсачку **Лебяда** сёння ўпрыгожвае царква Святога Мікалая. Першы грэка-каталіцкі драўляны храм быў пабудаваны на гэтым месцы ў другой палове XVIII стагоддзя. Ён неаднаразова рамантаваўся, але да канца XIX стагоддзя зусім струхлеў, так што ў 1898 годзе адбылася закладка новай царквы. У лістападзе 1900 годзе яе асвяцілі.

Усе паселішчы з назвай Лебяда на Лідчыне атрымалі сваю назву ад аднайменнай ракі. Маёнтак Лебяда ўпершыню згадваецца ў сярэдзіне XVI стагоддзя, калі ён належаў Гераніму Хадкевічу. Паглыбляючыся ў гісторыю мясцовасці, краязнавец Леанід Лаўрэш высветліў, што тры моцныя шляхецкія роды — Войны, Горскія і Агінскія — у розныя часы валодалі дваром Салантай у Жамойцкім княстве, дзе парадніліся паміж сабой. А маёнтак


Царква Святога Мікалая.

ФОТА СВЯТЛАНЫ ЛУШЧАЦОВАЙ

## Фядэцкія, праведнікі з Лебяды

У вёсцы Лебяда нарадзіўся складальнік зборніка беларускіх народных песень «Цёплыя вечары… ды халодныя ранкі...» **Земавіт Фядэцкі** (1923–2009). У цяжкія гады вайны ён жыў у вёсцы Феліксава: працаваў у полі, хадзіў на вячоркі, на талокі, на хрысціны, а потым запісваў песні мясцовых сялян. Амаль 50 гадоў ён хаваў рукапіс гэтых песень: у ваенны час, у час працы ў амбасадзе Польшчы ў Маскве, потым на розных кватэрах у Варшаве. Як быццам не было ў яго нічога больш каштоўнага, што варта было б вазіць з сабой праз вайну і пасляваенную разруху. Кніга песень, выдадзеная ў 1992 годзе, трапіла ў многія краіны свету. У Італіі зборнік назвалі «песнямі Атлантыды».

Маці Земавіта, **Марыя Фядэцкая** (Крывец), — праведніца народаў свету: падчас Другой сусветнай вайны арганізавала ў Вільні сетку дапамогі габрэям, якіх таемна вывозілі з горада. Пасля вайны яе параўноўвалі з Ірэнай Сэндлер, якая выратавала з Варшаўскага гета 2500 габрэйскіх дзяцей. Марыя — галоўная гераіня паэмы «Пані Фядэцкая» вядомага габрэйскага паэта, ураджэнца Смаргоні Абрама Суцкевера.

Лебяда, якім яны таксама валодалі, быў для іх другараднай маёмасцю.

Вядома, што летам 1812 года ў Лебядзе, у маёнтку пана Горскага, жыў генерал арміі Напалеона Дамінік-Жазэф Рэнэ Вандам, які быў адлучаны ад кіравання 8-м корпусам з-за сваркі з Жэромам Банапартам, братам імператара. Апошні абвінаваціў людзей Вандама ў рабаваннях на занятай тэрыторыі. Разам з ад'ютантамі і дзясяткам салдат адстаўны генерал тут… займаўся сельскай гаспадаркай.

У пачатку XX стагоддзя ў маёнтку Вялікая Лебяда ▶

▶ жыла сям’я Скосыравых. Дачка Дзмітрыя Маўраса — генеральская дачка! з сям’і, якая валодала палатном Рубенса! — Лізавета пабралася шлюбам з карнетам запасу — гэта значыць, прапаршчыкам! — Міхаілам Скосыравым. *Так, Скосыраў быў ёй не раўня, і гэтаму былі свае тлумачэнні. Гэта быў яе другі шлюб. Першы, з графам Мікалаем Сімонічам, скончыўся скандалам, бо толькі калі вырашылі разысціся, то высветлілася, што маладыя былі стрыечнымі братам і сястрой (і наўмысна пра гэта не паведамілі). А па-другое, Дзмітрый Маўрас дачок не любіў, таму пасаг быў не такі ўжо вялікі. Статусу ардынацыі большай часткі сваіх уладанняў Маўрас дабіўся ад Аляксандра III для свайго адзінага сына.*

Скосыравы высеклі ўвесь лес, пасля чаго маёнтак збанкрутаваў, а незадоўга да Першай сусветнай вайны ўладальніца вымушана была яго прадаць. Купіў у яе зямлю пан Юзаф Міхневіч, былы мельнік з ваколіц Слоніма. Пасля яго смерці маёнтак успадкавала жонка Міхневіча, ад якой Лебяда перайшла да яе сына ад першага шлюбу Станіслава Фядэцкага.

Затое сын Лізаветы Дзмітрыеўны і Міхаіла Міхайлавіча, вядомы авантурыст Барыс Скосыраў, стаў першым і апошнім каралём Андоры.

**Барыс Скосыраў (1896–1989)** меў вельмі багатую авантурную біяграфію, дагэтуль цяжка сказаць, што ў ёй праўда, а што легенда. Сам ён сцвярджаў, што вучыўся ў Оксфардзе і ў Ліцэі Людовіка Вялікага ў Парыжы, аднак ніякіх доказаў таму няма. Прэзентаваў сябе як арыстакрата.

Пасля пачатку Першай сусветнай вайны Барыс добраахвотнікам пайшоў на фронт, ваяваў у брытанскім бронедывізіёне, які дзейнічаў на рускім фронце. Пасля перабраўся ў Еўропу, жыў у Вялікабрытаніі, нейкім чынам здабыў нідэрландскае грамадзянства.

Галоўную інтрыгу свайго жыцця Барыс закруціў у карлікавай Андоры.

17 мая 1934 года Скосыраў падаў уладам Андоры заяву аб сваіх правах на мясцовы трон, атрымаўшы на гэта згоду герцага дэ Гіза, які, на думку Барыса, быў адзіным праўдзівым спадчыннікам андорскай кароны. І Генеральная Рада Андоры з гэтым нават пагадзілася, у ліпені аддаўшы яму трон. Праўда, пратрымаўся на ім ён усяго 12 дзён.

Пасля першага і апошняга караля Андоры судзілі, выслалі ў Партугалію, затым ён жыў у Францыі, а памёр у Бопардзе на захадзе Германіі ў 1989 годзе.

## І брыдж, і тэніс

Пакінем Скосыравых і адправімся да Ромераў. Менавіта сядзібай Ромераў чамусьці называюць комплекс пабудоў у аграгарадку Мажэйкава. На самай справе маёнтак Малое Мажэйкава належаў у пачатку XVI стагоддзя Шымку Мацкавічу, потым Нарушэвічам, Хадкевічам, Кастравіцкім і толькі невялікі прамежак часу ў другой чвэрці XIX стагоддзя — Рышарду Ромеру, які прадаў маёнтак Аляксандру Брахоцкаму. Апошнім гаспадаром сядзібы быў унук Аляксандра — Андрэй Брахоцкі. Менавіта пры Брахоцкіх сядзібны дом і гаспадарчыя пабудовы набылі свой канчатковы выгляд, які захаваўся да нашага часу.



ФОТА СВЯТЛАНЫ ЛУШАЎЦОВАЙ

Лямус.



ФОТА СВЯТЛАНЫ ЛУШАЎЦОВАЙ

Тарнова. **Млын.**

Сядзібны дом Брахоцкіх — гэта мураваны прастакутны аднапавярховы будынак з двухсхільным дахам. Цэнтральная частка яго мае мансардавы паверх і ўпрыгожана чатырохкаленным дарычным порцікам. З гаспадарчых пабудоў захаваліся стайня, пабудаваная на адной восі з сядзібным домам, а таксама лямус*. На месцы былой вінакурні стаіць сучасны лікёра-гарэлачны завод.

На святы гаспадары Малога Мажэйкава гасцінна адчынялі дзверы для сваякоў і суседзяў. Па сцвярджэнні Андрэя Брахоцкага, у 1920–1930-я гады «і брыдж, і тэніс былі папулярнымі гульнямі ў ваколіцах, таму партнёраў не бракавала».

Сядзібны комплекс рэстаўравалі ў 1985–1988 гадах. На жаль, падчас рэстаўрацыі фактычна знішчылі прысядзібны парк. Цяпер, калі шляхецкія сядзібы ў Беларусі «пасыпаліся» адна за адной, можна толькі радавацца, што комплекс у Малым Мажэйкаве быў адрамантаваны і захаваны. Гэта адбылося дзякуючы

* **Лямус** — гаспадарчая пабудова, у якой захоўвалі прадукты, адзежу, збожжа, прылады працы, а ўлетку і жылі, бо там было прахалодна.



ECOTEREM.BY

**Гродзенскі прадпрымальнік Мар'ян Савіцкі стварыў у Скрыбаўцах аграсядзібу «У Мар'яна» з сапраўдным заапаркам.** На падворку жывуць горны казёл, палярны ліс, страусы, авечкі, новазеландскі заяц, бажаны, перапёлкі і нават паўлін. Дзеці ў захапленні.

былому кіраўніку гаспадаркі Казіміру Рахатку.

## Радзіма лекаў

Паміж Малым і Вялікім Мажэйкавам па старым тракце — недзе тры з паловай вярсты. Гугл настойліва прапаноўваў зрабіць крук, у два разы даўжэйшы, па сучаснай дарозе. Але што мне Гугл? Я ж мясцовая, таму паехала наўпрост.

Не будзьце такімі саманадзейнымі. Дарогі сапраўды больш няма. Глядзіце на мапу і рухайцеся ў аб'езд праз Муараванку і Скрыбаўцы. Узнагародай вам будзе сустрэча з Маламажэйкаўскай царквой, якая больш за палову тысячагоддзя стаіць на беларускай зямлі. Прыгажосць храма захапляе (пра гэтую царкву і пошукі цудатворнага абраза Божай Маці Ваўчынкаўскай чытайце ў № 9/2021 «Нашай гісторыі»).



Календула.

ФОТА СВЯТЛАНЫ ЛУШЧАЎЦОВАЙ

Ці ведаеце вы, што на палях каля Вялікага Мажэйкава вырошчваюць больш за 70% лекавых траў Беларусі? Упершыню ў жыцці ўбачыла неабсяжныя палі календулы, а ёсць яшчэ рамонкі, сардэчнік, растаропша, валяр'ян.

Шляхецкая сядзіба знаходзіцца на паўночнай ускраіне вёскі. Ёсць звесткі, што на пачатку XVI стагоддзя маёнтак, які аб'ядноўваў Вялікае ▶

## Леў Савіцкі

Побач з Мураванкай у вёсцы Аленкаўцы пахаваны **Леў Савіцкі** (1841–1926), які быў настаяцелем Маламажэйкаўскага храма на працягу 60 гадоў (1863–1923). Яго намаганнямі быў знойдзены абраз Божай Маці Ваўчынкаўскай, адрамантаваная царква.

Чаму айцец Леў не быў пахаваны каля храма, якому прысвяціў жыццё?

У 1921 годзе Заходнюю Беларусь паводле Рыжскай мірнай дамовы аддалі Польшчы. Пры падтрымцы ўрада рыма-каталікі пачалі стыхійна адбіраць праваслаўныя цэрквы, якія раней належалі ўніятам ці касцёлам. Гэты працэс атрымаў назву рэвіндыкацыі.

Здавалася, пры чым тут Мураванка? Яна ад пачатку была пабудавана як праваслаўная царква. Аднак на гэта не паглядзелі, забралі таксама. Калі 3 лютага 1926 года айцец Леў памёр, лідскі староста забараніў хаваць нябожчыка каля царквы. У дзень пахавання ў вёску была накіраваная конная і пешая паліцыя, каб не дай бог людзі не парушылі загаду.



ФОТА З АРХІВА А.Л. ШАМШУРА

**Айцец Леў Савіцкі.**



**Брама сядзібы** ў Вялікім Мажэйкаве. Мастак Напалеон Орда.



ФОТА СВЯТЛАНЫ ЛУШАЎЦОВАЙ

**Рэшткі брамы** сёння.

і Малое Мажэйкава, належаў Міхалу Гагіну, намесніку мазырскаму. Гагін узяў удзел у мяцяжы Міхала Глінскага і потым збег з ім у Масковію. А маёнтак вялікі князь Жыгімонт Стары перадаў Тышкевічам.

Пасля адна з прадстаўніц гэтага роду, Аляксандра Тышкевіч, выйшла замуж за Аляксандра Хадкевіча, і такім чынам сядзіба перайшла да Хадкевічаў. Ва ўсіх даведніках сядзіба ў Вялікім Мажэйкаве згадваецца пад гэтым прозвішчам. На самай справе ад Хадкевічаў нам засталіся толькі паданні: быццам у маёнтку дзве тысячы палонных туркаў капалі ставы з выспай пасярэдзіне, што да высокіх мураваных слупоў агароджы былі прымацаваныя каменныя ядры ад гармат.

Пры Хадкевічах насупраць галоўнай брамы стаяў мураваны палац з калонамі, а з двух бакоў вялікай плошчы размяшчаліся дзве доўгія афіцыны з лістоўніцы на дваццаць коней кожная. Аднак ужо ў 1805 годзе гісторык Іаахім Лялевель, які ехаў праз Вялікае Мажэйкава, адзначаў: «было бачна, што гэта раней слаўнае, а цяпер занядбанае месца».

Род Хадкевічаў згас у дваццатых гадах XIX стагоддзя. Вялікае Мажэйкава купіў граф Рафал Грабоўскі. Ён і перабудаваў сядзібу паводле плана вядучага архітэктара і дызайнера свайго часу Тадэвуша Раставароўскага.

На працягу жыцця — а памёр ён у 1917 годзе ў Парыжы, куды выехаў у 1900-м, — Станіслаў Грабоўскі меў два замілаванні: паляванне і лес. Ён утрымліваў выдатную псярню, а свой лес, які не ведаў сякеры, так шкадаваў, што, маючы яго ва ўласнасці 5 000 гектараў, дровы купляў у суседзяў! У Парыжы да яго захапленняў дадалося яшчэ адно: фатаграфія. Сярод папер Грабоўскага ў Вільні засталося шмат фотаздымкаў, многія з якіх выкананыя з добрым густам.

**Свой лес Грабоўскі так шкадаваў, што, маючы яго 5000 гектараў, дровы купляў у суседзяў**

## Праекты Раставароўскага

Менавіта Будаўнічае бюро Тадэвуша Раставароўскага і Казіміра Зімермана пабудавала палацы з чырвонай цэглы ў стылі англійскай готыкі для графаў Путкамераў у Бальценіках і паноў Ваньковічаў у Рудакове, гатэль «*St. George*» (у савецкі час «*Vilnius*», а цяпер гандлёвы цэнтр «*Grand Duke Palace*») у Вільні. Па праектах Тадэвуша Раставароўскага былі перабудаваныя палац князёў Друцкіх-Любецкіх у Шчучыне, Бішэўскага ў Лынтупах, дабудаваны сядзібна-паркавы ансамбль Ваўжэцкіх у Відзах Лаўчынскіх. У маёнтку Нароўля па замове сваіх сяброў паноў Горватаў Тадэвуш Раставароўскі аздобіў плафоны залаў палаца сцэнамі з антычных міфалагічных сюжэтаў, якія таксама былі ім выкарыстаныя для роспісу плафонаў палаца Булгакаў у Жылічах.

## Парк, непрыдатны для дум

Падчас Першай сусветнай вайны рускія казакі спалілі палац у Вялікім Мажэйкаве. Злева і справа ад палаца стаялі два будынкі для прыслугі. У 1920 годзе згарэў левы дом. Апошні

гаспадар Вялікага Мажэйкава Міхал Верашчака — гэтаму роду перайшоў маёнтак пасля смерці бяздзетнага Станіслава Грабоўскага — перабудаваў ацалелую правую афіцыну пад жытло. Вонкава атрымалася тыповая шляхецкая сядзіба пачатку XIX стагоддзя, вельмі падобная да дома Ваньковічаў у Мінску.

Са шматлікіх гаспадарчых пабудоў сядзібы да нашага часу лепш за ўсё захаваліся лямус і свіран. Мне вельмі спадабаўся лямус, бо цяжка сустрэць нешта падобнае ў сучаснай Беларусі. Гэта двухпавярховы квадратны ў плане будынак, аздоблены прыгожай вонкавай драўлянай галерэяй на ўзроўні другога паверха. Дадам, што ў Вялікім Мажэйкаве ўпершыню ўбачыла так званыя «чваркі» — вялікія драўляныя дамы, якія былі падзеленыя на чатыры часткі з асобным уваходам кожная і куды можна было засяліць адразу чатыры сям'і. Такія дамы будавалі ў маёнтках для работнікаў.

У Вялікім Мажэйкаве захаваліся таксама рэшткі парку і яго агароджы з галоўнай брамай. Пры Грабоўскіх плошча парку складала каля 10 га, цяпер — 2,6 га. Большую яе частку займаюць грабавыя алеі.

Гучыць прывабна, праўда? Якія былі чаканні: выпіць кавы недзе ў патаемным куточку парку, падумаць пра вечнае ў цяні лямуса. Рэальнасць аказалася іншай: цяжка знайсці больш нязднатнае для дум месца, чым Вялікае Мажэйкава. Па-першае, гэта рэшткі рэгулярнага парку, дзе няма ніякіх патаемных куточкаў. Затое ёсць спартыўная пляцоўка часоў майго піянерскага дзяцінства. Здаецца, машына часу перанесла цябе ў савецкае мінулае, што ўносіць нейкі дысананс ва ўспрыманне рэчаіснасці. Па-другое, рэшткі гаспадарчых пабудоў па-ранейшаму выкарыстоўваюцца ў сельскай гаспадарцы. Яны знаходзяцца непасрэдна на мехдвары саўгаса, дзе кіпіць праца, і турысты тут успрымаюцца як нешта цалкам іншароднае. У тым ліку і сабакамі, якія раз'юшана брэшуць на чужакоў.

## Аляксандра I прынялі, а ваявалі за Напалеона

**Ішчална** ўпершыню згадваецца ў канцы XV стагоддзя як маёнтак Давойнавічаў. У 1515 годзе Андрэй Давойна вырашыў пабудаваць там драўляны касцёл у гонар Найсвяцейшай Тройцы. Касцёл значна пацярпеў падчас Паўночнай вайны. У 1708 годзе шведы парабавалі яго і паразбівалі касцельныя званы.

У сярэдзіне XVIII стагоддзя дачка гаспадара маёнтка Голдава Мар'яна Вянцковіч пабралася шлюбам з уладальнікам Ішчалны Юзафам Валем. На месцы старога драўлянага яны пабудавалі прыгожы барочны мураваны храм, які быў асвечаны ў 1761 годзе. Храм захаваўся да нашага часу.

Побач з касцёлам усталяваны ўнікальны сонечны гадзіннік, выраблены ў другой палове XVIII стагоддзя. Ён уяўляе сабою круглы пастамент з каменю вышынёю каля 1 м і дыяметрам каля 0,5 м. Двума сталёвымі стрыжнямі да яго прымацавана медная круглая пласціна. На пласціне выгравіраваны цыферблат, прозвішча майстра (*J. Malecki*), месца вырабу (*Wilna*), геаграфічная шырата Вільні (*54°41″2′*). Верхні кут трохкутнай стрэлкі накіраваны на Палярную зорку. На жаль, стрэлка напалову зламаная.


Сонечны гадзіннік.
ФОТА СВЯТЛАНЫ ЛУШАЎЦОВАЙ

Падчас паўстання Тадэвуша Касцюшкі ў межах парафіі адбываліся сутычкі з царскімі войскамі. У 1863 годзе пробашч касцёла Адам Фалькоўскі зачытаў вернікам Маніфест Народнага ўрада. Парафіянін Штурма данёс пра гэта — і святара арыштавалі, а 25 чэрвеня 1863 года расстралялі ў Лідзе.

З 1702 па 1798 год Ішчалнай валодалі Валі. Юзаф і Мар'яна, пра якіх згадвалася вышэй, мелі сына, таксама Юзафа. Было яму за 40 гадоў, калі ён вырашыў ажаніцца з прыгажуняй Агнешкай Шукевіч, значна маладзейшай за яго. Юзаф перапісаў будучай жонцы ўсё, што меў, а яна круціла як хацела сляпым ад кахання мужам.

Малодшая сястра Агнешкі Элеанора выйшла замуж за чалавека з рашучым характарам — Караля Лясковіча. Дзве гэтыя сям'і жылі разам у Ішчалне, што стала прадметам бясконцых жартаў сярод мясцовых землеўладальнікаў. Караль Нарбут нават арганізаваў паміж жанатымі шляхцічамі дзве арміі: Валяў і Лясковічаў. Усе мужы, якія падпарадкоўваліся сваім жонкам, атрымлівалі чыны ў арміі Валяў, а тыя, якія трымалі сваіх жонак у руках, былі запісаныя ў армію Лясковіча.

У 1796 годзе Юзаф Валь памёр, у 1798 годзе памерла і яго жонка. Дзяцей у іх не было. Ішчална перайшла да Элеаноры з Шукевічаў, якая перапісала маёмасць на свайго мужа Караля. Апошні распачаў добраўпарадкаванне маёнтка, разбіў вялікі парк, дзе акрамя мясцовых парод былі і экзатычныя дрэвы. ▶

У маі 1812 года, напярэдадні вайны з Напалеонам, у маёнтку Караля Лясковіча спыняўся расійскі імператар Аляксандр I. Дачка гаспадара Францішка з вялікім артыстызмам грала цару на арфе: для канцэртаў у палацы быў асобны пакой з высокай столлю і выдатнай акустыкай. У знак увагі імператар падарыў Францішцы дыяментавую стралу.

**Усе мужы, якія падпарадкоўваліся сваім жонкам, атрымлівалі чыны ў арміі Валяў, а якія трымалі сваіх жонак у руках — былі запісаныя ў армію Лясковіча**

Візіт імператара, аднак, ніяк не паўплываў на сыноў Лясковіча Леанарда і Фелікса — яны праз месяц уступілі ў напалеонаўскую армію.

Дачка Караля Францішка пабралася шлюбам з уладальнікам маёнтка Голдава Антонам Скарбак-Важынскім. Яны мелі сына Баляслава, які ажаніўся з суседкай з Вялікага Мажэйкава Марыяй Грабоўскай. У гэтай сям'і быў нешчаслівы лёс. Пачыналася ўсё весела і шумна, маладыя гасцявалі і балявалі. Аднак даходаў на раскошнае жыццё не хапала, тым больш што Баляслаў аказаўся заўзятым карцёжнікам. Каля 1880 года, не маючы чым заплаціць картачныя даўгі, ён учыніў самазабойства. Убачыўшы мёртвага мужа, ад інфаркту памерла яго жонка. Тры дачкі засталіся сіротамі.

Апеку над Зоф'яй, Марыяй і Ізабэлай прыняў родны брат іх маці Станіслаў Грабоўскі, уладальнік Вялікага Мажэйкава. Яго дзейнасць у якасці апекуна — выдатны прыклад сумленнасці, які варта было б у школах вывучаць. Грабоўскі выплаціў частку даўгоў з уласных сродкаў. А галоўнае, арганізаваў кіраванне маёнткамі дзяўчат так, што да іх паўналецця маёмасць была чыстай ад крэдытных абавязкаў.

Апякун ніколі не эканоміў на выхаванні пляменніц. Дзяўчаты атрымалі вышэйшую адукацыю. Марыя і Зоф'я мелі ступені дактароў медыцыны і гуманітарных навук, Ізабэла вывучала мастацтва. Праўда, ніводная з сясцёр не выйшла замуж. Пасля іх смерці ў гады Першай сусветнай вайны маёнткі атрымалі далёкія сваякі.



**Гістарычнай Лідчыне пашанцавала**

У яе гістарычнага мінулага і сёння ёсць надзейны вартаўнік — лідскі краязнаўца Леанід Лаўрэш. Сайт *pawet.net* — сапраўдная скарбонка ведаў па гісторыі Лідскага краю.

У Ішчалне захоўваўся найбольш багаты архіў сярод усіх навакольных маёнткаў. Падчас апякунства Станіслава Грабоўскага пасаду захавальніка архіва займаў глыбокі даследчык і краязнаўца Міхал Шымялевіч (1879–1969). Ягоныя працы не страцілі сваёй вартасці і ў XXI стагоддзі.



Ішчална сёння — маляўнічае мястэчка, якое засталося ўбаку ад сучасных дарог. Зруйнаваная былая сядзіба Лясковічаў, рэшткі парку занядбаныя, і толькі барочны касцёл па-ранейшаму пануе над паселішчам. Тым не менш вёсачка нібы дэкарацыя да гістарычнага фільма: заварожваюць краявіды са старымі хаткамі, агароджамі, масткамі. Калі Белагруда дорыць падарожніку ўзнёслы і радасны настрой, то Ішчална — лёгкі смутак і замілаванне. Адразу ўспомнілася, што менавіта гэтым трактам у лютым 1797 года з Гродна на Пецярбург правезлі пад канвоем апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Люблю вандроўкі па родным краі за іх непрадказальнасць. Думала, што самым цікавым будзе Малое Мажэйкава. А сэрца засталося ў Ішчалне і Белагрудзе. ◆



**Ішчална** дорыць падарожніку лёгкі смутак і замілаванне.

ФОТА СВЯТЛАНЫ ЛУШЧАЎЦОВАЙ

# Вітальд Пілецкі

## *Вязень Асвенціма па ўласнай волі*

**Варшава, верасень 1940 года. Акупанты праводзяць аблавы на «дармаедаў» ва ўзросце ад 18 да 40 гадоў, адпраўляюць іх «працаваць». Не маеш аўсвайса — затрыманы. Сярод арыштаваных пры праверцы дакументаў быў русавалосы мужчына са сціснутымі вуснамі. Ніхто не ведаў, што ён спецыяльна шукаў нагоды падставіцца, каб яго затрымалі. Гэта было заданне польскага падполля — частка аперацыі па атрыманні разведданых аб апараце нацысцкага тэрору, метадах гестапа і новым загадкавым канцлагеры Аўшвіц. Піша Алена Заляшчук.**




**Вязень Асвенціма Вітальд Пілецкі.** Сакавік 1941 года.

Ротмістру Вітальду Пілецкаму тады было 39 гадоў. У той час немцы зладзілі ў захопленай Польшчы крывавы тэрор. Яго заданне было не проста, а смяротна небяспечным. Але Вітальд прыняў яго без ваганняў.

### Рызыкоўны разведчык

З першых дзён Другой сусветнай вайны падпаручнік Пілецкі змагаўся з немцамі, камандаваў кавалерыйскім узводам. Аднак польскае войска ў вераснёўскай кампаніі 1939 года пацярпела цяжкое паражэнне. Большасць людзей пад камандаваннем Пілецкага загінула, была параненая або патрапіла ў палон. Сам Вітальд ацалеў цудам.

Але Пілецкі не скіс, а шукаў магчымасць працягваць барацьбу. У лістападзе 1939 года ў Варшаве была створана арганізацыя, якую назвалі Таемная польская армія. Яе кіраўніком стаў сябар Вітальда Ян Владаркевіч, Пілецкі ж стаў вярбоўшчыкам. За зіму падпольная сетка Супраціўлення разраслася і налічвала мноства груповак. Тут былі аб'яднанні вайскоўцаў, камуністаў, прафсаюзных арганізацый, творчых супрацоўнікаў і нават хімікаў. Але групоўкі былі дробнымі. Навабранцаў Вітальд выбіраў асцярожна, асцерагаючыся здраднікаў. У снежні ягоная група налічвала каля 100 чалавек, асноўнай іх дзейнасцю быў збор разведданых.

З павелічэннем падпольнай сеткі пачасціліся і рэпрэсіі з боку немцаў. Некалькіх паплечнікаў Вітальда арыштавалі, пра іх лёс ніхто нічога не ведаў. А летам 1940 года ў падполлі распаўсюдзіліся чуткі, што каля невялікага горада Асвенцім непадалёк ▸



ФОТА: ПРЫВАТНЫ АРХІЎ АНДЖЭЯ ПІЛЕЦКАГА.

**Вітальд Пілецкі** быў дзіцем свайго часу.

**Вітальд Пілецкі** (1901–1948) нарадзіўся ў горадзе Аланец у Карэліі, яго сям'ю саслалі ў Сібір за ўдзел у паўстанні 1863 года. Толькі ў 1910 годзе сям'я Пілецкіх вярнулася ў Вільню.

Ужо ў школьныя гады Вітальд далучыўся да таемных патрыятычных моладзевых арганізацый, трымаў з імі сувязь падчас бежанства ўглыб Расіі ў гады Першай сусветнай вайны. У 1918 годзе вярнуўся ў Вільню, ваяваў у савецка-польскай вайне, браў удзел у абароне Гродна, Варшаўскай бітве і «бунце» генерала Люцыяна Жалігоўскага (пра гэта ў «Нашай гісторыі» ў артыкуле «Сярэдняя Літва: дзіця гібрыднай вайны» ў № 9/2020 год пісаў Андрэй Акушка).

Пасля вайны спрабаваў атрымаць сельскагаспадарчую і мастацкую адукацыю, але навучанне так і не скончыў. **З 1920-х гадоў і да 1939 года жыў і працаваў з жонкай Марыяй і дзецьмі Анджэем і Зоф'яй у маёнтку Сукурчы пад Лідай.**

Вайсковае званне перад пачаткам Другой сусветнай вайны — падпаручнік (гэта як малодшы лейтэнант) кавалерыі, пасля ўжо ў падпольных арганізацыях стаў спачатку паручнікам, а пасля ротмістрам.



**Вітальд Пілецкі з прыяцелем у Сукурчах.** Каля 1930 года.

▶ ад Кракава быў арганізаваны канцэнтрацыйны лагер. Немцы называлі яго Аўшвіц.

Тады і з'явілася ідэя, што неабходна накіраваць туды чалавека для збору інфармацыі, стварэння групы Супраціўлення і арганізацыі паўстання сярод зняволеных. Вітальд Пілецкі стаў добраахвотнікам, які сам вызваўся гэтую ідэю ажыццявіць. А ў верасні 1940-га падчас аблавы Пілецкі пачаў здзяйсняць свае планы, стаўшы вязнем Аўшвіца нумар 4859 з падробленымі дакументамі на імя Тамаша Серафіньскага.

## Пекла на зямлі

Тое, што Вітальд убачыў у лагеры, шакавала: умовы жыцця тут былі проста нечалавечыя. Прадуктаў давалі роўна столькі, каб чалавек не памёр з голаду. А выйсці з гэтага лагера фактычна можна было толькі праз печы крэматорыя. Асабліва цяжка даводзілася яўрэям, у якіх шанцаў выжыць практычна не было.

За парадкам у бараках назіралі «капо» — звычайна гэта былі асуджаныя немцы-крымінальнікі, згодныя супрацоўнічаць з адміністрацыяй. У дадатак да голаду, холаду і цяжкіх умоў працы яны выбівалі сваімі дубінкамі з людзей апошнія прыкметы людскога. У лагеры ў зняволеных часта змяняўся характар. Бесперапынны бессэнсоўны гвалт прымушаў людзей замыкацца ў сабе, не давяраць іншым, каб выжыць самому. «Адны праваліліся ў маральнае балота, — пісаў пазней Пілецкі. — Характар іншых станавіўся цвёрдым, падобным да алмазу».

За любую правіннасць жорстка каралі. Збівалі за найменшае парушэнне шматлікіх лагерных

правіл: размовы падчас працы, павольная хада, бруднае адзенне, няправільнае прывітанне эсэсаўца, дзёрзкі погляд, бадзянне без справы, нядбайна запраўлены ложак і шмат іншага. Выжыць можна было толькі не прыцягваючы ўвагі.

### Першыя крокі

Аднак Вітальд трапіў сюды з заданнем, і яго трэба было выконваць. Першыя крокі ў фарміраванні сілаў Супраціўлення былі вельмі асцярожнымі. Вітальд баяўся не толькі ахоўнікаў і капо, у такой катавальні выдаць маглі і свае.

Для пачатку Пілецкі знайшоў арыштаваных сяброў Уладзіслава Дзерынга і Уладзіслава Сурмацкага. Дзерынг працаваў у лагерным шпіталі. Выкарыстоўваючы сваё становішча, ён ратаваў хворых зняволеных. А Сурмацкі, як інжынер-геадэзіст, трапіў у будаўнічы атрад СС. Яму ўдалося наладзіць кантакт з сям'ёй, якая жыла непадалёк ад лагера. Так была арганізаваная кантрабанда прадуктаў і лекаў.

Асцярожна размаўляючы з вязнямі, Пілецкі шукаў надзейных людзей, якім можна было б даверыць арганізацыю сілаў Супраціўлення. Адпрацаваўшы ў лагеры два з паловай гады, ён за гэты час дасягнуў пэўных поспехаў. Вітальд здолеў сабраць вакол сябе надзейных людзей, і падпольная сетка Аўшвіца ўвесь час павялічвалася.

### Сувязь са светам

Першачарговай задачай Вітальд бачыў палягчэнне жыцця вязняў: раўнамернае размеркаванне прадуктаў, каб не дапусціць голаду, узаемадапамогу, абуджэнне духу калектывізму, адмову ад выкарыстання грубай сілы. Словы яго не заўсёды мелі поспех, аднак некаторыя зняволеныя прыслухоўваліся і дапамагалі адзін аднаму.

Перадаваць разведданыя пра лагер у Варшаву было складана. Немцы прымушалі вязняў пісаць лісты дадому, аднак сачылі, каб інфармацыя была толькі пазітыўная. Іншых магчымасцяў для сувязі, здавалася б, не было. Аднак першая справаздача паляцела ў Варшаву ўжо праз месяц. Яе вусна перадаў Аляксандр Веляпольскі, адзін з вязняў, якога выкупіла з лагера яго сям'я. Вітальд максімальна ёміста паспрабаваў перадаць усю жудаснасць становішча зняволеных і прасіў дабівацца бамбардзіравання лагера брытанскай авіяцыяй, каб ▶

**Аўшвіц-Біркенау** (Асвенцім-Бжэзінка) — комплекс нямецкіх канцэнтрацыйных лагераў, якія размяшчаліся ў 1940–1945 гадах на поўдні Польшчы, каля горада Асвенцім, за 60 км на захад ад Кракава.

Гэтыя лагеры, створаныя 20 мая 1940 года, увайшлі ў гісторыю як найбуйнейшыя са створаных нямецкімі нацыстамі падчас Другой сусветнай вайны лагераў смерці. Праз іх прайшло каля 1 300 000 чалавек. Тут вязні падвяргаліся катаванням, а большасць падлягала смерці. Сучасныя гісторыкі сыходзяцца ў меркаванні, што ў Аўшвіцы было знішчана каля 1 100 000 чалавек, каля 1 000 000 з якіх былі яўрэямі.

Аўшвіц-Біркенау быў вызвалены 27 студзеня 1945 года Чырвонай арміяй. Гэты дзень цяпер адзначаецца як Міжнародны дзень ахвяраў Халакосту. У 1947 годзе на тэрыторыі былога лагера быў створаны музей, які ўключаны ў спіс Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.



**Вячэрняя пераклічка.** Ян Комскі, пасляваенныя гады.



**Партрэт Вітальда.** Аўтар Станіслаў Гуткевіч. Пачатак 1942 года.

пакласці канец іх пакутам. Пры бамбёжцы хоць частцы вязняў удасца збегчы, лічыў ён. Ён бачыў гэта адзіным выйсцем.

## Адзіным выйсцем Пілецкі бачыў бамбёжку Аўшвіца брытанскай авіяцыяй

Справаздача была апублікаваная ў Варшаве і перададзеная ў Лондан, дзе на той момант знаходзіўся ўрад Польшчы. Аднак брытанскія войскі адмовіліся ад такога кроку. Маўляў, тэхнічна выканаць бамбардзіроўку Аўшвіца немагчыма. І ўсё ж пачатак справе быў пакладзены.

Вусныя справаздачы доўга былі адзінай магчымасцю перадаваць інфармацыю ў Варшаву. У 1942 годзе падпольшчыкі пачалі збіраць пісьмовыя сведчанні аб злачынствах немцаў. Дакументы таемна выносілі з лагера і пакідалі там, дзе іх потым забіралі падпольшчыкі. Кожная такая акцыя была смяротна небяспечнай.

Пазней людзям Вітальда Пілецкага ўдалося сабраць радыёперадатчык. Так змаглі перадаваць звесткі пра колькасць новых вязняў і загінулых. Але карыстацца перадатчыкам было крайне рызыкоўна, таму ад яго хутка адмовіліся. Затое дзякуючы Дзерынгу ўдалося атрымаць доступ да радыёпрыёмніка. Пілецкі змог слухаць перадачы Бі-бі-сі і пераказваць навіны вязням. Гэта падтрымлівала іх волю да жыцця.

### Пад пагрозай выкрыцця

Цягнікі са зняволенымі неўзабаве сталі прыбываць кожны дзень. Вясной 1941 года нацысты пашырылі тэрыторыю лагера: пабудавалі 12 новых баракаў і дабудавалі паверхі над ужо наяўнымі. Вітальд павялічыў тэмпы вярбоўкі (у сакавіку ягоных аднадумцаў было ўжо некалькі сотняў). Яго прадстаўнікі былі амаль ва ўсіх працоўных атрадах і стараліся атрымаць найлепшыя месцы, каб мець магчымасць уладкаваць сваіх людзей на неабходныя работы для выканання заданняў і збору інфармацыі.

Некалькі разоў Пілецкі ледзь не раскрыў сябе. Адзін раз яго пазнаў варшаўскі прыяцель. Інцыдэнт удалося замяць, але некалькі вязняў пачулі яго сапраўднае імя. Аднойчы ён цудам пазбег расстрэлу. У той дзень на ранішняй пераклічцы назвалі яго нумар. Прычынай стала тое, што «Тамаш Серафіньскі» не пісаў дадому. Але на такі выпадак Вітальд меў некалькі лістоў з пазнакай «адхілена». Гэта яго выратавала.

У маі 1942 года немцы западозрылі, што ў лагеры існуе падпольная сетка. Пад выглядам зняволенага ў лагер прыбыў агент гестапа. Падпольшчыкі неўзабаве яго раскрылі і апаратыўна ліквідавалі, але Вітальд перажываў, што той паспеў паведаміць кіраўніцтву штонебудзь важнае. Аднак час ішоў, нічога не змянялася, і Пілецкі ўрэшце супакоіўся.

### Біялагічная зброя

Члены падполля наладзілі дастаўку лекаў у шпіталь. Многіх хворых праз гэта ўдалося выратаваць. Але ў чэрвені 1941 года ў лагеры пачалася эпідэмія тыфу. Хваробу разносілі вошы, ва ўмовах антысанітарыі яна распаўсюджвалася хутка, хворых было шмат. Лагерныя лекары распачалі эксперыменты над хворымі: ім уводзілі розныя прэпараты, каб вызначыць, які з іх дзейнічае найбольш хутка. Часцей за ўсё для такіх мэтаў сталі выкарыстоўваць ін’екцыі фенолу. Двойчы цяжка хварэў і Вітальд — запаленнем лёгкіх і тыфам, — але дзякуючы клопату паплечнікаў паправіўся.

Падпольшчыкі прыдумалі сваю біялагічную зброю — заражаныя тыфам вошы. Немцы баяліся гэтай хваробы, таму падчас эпідэмій абмяжоўвалі кантакты са зняволенымі. А падполле падкідала «падарункі» ў адзенне і ў ляжанкі зненавідных капо.

### Вязуць і нішчаць

Пасля нападу Германіі на СССР у лагер сталі прыбываць савецкія ваеннапалонныя. Першую партыю, некалькі соцень чалавек, капо збілі да смерці рыдлёўкамі

і кіркамі ў гравійных кар'ерах. Тады ж з'явілася практыка масавых забойстваў лагерных зняволеных газам. Першую партыю з 575 чалавек, невылечна хворых, пад выглядам адпраўкі ў санаторый вывезлі пад Дрэздэн. А пасля для гэтага прыстасавалі цокальны паверх аднаго з блокаў у самім лагеры. Туды загналі хворых вязняў і новую партыю савецкіх ваеннапалонных, усяго каля 850 чалавек, і пусцілі газ. Ваеннапалонных набілі поўныя камеры, так што трупы стаялі вертыкальна, канечнасці перапляліся, вочы былі вырачаныя, раты разяўленыя. Жудаснае відовішча.

З таго часу масавыя забойствы ў газавых камерах сталі рэгулярнымі. З кастрычніка 1941 года цягнікі з савецкімі ваеннапалоннымі прыбывалі кожны дзень. Ужо праз месяц на спецыяльна агароджанай тэрыторыі іх жыло каля 10 000. У лагеры не хапала месца. Тады за тры кіламетры ад Аўшвіца савецкія палонныя пачалі будаваць новы лагер — Біркенау. Смяротнасць была велізарная. З дванаццаці тысяч савецкіх ваеннапалонных ацалелі ўсяго толькі каля ста чалавек.

У 1942 годзе ў лагер упершыню прывезлі жанчын. Гэта былі полькі, асуджаныя за падпольную дзейнасць. Потым цэлымі саставамі сталі звозіць яўрэяў з усёй Еўропы. Маладых і здаровых накіроўвалі на цяжкія работы ў Біркенау, астатніх цэлымі сем'ямі труцілі газам адразу па прыбыцці. Для гэтага ў лесе непадалёк ад лагера былі абсталяваныя два будынкі. За адзін раз нацысты маглі знішчыць дзве тысячы чалавек.

Трупаў было шмат, крэматорый Аўшвіца не спраўляўся з такой колькасцю. Спачатку забітых закопвалі ў брацкія магілы, але трупы гнілі, забруджвалі грунтавыя воды і смярдзелі. Пачалося будаўніцтва ў Біркенау новых крэматорыяў, якія сумясцілі з газавымі камерамі. Каб пазбаўляцца ад трупаў, пакуль работы не будуць завершаныя, немцы расклалі два вялізныя вогнішчы. Яны гарэлі круглыя суткі.



**Зняволеных вязуць у газавую камеру.** Тадэвуш Патшэбоўскі. Пасляваенныя гады.

## «Мы на цэлую ступень пекла горшыя за жывёл»

Акрамя гэтага, нацысты пачалі ставіць эксперыменты на яўрэях. Уладзіслава Дзерынга таксама прыцягнулі да ўдзелу ў такіх аперацыях. Выхаду не было, яму трэба было трымацца за пасаду, неабходную для паспяховай дзейнасці падполля, але многім не падабалася яго служэнне немцам. Ва ўмовах канцлагера, калі ад саўдзелу ў забойстве залежала ўласнае жыццё, ніхто не мог з упэўненасцю сказаць, якія дзеянні трэба расцэньваць як супрацоўніцтва з ворагам, а які ўчынак з этычнага пункту гледжання з'яўляецца дапушчальным. Урэшце большасць зняволеных наўпрост ці ўскосна былі ўцягнутыя ў функцыянаванне смяротнага механізму Аўшвіца.

**«Мы ўжо бачылі горы трупаў, але забойства 39 дзяцей ашаламіла ўсіх»**

Усе каштоўнасці забітых яўрэяў забіралі немцы, аднак сярод рэчаў, што прывозілі ў Аўшвіц для знішчэння, вязні часта знаходзілі

▶ схаваныя грошы. Хутка ў лагеры сталі распаўсюджвацца банкноты розных валют. Грошы, аднак, не мелі асаблівай каштоўнасці. Хлеб на чорным рынку каштаваў 100–200 амерыканскіх долараў, а потым падаражэў да 1000. Французскія франкі наогул не мелі ніякай каштоўнасці, іх выкарыстоўвалі замест туалетнай паперы. Пілецкі, праўда, адмаўляўся нават дакранацца да гэтых рэчаў, не мог пераадолець агіды. А вось прадуктамі не грэбаваў і ён.

На пачатку 1943 года немцы пачалі труціць у газавых камерах і палякаў. Але больш за ўсё зняволеных уразіла забойства ін'екцыяй фенолу 39 польскіх дзяцей. «Мы ўжо бачылі горы трупаў, — успамінаў Вітальд, — але гэта ашаламіла ўсіх». Праз тыдзень ін'екцыі фенолу ўвялі яшчэ 80 польскім хлопчыкам.

**«Мы збіліся са шляху, сябры мае, мы катастрафічна збіліся са шляху… Я б сказаў, што мы ператварыліся ў жывёл… але не, мы на цэлую ступень пекла горшыя за жывёл»**

Тое, што рабілі нацысты, Вітальд называў «новым кашмарам». Ён лічыў гэтыя злачынствы крызісам усяго чалавецтва: «Мы збіліся са шляху, сябры мае, мы катастрафічна збіліся са шляху… Я б сказаў, што мы ператварыліся ў жывёл… але не, мы на цэлую ступень пекла горшыя за жывёл».

### З думкай пра паўстанне

Неаднаразова сярод зняволеных абмяркоўвалася тэма паўстання. Упершыню з гэтай ідэяй Пілецкі сутыкнуўся вясной 1941 года, распрацоўвалі яе некалькі зняволеных палкоўнікаў. Тады Вітальд палічыў план заўчасным, ён асцерагаўся рэпрэсій для тых, хто не здолее збегчы.

Аднак калі забойствы ў газавых камерах сталі масавымі і рэгулярнымі, пра паўстанне задумаўся і Пілецкі. Ён разумеў, што Аўшвіц стаў сапраўднай фабрыкай смерці, таму хацеў знішчыць яго. Надзеі выратаваць усіх зняволеных не было, але хоць нехта ўсё ж здолеў бы ўцячы. І Пілецкі вырашыў аб'яднаць сілы з палкоўнікам Казімежам Равічам, які стварыў сваю падпольную сетку.

Са здзіўленнем Вітальд даведаўся, што ў лагеры ёсць і сацыялістычная ячэйка Супраціўлення. Яе лідарам быў Станіслаў Дзюбуа — левы актывіст і колішні дэпутат польскага парламента ад Польскай сацыялістычнай партыі. Яны дамовіліся каардынаваць дзеянні.

Равіч спяшаўся з паўстаннем. Ён апраўдваў рызыку тым, што неабходна нанесці лагеру максімальныя страты, знішчыць склады з боепрыпасамі, цягнікі і мост на Кракаў. Пілецкі ж перажываў за тых, хто не здолее збегчы. Ён чакаў дапамогі з Варшавы. Але Варшава маўчала.

У 1942 годзе зняволеныя штрафнога блока ў Біркенау паспрабавалі падняць паўстанне. Збегчы ўдалося толькі дваім, астатніх атруцілі газам. Зноў пачаліся рэпрэсіі. На пачатку ліпеня 1942 года Равіча перавялі ў іншы лагер, а трохі пазней расстралялі і Станіслава Дзюбуа. Вера Пілецкага ў паўстанне пахіснулася, маральны дух падпольшчыкаў упаў. Вітальд не ведаў, колькі зможа ўтрымліваць падполле ад расколу.

Але сапраўдны ўпадак сіл ён адчуў тады, калі ў лагер прыбыў адзін з яго паплечнікаў па варшаўскім падполлі. Ад яго Вітальд даведаўся, што ўсе яго старанні дарэмныя. Варшава не збіралася аказваць дапамогу ў паўстанні, бамбардзіроўка лагера таксама не прадбачылася. Масавыя забойствы адышлі на другі план у параўнанні з сусветнымі падзеямі. Пілецкі быў прыгнечаны. Падпольшчыкі рызыкавалі жыццём, каб здабыць інфармацыю, ад якой, аказваецца, проста адмахнуліся.

### Уцёкі

І тады Вітальд вырашыў уцякаць. Хоць гэта было вельмі-вельмі складана. Спробы ўцёкаў з Аўшвіца былі і раней, аднак найчасцей няўдалыя. Але бывалі сярод іх і дзёрзкія: аднойчы чацвёра вязняў збеглі на аўтамабілі, пераапрануўшыся ў форму СС.

Рашэнне было прынята. Але пакуль што стрымлівала небяспека калектыўнай адказнасці за ўцёкі. Да таго ж з'явіліся чуткі, што палякаў будуць пераводзіць у іншыя лагеры, а іх месца зоймуць яўрэі. Пілецкі трапіў у спіс для пераводу адным з першых. Толькі цудам яму ўдалося застацца.

Урэшце план уцёкаў быў распрацаваны. Разам з Вітальдам лагер меліся пакінуць яшчэ двое вязняў: Эдвард Рэдзэй і Ян Цясельскі. Для дасягнення мэты яны ўхапіліся за магчымасць уладкавацца на працу ў пякарню, што знаходзілася за паўтара кіламетра ад лагера. Яны

прадумалі ўсё да апошняй дробязі і ў ноч з 26 на 27 красавіка 1943 года ўцяклі. І іх не злавілі.

### Што горшае за Аўшвіц

На волі Вітальд у першую чаргу паспрабаваў арганізаваць дапамогу ў паўстанні зняволеным сябрам. Але ягоныя ідэі адхілілі як нерэалістычныя. Вітальд вымушаны быў змірыцца і пачаў працаваць у падпольнай сетцы Варшавы. Ён быў удзельнікам Варшаўскага паўстання і зноў трапіў у канцэнтрацыйны лагер, адкуль яго вызвалілі амерыканскія войскі.

Пасля вайны Вітальд трапіў у армію Уладзіслава Андэрса — польскую армію на эміграцыі, якая дзейнічала пад крылом польскага эміграцыйнага ўрада. І яго накіравалі ў Варшаву ствараць падпольную сетку для барацьбы ўжо з камуністамі. Але поспеху тут ніякага не было, ужо на пачатку мая 1947 года ён быў арыштаваны. І пачаліся катаванні. За шэсць месяцаў зняволення быў на допытах больш за 150 разоў. Урэшце Пілецкі падпісаў усё, што яму сказалі падпісаць, і тады ж сказаў, што тое, праз што ён прайшоў у Аўшвіцы, — дробязь у параўнанні з тым, што адбываецца з ім цяпер.


WIKIMEDIA COMMONS

**Вітальд на лаве падсудных.** Сакавік 1948 года.

Справа Пілецкага павінна была стаць паказальнай, пра яе многа пісалі і казалі па радыё. Урэшце яму выставілі абвінавачанні: здрада радзіме, змова з мэтай забойства службовых асоб Упраўлення бяспекі, няяўка ў органы ўлады для рэгістрацыі, выкарыстанне фальшывых дакументаў і незаконнае валоданне агнястрэльнай зброяй.

У апошнім сваім слове Вітальд Пілецкі сказаў: «Я спрабаваў жыць так, каб у апошнюю гадзіну зведаць шчасце, а не страх. Я шчаслівы, таму што ведаю: мая барацьба была таго вартая». Ён падкрэсліў, што быў польскім афіцэрам, які выконваў загады вышэйшых камандзіраў.


ONET.PL

**Сын ротмістра Пілецкага** кажа: «Я сам сабе думаю, ці здольны б я быў на такую самаахвярнасць, як мой тата».

**«Я спрабаваў жыць так, каб у апошнюю гадзіну зведаць шчасце, а не страх. Я шчаслівы, таму што ведаю: мая барацьба была таго вартая»**

Яго асудзілі да смяротнага пакарання, а 25 мая 1948 года расстралялі. Рэабілітавалі Вітальда Пілецкага толькі ў 1990 годзе, а ў 2006-м пасмяротна ўзнагародзілі ордэнам Белага Арла — найвышэйшай дзяржаўнай узнагародай Польшчы. ◆

# Таямніцы Маці Божай Мінскай

**У мінскім саборы Святога Духа (той белы храм, што ўзвышаецца на гары над Старым горадам) захоўваецца вельмі старадаўняя і вельмі каштоўная рэліквія — вялікі абраз Маці Божай Мінскай. Войны, рэлігійныя канфлікты, ідэалагічныя чысткі — усе зігзагі мінскай гісторыі гэты абраз адчуў на сабе. І ён хавае таямніцы, якія яшчэ чакаюць свайго адкрыцця, піша экскурсавод Цімафей Акудовіч.**




**Помнік на Зыбіцкай ля Свіслачы**, дзе, па легендзе, быў знойдзены абраз.

Дзіва дзіўнае: хоць за пяць стагоддзяў гісторыі мінскага абраза перад ім схілялі галовы каралі, імператары і іншыя валадары свету, гэтая святыня так і не стала хоць бы колькі буйным брэндам. Да мінскага абраза не ходзяць вялікія пілігрымкі, як да жыровіцкай Божай Маці, і вакол яго не сфарміравалася такога значнага рэлігійнага фэсту, як у Будславе.

Мінскі абраз застаўся ўтульным, унутрана гарадскім. Унутрана настолькі, што нават сучасныя мінчукі не ўсе ведаюць пра існаванне гэтай святыні, а сярод мінскай сімволікі, якая напрацоўваецца ў рэкламнай і турыстычнай індустрыі, рэдка сустрэнеш адсылкі да яе.

І дарма. 500-гадовы абраз застаецца адным з самых старых артэфактаў у горадзе, які сваім лёсам прэзентуе ўсю складаную гісторыю Мінска. І, як і ўвесь старажытны горад, ён хавае шмат таямніц.

### З Кіева супраць цячэння

Легенда пра яго з’яўленне ў сваёй класічнай версіі была запісаная полацкім уніяцкім манахам Ігнатам Сцябельскім. У сярэдзіне XVIII стагоддзя ён узяўся за вялікую працу па гісторыі Праваслаўнай і Уніяцкай цэркваў на нашых землях і сярод іншага занатаваў там легенды, звязаныя з цудатворнымі абразамі. Праца выйшла ў 1781 годзе. Вось што там пісалася пра мінскую ікону:

«Абраз гэты знаходзіўся спярша ў Кіеве ў Дзесяціннай царкве, будучы пастаўлены там святым самадзержцам зямель рускіх Уладзімірам І Святаславічам, дзе заставаўся на працягу 500 з гакам гадоў. А калі каля 1500 года Шахмат-Гірэй, хан заволжскіх татараў, прыйшоўшы з 100 000 сваёй арды пад Кіеў для збройнай

расправы са сваім праціўнікам Мехмед-Гірэем, перакопскім ханам, то падчас рабунку згаданага горада адзін татарын, узяўшы з Дзесяціннай царквы памянёную святую ікону і садраўшы з яе аздобы, укінуў у раку, названую Дняпро. Тая ікона ці то вадой, то-бок цудоўным чынам супраць цячэння, ці то анёламі была перанесеная да Мінска і з'явілася на рацэ Свіслачы пад замкам ды, заўважаная па незвычайным ззянні, якое ішло ад яе, была ўзятая жыхарамі горада з вады і ўнесеная 13 жніўня 1500 года ў замкавую царкву».

Прыведзеныя тут гістарычныя дэталі хоць і не супадаюць у некаторых момантах з рэальнасцю (татары былі не заволжскія, Кіеў палілі крыху раней за 1500 год, Дзесяцінная царква на той момант была ўжо разбураная), але даюць падставы для аналізу.



**У саборы Сашэсця Святога Духа ікона вісіць злева ад алтара.**

### Прыгоды айца Фёдара

У № 5 «Беларускага гістарычнага часопіса» за 2021 год гісторыкі Аляксандр Груша і Сяргей Палехаў апублікавалі артыкул, дзе на падставе новых знойдзеных дакументаў пачатку XVI стагоддзя апісалі прыгоды мінскага святара царквы Успення Прасвятой Багародзіцы Фёдара. Гэты Фёдар у першай палове XV стагоддзя быў вымушаны збегчы (а можа, і прымусова вывезены) з Мінска ў Смаленск з-за міжусобных войнаў паміж князямі Жыгімонтам і Свідрыгайлам.

Судовая справа 1510 года (якраз яе і знайшлі нядаўна гісторыкі ў Вроцлаве) сцвярджае, што са Смаленска Фёдар вярнуўся з абразом Божай Маці, які размясціў у сваім храме. Пазней гэты храм стаў саборным, а абраз — яго галоўнай рэліквіяй. Магчыма, якраз гэтая ікона і стала ў будучыні знакамітай мінскай святыняй. Такая вось банальная гісторыя.

Гэтая гіпотэза, як акцэнтуюць самі аўтары, вельмі хісткая, бо грунтуецца толькі на ўскосных звестках і, відавочна, патрабуе яшчэ дапрацоўкі.

Версія пра святара Фёдара, апроч таго, што разбурае прыгожую легенду пра прынясенне абраза Святым Духам па вадзе, таксама не дае адказу на пытанне, чаму гэта рэліквія, якая прыбыла ў Мінск такім будзённым шляхам (ці мала якія яшчэ абразы прывозілі ў Мінск у гэты час), стала яго галоўнай святыняй. Мусіла ж быць падзея, якая паўплывала на гэты працэс.

### Датычны да бітвы пад Клецкам?

Тут цікавую версію выказвае гісторык Юрый Мікульскі, на сёння аўтар самага грунтоўнага даследавання пра мінскі абраз. Ён параўнаў класічную легенду Сцябельскага з больш ▶

раннімі версіямі і звярнуў увагу на цікавую дэталь.

Справа ў тым, што Сцябельскі ў канцы свайго апісання дадае, што ўзяў легенду з вельмі папулярнага ў тыя часы даведніка Вільгельма Гумпенберга «*Atlas Marianus*» 1672 года. А ў гэтым даведніку, апроч асноўнай часткі легенды, ёсць і такі не дужа цікавы для паспалітага чалавека, але вельмі карысны для гісторыка дадатак:

«Апрача іншых яе цудаў, пададзеных у друку, дзе шмат згадваецца аб ацаленнях сляпых і звар'яцелых, паведамляецца пра эпідэмію: калі тая жахліва распаўсюджвалася, то святая ікона, якую абносілі па горадзе, не толькі яе паўстрымала, але і адразу прагнала. Згадваецца таксама там і вялікая перамога над татарамі, атрыманая ў прысутнасці гэтай святой іконы».

Што тут зацікавіла гісторыка? Гэты тэкст патэнцыйна хавае інфармацыю, за якую можна «зачапіць» даціроўку святыні. Тое, што абраз ацаляў сляпых, мала што нам дае. Таксама малакарыснай ёсць і інфармацыя пра эпідэміі (іх было шмат у розныя гады). А вось вялікія перамогі над татарамі здараліся рэдка.

Скажам нават больш: вялікая перамога ў прамежку канца XV – пачатку XVI стагоддзя была толькі адна — 5 жніўня 1506 года.


STRADA.BY

**Сутокі Свіслачы і Бярэзіны.** Ікона, па паданні, прыплыла проці цячэння па Дняпры ў Бярэзіну і Свіслач.


WIKIMEDIA COMMONS

**Падмуркі Дзесяцінная царквы ў Кіеве**: у час, пра які гаворыць паданне, царква ўжо даўно была разбуранай.

Знакамітая бітва пад Клецкам (гл. пра яе артыкул Андрэя Блінца ў № 6/2020 «Нашай гісторыі»).

І тут усё складваецца вельмі лагічна: дзесьці ў раёне 1500 года, а можа быць і раней, у Мінск трапляе абраз Божай Маці. У 1503 годзе татары нішчаць Мінск, у 1506-м мінская харугва выпраўляецца на бітву і бярэ з сабой вялікі абраз Божай Маці. На полі пад Клецкам здараецца цудоўная перамога над ворагам, які некалькі дзесяцігоддзяў пляжыў усё жывое ў ВКЛ, і мінчукі вяртаюцца дадому ўжо з цудатворным абразом, які дапамог перамагчы страшнае зло.

Тут варта адзначыць, што гэтая версія грунтуецца толькі на логіцы супастаўлення позніх апісанняў легенды. Таму гэтая гіпотэза пакуль што толькі гіпотэзай і застаецца. Затое вельмі прыгожай.

## Падарунак каралевы Алены?

Яшчэ больш цікавую версію выказаў Юрый Мікульскі ў дачыненні да з'яўлення самога абраза ў Мінску. І тут таксама дапамагла захаваная судовая справа. На гэты раз звязаная з драматычнымі падзеямі.

У 1597 годзе ў Мінск з Берасця вярнуўся кіеўскі мітрапаліт і архімандрыт мінскага Увазнясенскага манастыра (на яго месцы цяпер Міністэрства абароны) Міхаіл Рагоза. Дакладней, выязджаў з Мінска ў 1596 годзе ён мітрапалітам, архімандрытам і духоўным пастырам, а вярнуўся ў горад страшным здраднікам, бо падпісаў і такім чынам легітымізаваў Берасцейскую унію, што праваслаўным мінчукам дужа не спадабалася.

Калі Рагоза зайшоў у саборную Прачысценскую царкву (яна стаяла на замку), то ўбачыў, што жыхары горада вынеслі з храма ўсе ўпрыгожанні, абразы і іншыя дары, не жадаючы пакідаць іх уніяту.

Рагоза падаў у суд на мінскі магістрат, і да нас дайшла судовая справа, дзе пісар старанна зафіксаваў момант, як разгублены мітрапаліт ходзіць на пустой царкве і сярод іншага пытаецца ў панамара: «Гдзе бы се падзелі грыўны, ланцугі, клейноты, залатыя, чырвоныя, талеры і персцені ад таго абраза Прачыстае, каторы надала слаўнае і святое памяці каралева Алена?»

Мітрапаліт, такім чынам, кажа, што царкоўны абраз быў


WIELKAHISTORIA.PL

**Алена Маскоўская.** Карціна Марцэлія Краеўскага.

падараваны калісьці каралевай Аленай. Хто такая каралева Алена, здагадацца нескладана. У 1495 годзе кароль польскі і вялікі князь літоўскі Аляксандр, каб спыніць бясконцыя войны з Масквой, узяў сабе ў жонкі дачку маскоўскага князя Івана III Алену.

Гісторыю пра Алену Іванаўну вельмі любяць белетрысты і гістарычныя публіцысты з-за драматызму і лірычнасці. Дачка князя, якую прымусова выдалі замуж у варожую краіну і там ледзь не сілай прымушалі перайсці ў каталіцтва. Але яна цвёрда адмаўлялася і жыла ў пастаянным напружанні інтрыг літоўскага двара, знайшоўшы паразуменне толькі са сваім мужам Аляксандрам, які па выніку мусіў распачаць чарговую вайну супраць свайго цесця Івана III.

Юрый Мікульскі прапануе версію, што менавіта Алена падарыла мінчукам абраз, прывезены з далёкай Масковіі. Тут таксама з пазіцыі логікі ўсё складваецца надзвычай гладка. Па-першае, мы дакладна ведаем, што Алена Іванаўна падарыла прыгожы абраз жыхарам Вільні, ён пазней стаў вядомы як абраз Божай Маці Віленскай, а ў XX стагоддзі знік. Па-другое, мы ведаем, што Алена некалькі разоў была ў Мінску і рабіла вялікія падарункі праваслаўнаму Увазнясенскаму манастыру (таму самаму, дзе пазней служыў Рагоза). Больш за тое, яна паспрыяла таму, што архімандрыт гэтага манастыра Іона стаў кіеўскім мітрапалітам!

Грунтуючыся на гэтым, можна нават выказаць гіпотэзу, што Алена адчувала сябе значна ўтульней у праваслаўным тады Мінску, чым пры каталіцкім двары свайго мужа ў Вільні, і прыязджала ў наш горад, каб адпачыць душою.







З КНІГІ Д. СТРОЦАВА «ПЯТИСОТЛЕТИЕ ЯВЛЕНИЯ МИНСКОЙ ИКОНЫ БОЖИЕЙ МАТЕРИ»

**Так выглядала ікона перад рэстаўрацыяй (1)**, на рэнтгенаўскім здымку (2) і паводле камп'ютарнай рэканструкцыі пачатковага ліку (3).

То выходзіць, што ў прамежку паміж 1499 і 1504 гадамі Алена Іванаўна мела ўсе магчымасці і патэнцыйную матывацыю, каб падарыць адзін з абразоў, прывезеных з Масковіі, жыхарам Мінска. А праз пару год здарылася бітва пад Клецкам, і цудатворны імідж святыні канчаткова сфармаваўся.

Такая вось незвычайная, але вельмі цікавая версія.

Тут зноў трэба заўважыць, што дадзеная гіпотэза трымаецца толькі на адной фразе з аднаго судовага пасяджэння, на якім задняй датай фіксаваўся блытаны маналог разгубленага мітрапаліта. Таму гэтая версія, як і версія пра святара Фёдара, яшчэ чакае сваёй навуковай аргументацыі.

## Прыдумкі ўніятаў?

Чым «нязручныя» абедзве версіі, дык гэта тым, што яны не тлумачаць, адкуль у выніку з'явілася сама легенда пра перамяшчэнне абраза па вадзе з Кіева ў Мінск. Бо легенда ж няпростая: там ёсць факталогія, канкрэтныя даты і персанажы.

Юрый Мікульскі ў сваім даследаванні прапануе такую гіпотэзу: мы ведаем, што з пачатку XVII стагоддзя абраз забралі сабе ўніяты і ў 1616 годзе перанеслі яго ў Святадухаву царкву (стаяла на месцы цяперашняй дзіцячай філармоніі ў Старым горадзе і мела амаль такі ж выгляд). У сярэдзіне XVII стагоддзя Мінск быў цалкам спляжаны маскоўскімі войскамі, прычым асабліва дасталася ўніятам. Вярнуўшыся ў горад з абразом, які на час вайны вывезлі ў бяспечнае месца, ▶

манахі-базыльяне вырашылі «ачысціць» святыню ад сувязі з Маскоўскім княствам у выглядзе княгіні Алены і прыдумалі цалкам новую легенду з агульнавядомых элементаў, з якіх складаюцца звычайна любыя легенды: перамяшчэнне святыні па вадзе, паходжанне святыні з біблейскіх часоў і падарожжа яе праз Візантыю і Кіеў у наш рэгіён, вобраз татараў-антыхрыстаў і гэтак далей.

Як на непрафесійную думку аўтара гэтага артыкула, гіпотэза выглядае нацягнутай: прыдумаць цалкам новую легенду і супрацьпаставіць яе 150-гадовай традыцыі мінчукоў, прычым так, што пра першасны варыянт паходжання святыні да нас не дайшло зусім ніякіх узгадак, выглядае зусім малаверагодна.

Але вось тое, што ўніяты сапраўды моцна памянялі і ў нейкім сэнсе перасабралі вобраз іконы, сумнявацца не выпадае. У пачатку XVII стагоддзя яны змянілі месца яе дыслакацыі, стварылі вакол абраза цэлы набор рытуалаў, зафундавалі новы прыгожы аклад... І, што самае важнае, перапісалі сам лік святыні. Цяперашні выгляд Божай Маці з Хрыстом адносіцца менавіта да першай паловы XVII стагоддзя. Пасля атрымання артэфакта базыльяне вырашылі яго паднавіць і па старой выяве XIV ці XV стагоддзя намалявалі новы лік, выкананы ў адпаведнай тагачаснай модзе манеры.

Гэта не было нейкім незвычайным ідэалагічным дзеяннем. Іконы часта дапісвалі пад новыя тэндэнцыі іканапісу. Той жа мінскі абраз яшчэ раз «папраўлялі» ўжо праваслаўныя ў 1850-я гады. Да стану XVII стагоддзя яго вярнуў мастак-рэстаўратар Пятро Журбей у пачатку 1990-х. Па яго замове


З КНІГІ Л. СТРОЦАВА «ПЯТИСОТЛЕТИЕ ЯВЛЕНИЯ МИНСКОЙ ИКОНЫ БОЖИЕЙ МАТЕРИ»

**Пятро Журбей** вярнуў жыццё шэдэўрам старога іканапісу.

быў зроблены рэнтген артэфакта і выяўлены ніжэйшы, больш старадаўні слой іконы, выкананы ў візантыйскай манеры. Але мастак не наважыўся яго адкрываць.

## Паўтысячагоддзя пад наглядам абраза

Цяпер цяжка сказаць, якія з гіпотэз, выказаных навукоўцамі, акажуцца больш праўдападобнымі. Але дзякуючы іх працы адкрываюцца новыя крыніцы і выяўляюцца раней не заўважныя ўзаемасувязі. Таму, хутчэй за ўсё, перш чым выйсці на нейкую праўдападобную версію, нам давядзецца пачуць яшчэ шмат прыгожых, банальных, фантастычных і рамантычных гіпотэз.

Сярод іншага, менавіта дзякуючы новым распрацоўкам мы ўсё лепш разумеем, наколькі ўнікальны артэфакт збярогся ў нашым горадзе. І наколькі лёс гэтай святыні пераплёўся з лёсам самога горада, падзяліўшы з ім радасці і трагедыі апошніх 500 гадоў.

Абраз Маці Божай Мінскай з'явіўся ў нас у XVI стагоддзі, у час вялікага росту Мінска і ператварэння яго ў ваяводскі цэнтр. Да канца стагоддзя ён стаў адной з самых шанаваных святыняў Мінска (вось гэта якраз дакладна, пра тое ёсць некалькі сведчанняў).

У пачатку XVII стагоддзя па ім прайшоў ідэалагічны канфлікт фарміравання ўніяцтва на нашых землях. Уніяты, перамогшы, зрабілі артэфакт сэрцам сваёй галоўнай «фартэцыі» ў рэгіёне — царквы Святога Духа пры базыльянскім манастыры. З-пад барочных арак новай царквы абраз назіраў за развіццём, знішчэннем і адраджэннем нашага горада ў XVII стагоддзі.

Адносна спакойнае XVIII стагоддзе (калі не лічыць спробы калмыкаў Пятра I абрабаваць святыню, што ледзь не прывяло да бунту ў горадзе) упрыгожыла абраз новымі залатымі акладамі, а сам Стары горад — новымі каменнымі будынкамі, якія і фармуюць барочны вобраз гістарычнага цэнтра Мінска цяпер. Абраз чуў у малітвах, звернутых да яго, як месцічы спрабуюць выбудаваць свае рэлігійныя ўзаемаадносіны і адстаяць свае палітычныя правы.


1939.RU

**Такую друкаваную копію** іконы Маці Божай Мінскай можна было набыць у канцы XIX стагоддзя.

Адстаяць правы не ўдалося. XVIII стагоддзе скончылася катастрофай і знішчэннем Рэчы Паспалітай. Адной з першых ахвяр новай улады стаў храм Святога Духа, які перасвяцілі і татальна перабудавалі ў праваслаўную царкву Пятра і Паўла. Разам з ім праваслаўным стаў і абраз Божай Маці.

У XIX стагоддзі Мінск зноў пачалі актыўна перабудоўваць і ўводзіць тут новыя парадкі. Ікону гэта не мінула, яе лік быў перамаляваны пад больш праваслаўны. Дадаўся і новы аклад ад губернатара Фядота Шклярэвіча. Таго самага, пры якім разбурылі мінскую Ратушу.

У кастрычніку 1914 года перад святыняй маліўся імператар Мікалай II, просячы перамог у вайне. Перамогі па выніку адбыліся, але ненадоўга. Неўзабаве імперыя развалілася, а ў 1922 годзе ў храм прыйшлі бальшавікі, каб забраць каштоўны аклад абраза. Прыхаджане сабралі вялікую суму грошай, каб толькі не забіралі святыню. Але не дапамагло — бальшавікі ўзялі і грошы, і аклад.

У 1935 годзе, калі ў Мінску пачалі закрываць апошнія дзейныя храмы, абраз забралі і перадалі ў музей. У наступным годзе 300-гадовую святыню саветы ўзарвалі.

Абразу пашанцавала крыху больш, але не нашмат. Якраз у гэты час стары краязнаўчы музей, які ствараў яшчэ Вацлаў Ластоўскі на былым архірэйскім падворку, перавялі ў значна меншы будынак «дома з вежачкамі» (жоўты будынак захаваўся і цяпер на праспекце Незалежнасці насупраць Дома прафсаюзаў). У адпаведнасці з новымі парадкамі і абмежаваным месцам з музея выкінулі ўсё «лішняе» — рэлігійнае і шляхецкае. Паміж будынкам музея і Домам афіцэраў стаяла дрывотня, куды і скінулі ўсё гэтае «буржуазнае» ламачча. Там жа на голай зямлі апынуўся і мінскі абраз. Ёсць згадка, што нехта з вартаўнікоў падняў яго, ахінуў нейкімі анучамі і прыставіў на сцяны.

У такім выглядзе ў 1941 годзе абраз знайшоў Антон Шукелойць, новы загадчык мінскага музея пры акупацыйнай уладзе. Вялікай удачай аказалася тое, што апошнім супрацоўнікам музея, які не з’ехаў з пачаткам вайны з Мінска, быў мастак Гаўрыла Віер, ці не адзіны мастак у горадзе, які меў спецыялізацыю рэстаўратара царкоўнага жывапісу.

Забраўшы абраз дадому, Віер паўгода займаўся ягоным аднаўленнем у напаўпадпольных умовах, каб у 1942 годзе прынесці святыню ў Петрапалаўскую (Жоўтую) царкву на Нямізе, дзе тады аднаўлялася царкоўнае жыццё.

У 1945 годзе савецкая ўлада закрыла Жоўтую царкву, рэпрэсавала мітрапаліта Серафіма, але сам сабор па розных прычынах не закрылі і абраз Божай Маці перанеслі туды.

І толькі ў гэты момант час для абраза замарудзіўся, ён усталяваўся ў новым месцы надоўга. Затое для горада час паскорыўся. З высокай горкі Новага рынку добра было бачна, як наступныя дзесяцігоддзі знікаў стары Мінск і нараджаўся зусім новы горад.

У 1991 годзе гэты новы горад стаў сталіцай незалежнай дзяржавы, а абраз Божай Маці Мінскай вярнуўся да свайго гістарычнага (хоць і не самага старога) аблічча, прыбраўшы напластаванне папярэдніх дзвюх эпох. Напэўна, гэта таксама можна назваць сімвалічным. ◆

### Архіў VEHA стварае фотаальбом «Людзі лесу». Кожны можа ўзяць удзел

Да 20 лютага VEHA прымае лічбавыя копіі фатаграфій з сямейных архіваў, на якіх чалавек узаемадзейнічае з дзікай прыродай. Фота павінны быць зняты на тэрыторыі сучаснай Беларусі да 1980 года.

Калі ласка, дасылайце іх на **info@veha.by** з апісаннем: «Хто? Дзе? Калі? Каму належыць архіў?». Усе сабраныя здымкі будуць апублікаваныя ў архіве *VEHA*, а найбольш цікавыя стануць кнігай.

«Наша праца — гэта захаванне візуальнай гісторыі Беларусі і ўключэнне ў гэты працэс кожнага», — пішуць стваральнікі *VEHA*.

Раней *VEHA* паспяхова рэалізавала цікавыя праекты «Апошні фотаздымак» (*veha.by/lp*) (фотаздымкі з пахаванняў), «Дзявочы вечар» (*veha.by/dw*) (вясельныя фотаздымкі да 1985 года), «Найлепшы бок» (*veha.by/nb*) (традыцыя партрэтнага фатаграфавання на фоне даматканых дываноў).





**DEADLINE: 20.02.2022**






**«Багіня Мілда»**
Казіміра Альхімовіча.
1890 год.

WIKIMEDIA COMMONS

# Мілда

## Шэдэўр апошняга рамантыка

**Два гады таму галерэю «Арт-Беларусь» напаткала вялікая ўдача: у прыватнага калекцыянера ўдалося набыць знакавую карціну Казіміра Альхімовіча «Мілда». Альхімовіч — наш зямляк. Але што гэта за карціна, які ў яе закладзены сэнс і ў якім кантэксце яна стваралася? Тлумачыць доктар гісторыі Алесь Белы.**

Карціну, што стала адным з дыяментаў калекцыі «Белгазпрамбанка», публіцы прэзентавалі ў сакавіку 2020 года. Падчас той падзеі мяне ўразіла, што мастацтвазнаўца не ведаў, што сімвалізуе мужчына пад нагамі багіні: «Ён, напэўна, атрымаў столькі кахання, што не ўтрымаўся на нагах, — аджартаваўся ён і дадаў: — Я ўпэўнены, што гэта была спроба паказаць Мілду не проста статычна, а ў дзеянні».

Наколькі ж мы не ведаем уласнай культурнай традыцыі, падумаў я.

### Эратычная сенсацыя

Казіміру Альхімовічу на момант стварэння карціны было 49 гадоў. Да таго часу ён зарэкамендаваў сябе як аўтар шматлікіх карцін на сюжэты з літоўскай гісторыі, міфалогіі і штодзённага побыту краю. Сярод іх варта згадаць «Смерць Маргера» (на сюжэт з аднайменнай паэмы Уладзіслава Сыракомлі, а пра гістарычнага персанажа з гэтым іменем гл. больш падрабязна ў артыкуле Алега Дзярновіча «Абаронцы Піленаў» у № 8/2021 «Нашай гісторыі»), «Ліздзейка з дачкой Паўятай на руінах храма Пяркунаса», «Мікола Глінскі. Смерць у турме», «Пахаванне Гедыміна» і іншыя.

Карціна «Мілда» — значнае дасягненне ў творчасці Альхімовіча. У свой час яна

**Казімір Альхімовіч** (1840–1916) нарадзіўся ў шляхецкай сям'і ў вёсцы Дубрава Лідскага павета (цяпер гэта Шчучынскі раён). Вучыўся ў Віленскай гімназіі, мастацкай школе Войцеха Герсана ў Варшаве, Акадэміі мастацтваў у Мюнхене. Маляваць пачаў на Урале, у гарадку Верхатур'е, куды быў сасланы за ўдзел у паўстанні 1863–1864 гадоў. З 1877 года жыў у Варшаве, лічыцца адным з апошніх мастакоў рамантычнага кірунку.

Стварыў карціны на гістарычную і міфалагічную тэматыку, пейзажы Літвы і Татраў, рэлігійныя палотны, жанравыя сцэнкі. Акрамя жывапісу, мастак захапляўся роспісам фарфору і фаянсу, а таксама разьбой па дрэве. Вядомы Альхімовіч таксама як ілюстратар твораў Юліюша Славацкага і Адама Міцкевіча.

Вялікая колькасць прац Альхімовіча захоўваецца цяпер у варшаўскім Нацыянальным музеі.

зрабіла вялікае ўражанне на ягоных сучаснікаў. Сэксуальна прывабны вобраз аголенай маладой жанчыны як найлепей адпавядаў густам тагачаснага буржуазнага спажыўца.

Скончаны твор быў, верагодна, у пачатку 1890 года і ўпершыню выстаўляўся ў Мюнхене, дзе аўтар за 12 гадоў да таго вучыўся жывапісу. Летам 1890-га карціна атрымала захопленыя водгукі крытыкаў, а адно берлінскае выдавецтва адразу ж надрукавала наклад яе рэпрадукцый. У наступныя гады «Мілда» паспяхова прэзентавалася на прэстыжных выставах у Польшчы і Германіі, а ў 1893-м выстаўлялася на Сусветным кірмашы ў Чыкага ў гонар 400-годдзя адкрыцця Амерыкі Хрыстафорам Калумбам. Размяшчаўся твор на пачэсным месцы, побач з найлепшымі работамі іншых польскіх мастакоў.




**Казімір Альхімовіч.** 1875 год. Партрэт Тадэвуша Айдукевіча.

Карацей, у пачатку 1890-х «Мілда» была адной з найбольш значных мастацкіх навінак, бадай, нават сенсацый не толькі для гістарычнай Літвы, але і ўсёй Усходняй і Цэнтральнай Еўропы.

## Багіня і рыбак

Сюжэт карціны Альхімовіча апелюе да паэмы іншага ліцвіна, Юзафа Ігнацыя Крашэўскага, які родам з Пружаншчыны. Яна называлася «Віталяраўда» (ад імя аднаго з галоўных герояў, сына багіні Мілды) і была першай часткай паэтычнага трыпціху «Анафеляс» (так звалася гара вечнасці ў літоўскай міфалогіі), апублікаванага ў 1840 годзе, якраз у год нараджэння Альхімовіча. У паэме расказваецца пра літоўскую багіню Мілду, колішні штогадовы фэст у яе гонар на пачатку мая і няроўнае ды трагічнае каханне багіні да звычайнага зямнога мужчыны, літоўскага рыбака Рамоюса, якое выклікала гнеў вярхоўнага бога Пяркунаса і пакаранне закаханых:

Уздрыгнуў гром, уздрыгнула неба,
І горы ўсходнія задрыжалі
ў падмурку;
Зніклі з вятрамі, падняліся
чорныя хмары,
І неслі яны буру і разбурэнні.

Рамоюсу ягонае дзёрзкае каханне каштавала жыцця, што бачна і на карціне Альхімовіча, а Мілдзе — выгнання з Дунгуса, літоўскага Алімпа, у свет смяротных людзей. Абодва героі, такім чынам, спусціліся на прыступку ўніз.

У маралізатарскай, вонкава-хрысціянскай трактоўцы Крашэўскага выгнанне Мілды на зямлю мела ўрэшце станоўчыя вынікі, бо на месцы яе былых свяцілішчаў узнесліся каталіцкія храмы, а сама яна стала падарожнічаць сярод людзей, навучаючы ўжо не фізічнай, а духоўнай любові.

## Прыдуманы пантэон

Крашэўскі, аднак, не быў літаратурным бацькам багіні Мілды. Упершыню пра яе як нібыта пра літоўскую багіню кахання паведаміў чытачам на некалькі гадоў раней славуты гісторык-містыфікатар Тэадор Нарбут у першым томе сваёй дзевяцітомнай «Гісторыі ▸



**Мілда спяшаецца на спатканне да Рамоюса.** Дрэварыт Вінцэнта Смакоўскага.

▶ літоўскага народа», апублікаваным у Вільні ў 1835 годзе. Ягоная фантазія стварыла цэлы пантэон літоўскіх багоў і іншых міфалагічных персанажаў, існаванне якіх у колішняй народнай свядомасці не пацвярджаецца ніякімі іншымі крыніцамі: ні літаратурнымі і гістарычнымі, ні запісамі літоўскага аўтэнтычнага фальклору.

## Фантазія Нарбута стварыла цэлы пантэон «літоўскіх багоў»

Але ў 1835 годзе мэтавая аўдыторыя, траўмаваная паражэннем паўстання 1830–1831 гадоў і агульнай дэпрэсіўнай атмасферай мікалаеўскіх часоў, прыняла ўсе вымыслы Нарбута з поўным даверам і захапленнем. Тым больш што такімі фальсіфікацыямі тады займаліся літаратары-рамантыкі па ўсёй Еўропе, а акадэмічная гістарычная навука не была настолькі аўтарытэтная, каб супрацьпаставіць фальсіфікацыям рацыянальную і аргументаваную крытыку.

Сумневы ў сапраўднасці Мілды як персанажа старажытнай літоўскай міфалогіі прагучалі аж на паўтара стагоддзя пазней, ужо ў канцы XX стагоддзя. Сярод іншых сказалі сваё слова і найбольш аўтарытэтныя спецыялісты па старажытнай літоўскай міфалогіі Норбертас Велюс і Гінтарас Бераснявічус. Аднак да таго часу своеасаблівы «культ Мілды» паспеў ужо вельмі трывала ўкараніцца ў масавай свядомасці літоўцаў, на ім выхаваліся некалькі пакаленняў. Прытым ключавымі для складвання гэтага культу сталі першыя 13 гадоў ад выхаду працы Нарбута — трохі ніжэй я растлумачу чаму.

Паводле Норбертаса Велюса, Нарбут вынайшаў Мілду, запазычыўшы ідэю прыгожай рымскай німфы Алексоты з твораў Дамініка Шыбіньскага, польскага манаха-піяра, аўтара некалькіх школьных падручнікаў па гісторыі XVIII стагоддзя, у тым ліку перакладу з французскай мовы кнігі П'ера Шампрэ «Казачная гісторыя багоў...», якая пазней перавыдавалася і пад іншымі назвамі.

А тэхналогія вынаходніцтва была прыблізна такая. Адзін з прыгарадаў (цяпер раёнаў) горада Коўна (Каўнас) называўся Алексотас, і гэтая сугучнасць наштурхнула Нарбута на ідэю, што тут некалі стаяў «храм багіні кахання». Фактычна ён проста павысіў статус німфы Алексоты, перанёс яе з рымскага ў сканструяваны ім самім літоўскі пантэон, у чымсьці паўтарыўшы даўнюю гістарычную містыфікацыю з рымскім арыстакратам Палямонам. Урэшце Нарбут даў прыдуманай самім сабой багіні прыгожае літоўскае імя ад дзеяслова *mylėti* — «мілаваць», «кахаць». А іншы яе храм ён лакалізаваў, ужо ўвогуле без хоць бы якіх уцямных падстаў, на віленскім Антокалі, дзе стаіць касцёл Святых Пятра і Паўла.

**Легенда пра Палямона** была прыдуманая ў XV–XVI стагоддзях і выкладзеная ў беларуска-літоўскіх летапісах таго часу. Летапісец паведамляў, што нібыта ў часы вядомага сваёй жорсткасцю імператара Нерона нейкі рымскі князь Палямон, ратуючыся ад рэпрэсій, разам з яшчэ 500 рымскімі арыстакратамі сеў на карабель і паплыў з Рыма на захад. Нейкім чынам падарожнікі выплылі ў Балтыйскае мора і дабраліся да вусця Нёмана, а пасля па ім прыплылі да вусця ракі Дубісы. Гэтыя рымскія арыстакраты, маўляў, і далі пачатак літоўскай шляхце, а найбольш уплывовымі родамі са спадарожнікаў Палямона былі Кітаўрасы, Калюмны, Ружы і Угры (Урсіны).

ФОТА OLGA ŠILOVA, JĀNIS DEINATS / LSM.LV







**Некалькі скульптур Мілды**, створаных латвійскай мастачкай Вольгай Шылавай.

### Багіня набывае твар

Візуальнае абгрунтаванне культу Мілды пачалі ствараць неадкладна пасля выхаду твора Нарбута. Ужо ў снежні 1835 года ў лісце да яго настаўнік з Коўна Шыман Лаўрыновіч апісаў дзве фігуркі, мужчынскую і жаночую, знойдзеныя ў так званым «Доме Пяркунаса»* ў канцы XVIII – пачатку XIX стагоддзяў. Фігурка жанчыны, знойдзеная ў 1782-м у муры дома, пабудаванага да 1400 года, была аголеная і з букетам кветак. Каталіцкі святар, якому яна трапіла ў рукі, разбіў яе. А Нарбут, нядоўга думаючы, ідэнтыфікаваў гэтыя фігуркі як выявы Пяркунаса, бога грому, вярхоўнага ў літоўскім пантэоне, і Мілды.

Яшчэ адна бронзавая фігурка была знойдзеная ў 1840 годзе ў былым Віленскім замкавым комплексе і набытая Адамам Ганорыем Кіркорам і Уладзіславам Сыракомлем. Пад уплывам Нарбута яны ідэнтыфікавалі яе як «фігурку Мілды». Пазней гэтая фігурка захоўвалася ў Музеі старажытнасцяў у Вільні, арганізаваным братамі Тышкевічамі. А ў чарговым выданні паэмы Крашэўскага 1846 года было змешчана 50 ілюстрацый (гравюр-дрэварытаў) аўтарства віленчука Вінцэнта Смакоўскага, ураджэнца сучаснага Ігналінскага раёна Літвы, якія заклалі аснову будучай іканаграфіі Мілды. Неўзабаве імя прыдуманай багіні зрабілася папулярным жаночым іменем у літоўскамоўных сем'ях. ▶

* **«Дом Пяркунаса»** — адна з найбольш арыгінальных і старажытных гатычных свецкіх пабудоў, размешчаная ў Старым горадзе Каўнаса. Яго пабудавалі ў канцы XIII стагоддзя ганзейскія купцы. Сваю цяперашнюю назву дом набыў пасля таго, як у XIX стагоддзі фігура, знойдзена на адной са сцен, была інтэрпрэтаваная як ідал балтыйскага паганскага бога грому і неба Пяркунаса.

### Латвійскі сюжэт

Ужо ў XX стагоддзі імя Мілда, несумненна пад уплывам літоўцаў, стала таксама папулярным і ў Латвіі. Больш за тое, яно набыло сімвалічнае значэнне латышскай жанчыны ўвогуле.

У папулярызацыі вобразу Мілды сярод латышоў вялізарную ролю адыграла драма латышскай паэткі Аспазіі (Элзы Розенберг-Плякшане, жонкі Яна Райніса) «Вайдэлотка», сюжэт якой пабудаваны вакол культу багіні. Драма была напісаная ў 1894 годзе і набыла сярод латышоў велізарную папулярнасць. Больш за тое, у 1911-м драма была перакладзеная на літоўскую мову і пастаўленая на літоўскай сцэне.

У выніку ў Латвіі Мілда стала нават больш папулярнай, чым у Літве. Бо на радзіме яе вобраз з жаночых персанажаў засланяла княгіня Бірута, жонка Кейстута і маці Вітаўта, а таксама іншая багіня, Юратэ, легенда пра якую была пабудавана паводле таго ж прынцыпу.

Адна з носьбітак гэтага імя, Мілда Ясікене, літоўка, якая жыла ў Рызе, у 1935 годзе натхніла латышскага скульптара Карліса Зале на стварэнне жаночай фігуры, сімвала Маці-Латвіі, якая вянчае помнік Свабоды ў латвійскай сталіцы. Гэтую фігуру дагэтуль так і называюць — Мілда.

А яшчэ да гэтага, у 1929 годзе, была адбітая срэбная манета вартасцю 5 латаў (эмісіі потым двойчы, у 1931 і 1932 гадах, паўтараліся) з профілем дзяўчыны, якая сімвалізавала Радзіму і Свабоду. І хоць яе правобразам была Зелма Браўэрэ (1900–1977), карэктарка дзяржаўнай друкарні каштоўных папер, у народзе і гэтую дзяўчыну адразу празвалі Мілдай. Пасля страты незалежнасці ў 1940 годзе на руках у латышоў засталося даволі шмат такіх манет, і ўсе гады савецкай акупацыі яны ўспрымаліся як адзін з галоўных нефармальных сімвалаў страчанай дзяржаўнасці, чымсьці накшталт памятных патрыятычных медалёў. Пасля ж



**«Мілда» Карліса Зале вянчае помнік Свабоды ў Рызе**, сімвалізуючы Латвію і яе перамогу ў вайне за незалежнасць з бальшавіцкай Расіяй.

аднаўлення незалежнасці і ўступлення ў Еўрасаюз, а пасля і ў зону еўра былі адбітыя манеты з выявай Мілды вартасцю 1 і 2 еўра.

Дарэчы, латышка Мілда Драўле ў канцы 1934 года апынулася ў самым цэнтры стартавага эпізода кампаніі Вялікага тэрору ў СССР. Яна была каханкай партыйнага боса Ленінграда Сяргея Кірава і жонкай ягонага забойцы Леаніда Нікалаева. З гатага забойства савецкімі карнымі органамі была сфабрыкаваная цэлая «змова», каб стварыць нагоду для ўзмацнення рэпрэсій, а сама Мілда Драўле была расстраляная, каб схаваць рэальныя празаічныя матывы забойства.

У сённяшняй Латвіі міфалогія Мілды развіваецца паралельна з літоўскай, маючы, бадай, больш грамадзянска-нацыянальную, чым паганска-рэлігійную трактоўку. Латвійская скульптарка Вольга Шылава з 2008 года працуе з вобразам Мілды, стварыўшы некалькі яе аб'ёмных скульптур, у тым ліку касцюмаваных, каб максімальна ажывіць, канкрэтызаваць гэты вобраз.

### Замацаванне культу

Нарбут і яго паслядоўнікі з цягам часу максімальна дэталізавалі — у іх уласным разуменні «рэканструявалі» — культ Мілды. Лічылася, што ёй прыслугоўвала саслоўе жрацоў, называных мілдаўнінкамі. Багіня быццам бы перыядычна аблятала ўвесь свет на паветраным вазку, запрэжаным белымі галубамі. У Літве на гэтай хвалі было лакалізавана некалькі былых «свяцілішчаў Мілды». А сімвалічна завяршыўся першы этап станаўлення культу прыдуманай багіні ў 1848 годзе напісаннем і пастаноўкай Станіславам Манюшкам кантаты «Мілда» на сюжэт паэмы Крашэўскага ў апрацоўцы Эдварда Хлапіцкага.

Гэтая кантата стала своеасаблівым вянцом як імклівага станаўлення культу Мілды, так і творчасці Манюшкі на тым этапе. Бо па стане на 1849 год менавіта «Мілда» лічылася самым значным з твораў 30-гадовага кампазітара. І гэта не ў апошнюю чаргу таму, што сам вобраз багіні кахання ўспрымаўся як адзін з найбольш значных здабыткаў літоўскага (ці ліцвінскага) патрыятызму за два апошнія дзесяцігоддзі, адным з галоўных тагачасных сімвалаў Літвы ўвогуле.

### Дваістая ідэнтычнасць

Тут трэба абавязкова адзначыць, што менавіта паражэнне паўстання 1830–1831 гадоў стала штуршком да інтэнсіўных пошукаў сімвалаў уласна літоўскай ідэнтычнасці — яшчэ польскамоўнай, але ўжо выразна адрознай ад польскай, з уласнай «не-пястаўскай» гісторыяй, міфалогіяй і матэрыяльнай культурай. Пасля 1831 года Літва ў польскамоўным свеце ў значна большай ступені стала ўспрымацца ўжо як краіна, а не толькі як правінцыя. Прытым

**Кантата «Мілда»** ў выкананні хору і аркестра Польскага радыё ў Кракаве, салісты Бажэна Бэтлі-Серадзка, Эва Вэрка, Ежы Артыш і Павел Яноўскі.



як краіна, на якую выпаў асабліва жорсткі цяжар царскай улады. Зварот да старажытнай літоўскай міфалогіі быў тут зусім не выпадковым, і менавіта «Гісторыя літоўскага народа» Нарбута падала для гэтага найбольш багаты (хаця і ў значнай ступені сфальсіфікаваны) матэрыял.



**У гонар Мілды названы род малюскаў класа гастраподаў, які жыве ў Ціхім акіяне, а таксама адна з гор на Венеры**

Але ў гэты ж час з'явіўся і «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча, і «Літоўская гаспадыня», і многія праграмна важныя творы Уладзіслава Сыракомлі (той жа «Маргер», на сюжэт якога Альхімовіч таксама стварыў карціну), і іншыя публікацыі рознага жанру і тэматыкі, якія ў рознай ступені, але неслі ў сабе ідэю асобнай літоўскай ідэнтычнасці. І пры гэтым яны ў значнай ступені спасылаліся менавіта на літоўскую мову і міфалогію, хоць і рабілі гэта амаль выключна ў польскамоўных тэкстах. Цікавасць да беларускага фальклору і мовы ў часткі ліцвінаў узмацнілася таксама менавіта ў гэты час, але пакуль што знаходзілася ў цяні цікавасці да літоўскасці ў прамым сэнсе.

Гэты дзіўны росквіт дваістай польска-ліцвінскай ідэнтычнасці ва ўмовах жорсткай расійскай акупацыі быў вельмі супярэчлівым і даволі непрацяглым. Першы ўдар па ім нанеслі ўжо падзеі 1848–1849 гадоў. Гэта і разгром Братняга саюзу літоўскай моладзі, тайнай моладзевай арганізацыі ў Беларусі і Літве, і эпідэмія халеры. Так што прэм'ера «Мілды» Манюшкі здарылася ў вельмі супярэчлівы, нялёгкі час.

А праз 15 гадоў значна больш цяжкім ударам стала паражэнне чарговага паўстання, 1863–1864 гадоў. І, нарэшце, сусветны аграрны крызіс канца 1880-х падарваў эканамічны дабрабыт землеўладальнікаў-ліцвінаў, асноўных носьбітаў гэтай дваістай ідэнтычнасці. Так што Альхімовіч у 1890-м, малюючы «Мілду», быў ужо адным з апошніх «магіканаў». Па ўласнай ідэнтыфікацыі ён, канечне, беларусам не быў, пра што сведчыць і выбар тэм для творчасці, вельмі характэрны для «палона-ліцвіна», чалавека з падвоенай нацыянальнай прыналежнасцю — адносіўся да катэгорыі, якую тады ўжо можна было лічыць выміраючай.

А вось багіня, якая стала своеасаблівым сімвалам той ідэнтычнасці, дажыла да сёння. Сучасныя неапаганцы 13 мая святкуюць быццам бы старадаўні Дзень Мілды — насамрэч, прыдуманы рамантыкамі XIX стагоддзя. Больш за тое, міфалогія Мілды выйшла за межы зямной сушы і нават самой планеты Зямля. У яе гонар названы род малюскаў класа гастраподаў, які жыве ў Ціхім акіяне, а таксама адна з гор на Венеры. ◆

*«Вавука нібы і воўк,
але ж — казачны»*
Марыя Вайцяшонак

# Вавукі

## Месца, дзе пачуваешся жывой

**Лежачы ў вавуцкім дамку познім вечарам, добра чую гул Віленскай дарогі. Імчаць машыны. Тыя, якім пашчасціла пабываць у Вільні, вязуць на сабе адбітак яе пекнаты. А я ляжу ў вясковым доме пасярэдзіне шляху ад Менска да Вільні, амаль у цэнтры Еўропы, і лаўлю сэрцам прыгожы дух, піша пісьменніца і гісторык Вольга Бабкова.**

Ляжу нібы з велізарным вухам, якое ўбірае ў сябе ўсе гукі. Вось імклівая плынь з тракту збочвае на грунтовачку з камянямі, мінае малады хвойнік, сабакубрахуна, выспы чабару, жоўтую жнівеньскую красу, драўляны крыж з выцвілымі папяровымі кветкамі, жалезны крыж, пад якім ляжаць покатам косткі Першай сусветнай, сцягнутыя з навакольных лясоў. Гук перакочваецца праз Печкурову горку і трапляе ў маё велізарнае вуха ды бяссонную галаву, каб лепш «намаляваць» каханую Вільню.

Аказваецца, адна з назваў віленскай Вострай брамы — «Крэўская», а вёсачка Вавукі, пра якую хачу распавесці, знаходзіцца акурат у Падкрэўі, пад бачком Крэва, за паўтара-два кіламетры.

### Лясное, пагоркавае і некранутае

Ад Менска да Вавукаў — 95 км, ад Вавукаў да Вільні — 85. Але ж не ў адлегласцях, вядома, справа. Тут месца, дзе пачуваешся жывой.

Часам у гэтым дапамагаюць памерлыя. І гэта праўда. Бо закінула мяне ў Вавукі самой мне не зразумелая сіла. Не прайшло яшчэ нават тры зімы. А перад тым давялося чатыры гады ўнурвацца ў паўцьмяныя тэксты апошняй волі жыхароў Ашмянскага павета Віленскага ваяводства XVI–XVIII стагоддзяў, якія калісь таксама ўглядаліся за далягляд, дзе раслі продкі цяперашніх дубоў ды грабаў.

Тэафілі, Арыны і Уршулі, Яны, Багумілы, Андрэі і Міхалы жылі тут непадалёк і ляжаць у гэтай камяністай глебе. Кушляны, Лебедзева, Беніца, Маркава, Жупраны, Гальшаны, Лаўскі Брод... Дзіўным чынам перанеслася са старонак таўшчэзнай рукапіснай кнігі ў гэтыя прыгожыя мясціны. Займела нерухомасць і знайшла на гарышчы старыя ялінкавыя цацкі. ▸

Калі набываеш дом у вёсцы, то разам з ім — і ўсё наваколле. А тут яно лясное, пагоркавае і амаль некранутае: «Калісьці лес падступаў пад самую вёску, а пасля адступіў», — кажа мясцовы жыхар, згадваючы расповеды свайго дзеда. Тутэйшых жыхароў няшмат, зімуюць літаральна некалькі сем'яў. «Узімку адно зайцы па дарозе панамі ходзяць і рыжая бывае завітае», — кажа сусед ды паказвае на мора слядоў казуль пад сваімі яблынямі.

## Ксяндзоў Кут, Чортаў камень, Юрава гара

Цікава, што ў першым жа вясковым доме пры павароце з Віленскага тракту жывуць гаспадары Ваўкі. Гісторык Герман Брэгер адшукаў у Віленскім архіве прозвішчы гаспадарскіх людзей Крэўскага павета, «крэўлян» Грыні, Дарафея і Хільца Вавучычаў у дакументах 1504 года. А ў ранейшым дакуменце за 1503 год згадваецца «дванаццаць валок зямлі вавуцкай», што былі далучаныя да Багданаўскага маёнтка



**План урочышча Вавукі,** адшуканы Германам Брэгерам.



**Ялінкавыя цацкі** з гарышча.

татарскага князя Багдана Керэя. На мапе 1885 года — урочышча Вавукі (тыя самыя дванаццаць валок) пазначанае як забранае ад Багданаўска (цяперашні Багданаў Валожынскага раёна) Крэўскім староствам і перададзенае пад ахову крэўскім ляснічым.

Мясцовы краязнаўца Аляксандр Камінскі, які ведае кожны куток гэтай зямлі, згадвае ўрочышча Ксяндзоў Кут, дзе была крынічка, з якой пілі ваўкі. Цяпер у тым месцы праходзіць Віленская траса. Чула я і пра тое, што Вавукі здаўна забяспечвалі Крэўскі замак футрам, а вёска Чухны (гэта значыць, эстонцы) — свежай рыбай. Глыбокая гісторыя. Здаецца, толькі капні тут зямлю — і адкапаеш даўніну. Прынамсі, валун — абавязкова!

Ад даследчыцы сакральнай геаграфіі Людмілы Дучыц дазналася пра блізкія ад вёскі прыродныя дзівы — велічэзны Грывень-камень і Чортаў камень, а таксама пра гару Кудру ў кірунку вёскі Мілідаўшчына, якую тутэйшыя калісь звалі Мілдаўшчынай (у гонар літоўскай Мілды — багіні кахання?). Ну а Юраву гару мы шчасліва абжываем дзякуючы яе ганароваму «гаспадару» — фатографу Сяргею Гапону.

## Мапа зорнага неба

З макаўкі нядаўна адрэстаўраванай вежы Крэўскага замка, імаверна, бачныя вавуцкія дахі, і я часам уяўляю, як князь Вітаўт, уцякаючы з замкавай вязніцы, блытаючы сляды перад кідком да Прусаў, скакаў праз нашыя будучыя палеткі, да якіх летнімі вечарамі з неба спускаюцца зоркі. Калі апоўначы выходзіш з маленькага дамка, хочацца падоўгу стаяць, задраўшы галаў угору. І здаецца тады, што Птушыны Шлях, ці па-сербску Кумава Салома, застыгнуў у маўкліні акурат над нашым дахам. А над стагадовым хлявом заўсёды вісіць Вялікая Мядзведзіца, чапляючыся за старую чарэшню. Спаць у такія ночы кладзешся з мапай зорнага неба на целе.

Ранкам распавядаю пра начныя дзівосы бабуні Ганне, што жыве насупраць праз пясчаную дарожку. Бабуня скептычна ўсміхаецца: маўляў, вы прыязджаеце ў вёску, дзівуецеся, а нам і глядзець не было калі, бо працавалі, гаравалі і як жылі за палякамі, за немцамі, за саветамі. І як праўды ніколі ні пры кім не было...

Гора вуча,
Гора муча,
Гора песенькі пяе.

## Бабуня Ганна

Бабуня — найстарэйшая жыхарка Вавукаў і захавальніца безлічы рыфмаванак ды песенек. Мае 88 гадкоў. Такі вось адмысловы век бясконцасці. Ясныя розум і памяць, самаіронія, хітрынка, ласкавасць, кемлівасць, назіральнасць і, вядома, адвага. З дому ўжо не выходзіць, але адмаўляецца пераязджаць на зіму да дзяцей у Ашмяну ці Смургоні, бо «свая хатачка як родна матачка», «як хачу, так валачу!». На кожную жыццёвую



Бабуня Ганна.



Дом бабуні Ганны.

праяву мае выслоўе ці трапнае слоўка. І хаця слухае адно радыё ды час ад часу тэлевізію, выдатна аналізуе і робіць свае прагнозы. Несуцяшальныя. «Свет — святам, а ніколі чалавек не будзе чалавеку братам».

Кожнага разу ў цёплы дзень вызірае з-за белай фіраначкі і расчыняе акенца, каб паразмаўляць ды распытацца, што робіцца ў горадзе. Пра сябе смеючыся кажа: «Там, на тым свеце, ужо пэўне столькі ліхтароў пабілі, мяне чакаючы», а я ў адказ: «Няхай сабе б'юць, у іх багата тых ліхтароў!»

Нядаўна па тэлефоне ёй паведамілі, што ад кавіду памерла прыяцелька Казіміраўна з суседняй вёскі, з якой амаль штодня перамаўляліся. Кажа пра смутную навіну: «Пачула тухлы званок па тэлефоне, усё і зразумела. Бо званкі ж маюць розныя галасы».

### Музыкант быў капітальны!

Ад бабуні Ганны я даведалася пра шырока вядомага на Смаргоншчыне музыку-скрыпача Антона Печкура з Вавукаў. На святы ў вёску збіралася шмат народу. Часам Пячкур граў на вячорках ці вяселлях разам з Санем Стрыгам, што з блізкай Харлаўшчыны. Той нават калекцыю скрыпак меў і «музыкант быў капітальны!». Самае markознае гралі, і танцы былі самыя розныя! Святы ў Вавуках пры Печкуру былі гучнейшыя за смургонскія.

З вайны Пячкур прывёз тры рэчы: добрую табаку, куст ружаў і скрыпку Страдывары. Зрабіў для яе драўляны футарал ды трымаў пад ложкам. Кажуць, Пячкур быў дужа раўнівы ды гарачы. Нават пасыпаў пад вокнамі дома пясочак, каб прасачыць па слядах, ці ўцякала куды жонка, пакуль ён ездзіў па наваколлі са скрыпкай.

Ад былога Дома культуры, дзе ўсё калісьці гудзела ад музыкі ды гоману, застаўся адно падмурак, засыпаны ўвосень па калена шаматлівымі кляновымі лістамі. Амаль усе падмуркі дамоў ды скляпоў тут складзеныя з вялікіх камянёў.

А памяць пра музы́ку Антона захавалася дасюль. Круты спуск на вясковай дарозе завецца «Печкурова горка», бо ўзбоч яе стаяў ягоны дамок, а цяпер — станчэлыя ад сонца і ўрослыя ў зямлю драўляныя руіны.

### «Свет вялікі — усяго бывае»

Даведваюся ад бабуні пра самыя неверагодныя праявы: што ў Астраўцы лекуюцца ад страшнай хваробы паводле адмысловага рэцэпта — злавіць і памыць жабу, заліць на тры дні гарэлкай, піць напой па лыжачцы ў дзень. А ў Жодзішках вавуцкія людзі колісь замаўлялі пацеры ад граду ў мясцовай знахаркі, каля Барунаў жа магутны віхор падхапіў чалавека і тры кіламетры нёс, пакуль на зямлю жывым не апусціў. ▶



▶ Дазналася я і пра першую гаспадыню набытага намі дамка — Кацю Грывіцкую. Яна жыла адна амаль да старасці, мела калецтва. Яе дамок «на курыных ножках» быў разабраны, і з ягоных бярвёнаў, што дакладна памятаюць жахі Першай сусветнай, складзены наш цяперашні хлеў. Невялікі дом на два пакоі з гарышчам пабудавалі ўжо пасля 1940-х.

Дык вось Каця тая валодала ўменнем знаходзіць згубленыя рэчы. Хто б што ні страціў, прыходзіў да яе, і яна ўсім давала парады. Калі пыталіся, як гэта робіць, адказвала: «Мне сэрца кажа».

«Свет вялікі — усяго бывае», — часта паўтарае бабуня Ганна.

Раней бабуня з сям'ёй жыла хутарам каля дарогі на Крэва на вуліцы Пясковай, а пасля ўсіх сагналі ў калгас і перасялілі ў Вавукі, дзе на той час жыхарамі былі адно Рапцэвічы, Мядзвецкія ды Будаі. Так вёска і вырасла. Згадвае бабуня тыя часы: «Весела было. Едзем на возе, песні спяваем. Маладыя!»

Пачула нядаўна ад маладзейшых вавуцкіх людзей пра тагачасны спрыт Ганны: магла на дзіва ўсім заехаць у вёску, стоячы на спінах двух коней. Нават калі гэта і легенда, але ж пра каго такое яшчэ пачуеш?

## «Што назначана, тое і будзе»

Бабуня — шчырая верніца. Абраз Дзевы Марыі вісіць поруч з сямейнымі здымкамі. Ведае малітвы, але ж перакананая: шчыры чалавек спавядацца можа і кусту ў полі. (Чамусьці думаю пра шыпшыну.) Бабуня — назіральніца, пытлівіца, самастойніца па натуры: «Бог ядыны, але ў трох асобах: на небе, на зямлі і на кожным мейсцы... А можа, яго і зусім няма, а толькі гітлеры лётаюць?»

Не баіцца бабуня Ганна гаворкі пра смерць. Насварылася на мяне, што не адразу паведаміла ёй пра смерць сваёй маці... «Крыўду маю на цябе. Як ты магла мне не сказаць!» А я пабаялася засмуціць яе маркотнымі думкамі, адну ў доме. «Я смерці не баюся. Горай чым ёсць, калі ногі ўжо не ходзяць, мне там не будзе». І пасля: «Смерць — самая справядлівая рэч на свеце, усіх раўняе: і бедных, і багатых».

У пакойчыку з зялёнай печчу заўсёды цёпла і чыста. Худзенькія рукі бабуні пахнуць сухімі грушкамі. Калі з-за холаду акенца расчыніць складана, а далёкія дзверы на зашчэпе («Хадзі, адшчаплю!» — звыклы кліч), дык мы праз акно «абдымаемся», пасылаем адна адной паветраныя пацалункі. Аднаго разу бабуня пацалавала букецік аксамітнікаў з флёксамі, які перадала ёй праз акенца. «Я і кіёк свой была пацалавала, які пасля згубы знайшоўся. Бо без яго б тады прапала». І заўсёды з паўторам: «Што назначана, тое і будзе».



**Пусты дом** у Вавуках.

## «Што ты, лосенька, што ты, сівенькі»

Вавукі з усіх бакоў шчыльна атачае лес, што здаўна мае свае назвы, — там Людзвіноўскі з грыбамі, там Ходзькі з малінамі, там Клышкі з бусліным гняздом.... А вось ручаіна, што калісьці цякла праз вёску, засталася на маё дзіва безназоўная.

Прапяяла мне бабуня Ганна гэтым летам песеньку, распавёўшы перад тым пра ласёў, якія, колькі сябе памятала, хадзілі ў Ходзькі да крынічкі, што біла на балоце (пазней калгас асушыў балоты), і да Крэва прыходзілі ваду піць з рэчак Крэўлянкі ды Шляхцянкі. «Пап'юць чыстай вадзіцы, лягуць і ляжаць... Аднаго разу чалавек з Ракаўцаў у Ходзьках касіў і на лася ўзбіўся. Той ускочыў, а гэты спужаўся. Абодва панесліся ў розныя бакі!»

Што ты, лосенька,
Што ты, сівенькі,
Так цяжка ўздыхаеш,
Ці ты, лосенька,
Ці ты, сівенькі,
Зіму цяжкую чуеш?
Чую, чую зіму цяжкую,
Як лецейка — не будзе…

Слухаю бабуню, ды, як тая ласіца, п'ю з яе моўнай крыніцы. Кожнае слоўка ейнае асаблівае:

### Прыказкі бабуні Ганны

- *Як быў цар Мікалашка,*
  *дык елі сыраквашку.*
  *Як прыйшлі саветы,*
  *дык убачыла жопа свету.*
- *Дзякуй Сталіну-грузіну,*
  *што абуў нас у рызіну.*

І ўжо з пазнейшага рэпертуару:

- *Лёня Брэжнеў, адкрый глазкі,*
  *Нету водкі, нет кілбаскі.*
  *Водка стала дзевяць-дзесяць,*
  *восем-сорак кілбаса,*
  *а як будзе большэ,*
  *будзе як у Польшчы!*



**Крэва.** Жанчына расчышчае сцежку да калодзежа. Фота Сяргея Гапона.

«лапацень» (балбатун), «хапуйла», «лакцубар» (булён, які варыла габрэйка Марта ў Крэве), «чалавек такі баўдзялы», «рэманацыя» (рэанімацыя), «Польшч», «ачкар», «моч» (мача), «фіндарэса» (сцюардэса), «нямашка», «няма чаго болей», «бацька на Яна бульбу глядзеў», «толькі не за гэтага чарта», «што міру, то і бабінаму сыну», «адзінютка я тут, як рэкрут на часох». «Я думала, гэта сабака брэша, а гэта дзяркатым голасам па целявізары гавораць. Сама чула, што казалі пра стральбу ў людзей.. Я баюся вайны. З Богам, дзеткі!»

## Людзі з гэтай стараны

«Чалавек не з нашай стараны», — кажуць у Вавуках. А вось паэт Уладзімір Някляеў — тутэйшы, свой, крэўскі. Бабуня памятае ягоных бацькоў і яго самога малога. Калі я пачула пра напісаную ім паэму «Вавукі» — сэрца маё затахкала інačай. Цяпер Вавукі — у літаратуры! І вобраз някляеўскай Ганны — лунае.

Народжаныя мы, каб нарадзіць
Сябе ў сабе раней,
чым прыйдзе смерць,
Але нашто праз гэта вар'яцець? —
Пачуўся ў Гані Голас.
Слова ў слове!..
Найпростае жыццё ў сваёй аснове,
На выбар — толькі
два шляхі ў жыцці:
Уверх, каб падымацца да любові,
І ўніз, каб да нянавісці ісці.

Дарога ад Вавукаў да Крэва завецца «старой Крэўскай дарогай». Ідзе ўгару па лесе, дзе яшчэ праглядаецца ўтравелая брукаванка, і ўздоўж поля. З пэўнага месца дарогі адкрываецца дзівосны краявід: спачатку з-за пагорка выплываюць крыжы царквы і праз імгненне — вежа касцёла. Мястэчка на далоні. А праваруч — роўны гуд двух цыбатых 58-метровых «донкіхотаў»-ветракоў, што ганяюць крэўскі вецер па ўсім наваколлі. А яно, наваколле, кожнага разу робіць падказкі.

У гэтых прасторах лунае і дух паэткі Тацяны Сапач родам з недалёкага Маркава (гл. у № 4/2020 артыкул яе швагеркі Ларысы Сапач, бацька якой родам з Вавукаў). Па гэтым «краі свету», Смаргоншчыне, блукаюць адасоблена і самотна (да сённяшняга дня, бо як інакш?) кульбакаўскія ламэдвоўнікі* з бярозавымі кіямі ў руках. Якое густое і немаўклівае тут паветра, роўнае шапатліваму туману над Заходняй Бярэзінай. ◆

*У габрэйскай містычнай традыцыі 36 схаваных праведнікаў. Дзякуючы іх існаванню Бог уратуе свет, нават калі ўсё астатняе чалавецтва патоне ў грахах.




Ляскова. Малюнак Язэпа Драздовіча. **На малюнку — дзедава сядзіба.**

# «Драздовіч быў стары і вусаты»

**Пра сваё пасляваеннае дзяцінства і знакамітых людзей, лёсы якіх перапляліся з гісторыяй ягонага роду, успамінае доктар біялагічных навук з Гродна Вячаслаў Бука.**

Я навучыўся чытаць гадоў з чатырох, і гэтая жарсць так захапіла мяне, што я літаральна глытаў усё, што трапляла пад руку: газеты і малітоўнікі, сельскагаспадарчыя часопісы і кухарскую кнігу. Нават дапаможнік для актывістаў таварыства БГСА («Будзь гатоў да санітарнай абароны») і брашура «Як знішчаць вошы ў рускай печы» — усё ішло ў ход. Мне было ўсё адно, на рускай ці на беларускай мове была кніжка, трохі разбіраў нават і па-польску.

Такая ўсяеднасць тлумачылася яўна тым, што мне не хапала сапраўднай дзіцячай літаратуры. І калі старэйшая сястра прыносіла штосьці дзіцячае са школьнай бібліятэкі, то для мяне гэта было сапраўднае свята.

Дома кніжак у нас было не вельмі многа. Памятаю падручнік геаграфіі для царкоўна-прыходскіх школ з цікавымі гравюрамі. Мой дзед Якуб тлумачыў мне сэнс малюнкаў: «Гэта дзікія людзі палююць на насарога. А тут хлебнае дрэва. Бачыш, чалавек сарваў булку, сеў пад дрэва і есць».

Была польская кніжка без вокладкі. «Гэта хто?» — пытаў я ў маёй хроснай цёткі Веры, паказваючы на чалавека з булдавешкай у руках. — «Стэфан Баторы». — «А хто такі Баторы?» — «Круль». Цётка Вера вучылася ў польскай школе, таму ў такіх справах знала толк.

Яшчэ адна польская кніжка была пра падарожжа карабля *«Belgica»** — я тады чытаў гэтую назву як «Бельжыско». Чытаў я толькі подпісы да малюнкаў: пад выявай, дзе вялізная хваля амаль перакульвае карабель, было

* **«Belgica»** — бельгійскі карабель, які ў 1897–1899 гадах здзейсніў навукова-даследчую экспедыцыю ў Антарктыду. Сярод іншых удзельнікам гэтай экспедыцыі быў нарвежскі вучоны Раальд Амундсэн, былі на борце «Бельгікі» і двое палякаў — Генрык Арцтоўскі і Антоній Баляслаў Дабравольскі.

напісана «*Belgica blisko zguby*» («“*Belgica*” на мяжы гібелі»).

Памятаю яшчэ асобнічак Пушкіна, праўда, без малюнкаў, што значна зніжала маю цікавасць да яго. Асабліва мне падабаўся верш з незразумелай назвай «*Noel*»*:

*Не плачь дитя, не плачь, сударь.*
*Вот бука, бука — русский царь!*

Праўда, што такое *noel* і чаму рускага цара называюць нашым прозвішчам — Бука, ніхто мне не змог растлумачыць.

Былі яшчэ «кухарская» і «дакторская» кніжкі, якія мама хавала ад мяне ў стале, а таму яны былі асабліва цікавымі. У «кухарскай» кніжцы мяне вельмі смяшыў суп з бычыных хвастоў, а распытваючы пра некаторыя малюнкі з «дактарскай» кніжкі, часам атрымліваў замест адказу кухталя.

### «Матчын пасаг»

Але больш за ўсё я любіў тры кніжкі на беларускай мове, якія спачатку чытала мне мама, а потым, ужо разбіраючы літары, і я сам. Кніжкі былі пераплеценыя ў цвёрдыя вокладкі з нейкімі незразумелымі ўзорамі, а хутчэй разводамі, і не мелі, як звычайныя кнігі, ані назвы, ані прозвішча аўтара. Называлі мы іх самі: «Снапок», «Васількі» і «Дзядзька ў Вільні».

Пазней сястра мне растлумачыла, што мая ўлюбёная кніга «Дзядзька ў Вільні» — гэта «Новая зямля» Якуба Коласа. А дзве іншыя і сапраўды мелі такія самыя назвы, як мы іх звалі: «Снапок» нашаніўца Альберта Паўловіча і «Васількі» Ядвігіна Ш. Але пра гэта я даведаўся ўжо зусім дарослым. Была яшчэ адна кніжка — «Босыя на вогнішчы» («На вогнішчы басанож») Міхася Чарота, але была яна для мяне малазразумелая, а таму ў той час нецікавая.

Я вельмі заахвоціўся гэтымі кніжкамі і чытаў іх усім, хто быў у стане гэта ўсё вытрываць. У «Снапку» былі розныя аповеды і смешныя вершыкі. Асабліва любіў я і ведаў на памяць верш пра Якава, якому пан даручыў занесці другому пану кош ракаў. Якаў па дарозе заснуў, і ракі распаўзліся. Можна было б і вяртацца дадому, але Якаў меў яшчэ і пісьмо ад свайго пана, у якім дакляраваў свайму сябру ракаў. Суседскі пан прачытаў гэтае пісьмо і наказаў Якаву дзякаваць свайму гаспадару за ракаў, думаючы, што яны на яго кухні. «А, дык ракі самі прыйшлі? То ешче на здароўе».

У «Васільках» мне вельмі падабаліся апавяданні «Чортава ласка» і «Важная фіга». І ўжо ў 1976 годзе, купіўшы ў Гродне кніжку Ядвігіна Ш., я з асалодай перачытаў, ды і зараз раз-пораз



**Дуб, пасаджаны маім дзедам** у 1905 годзе.

ФОТА УЛАДЗІМІРА ГОЛІКА



ФОТА АКСАНЫ ЛУКІЎСКАЙ

**Доктар біялагічных навук з Гродна Вячаслаў Бука** вучыўся чытаць па «Новай зямлі».

перачытваю ўсе апавяданні нашага класіка. А пра Паўловіча і ягоны «Снапок» я даведаўся толькі некалькі гадоў таму, чытаючы факсімільныя выданні «Нашай Нівы».

Але самым маім улюбёным творам на ўсё жыццё стала з таго часу «Новая зямля». Часта, асабліва зімовымі вечарамі, мама, а потым і я сам, чыталі яе ўголас. То як дзядзька Антось варыў клёцкі з бярозавым сокам, то пра паляванне на глушца, а часцей за ўсё пра прыгоды дзядзькі ў Вільні. Нярэдка прыходзілі суседзі і з вялікай цікавасцю слухалі чытанне. «Як і ў нас даўней было!» — казаў мой хросны, дзядзька Кастусь, праслухаўшы «Вялікдзень».

«Матчын пасаг», — жартаваў, паказваючы на кніжкі, мой бацька. Сапраўды, мама прывезла гэтыя беларускія кнігі, выходзячы замуж у Маркі, са сваёй роднай вёскі Ляскова, што за два кіламетры ад Шаркаўшчыны. Кнігі падараваў ёй сваяк, Грыша Якубёнак, ці «зелясінскі Грыша». Грыша, Рыгор Юстынавіч Якубёнак, быў нашым сваяком: ▸

* **Noel** — па-французску Каляды. Таксама так традыцыйна называліся вершаваныя сатырычныя калядныя куплеты, у форме аднаго з якіх і быў напісаны верш Пушкіна.

ягоны брат Мікалай ажаніўся з дзедавай сястрой Анэтай.

### Дзед Юзюк і мастак Язэп

Дзед мой, Юзюк Балошка, быў адным з чатырох сялян, што купілі разам кавалак зямлі ў лесе, расчысцілі яго, зааралі і назвалі вёсачку Лясковам. Было гэта больш за 100 гадоў таму, у 1905 годзе. А як памяць пра гэта каля былой дзедавай сядзібы стаіць пасаджаны ім ужо больш як стагадовы дуб.

Дзед лічыўся свядомым беларусам: аднойчы ён з'ездзіў у Вільню і прывёз адтуль партрэт Янкі Купалы і дзве грамафонныя кружэлкі з песнямі Міхася Забэйды-Суміцкага. Калі мы гасцявалі ў Ляскове, то кожны раз слухалі «Як памерла матулька» ці «Ой ты, дудка мая».

**Дзед быў свядомым беларусам: ён з'ездзіў у Вільню і прывёз адтуль партрэт Янкі Купалы і дзве грамафонныя кружэлкі з песнямі Забэйды-Суміцкага**

А на перабойцы* вісеў дыван: паненка ў белай сукенцы сядзела ў альтанцы на востраве, а па возеры плавалі белыя лебедзі. На другой сцяне быў таксама малюнак у драўлянай рамцы: заснежаныя елкі, зімовая дарога.

— Хто маляваў? — пытаўся я дзеда.

— Драздовіч.

Дзед сябраваў з вандроўным мастаком, і той некалькі разоў жыў у дзеда ў Ляскове, маляваў у дзедавай хаце свае знакамітыя цяпер дываны, карціны. Была на іх намалявана і дзедава сядзіба.

Гэтую карціну пад назвай «Ляскова» недзе ў 1970-х гадах мой дзядзька Мікалай Балошка падараваў мастаку Алесю Марачкіну, выпадкова сустрэўшы таго ў Лужках. Карціна ляжала на дзедавым гарышчы, парэзаная нажом у правым верхнім куце. Гэта здарылася якраз на вяселлі маёй мамы. Карціна вісела на кухні, і нейкі п'яны, не запрошаны за стол «прыхадзень» паласнуў яе нажом. Пасля гэтага пашкоджаную карціну і знеслі на гарышча.

Цяпер «Ляскова» — у мінскім музеі. У правым верхнім куце яе — заштукаваны, але ўсё ж такі добра бачны шнар. На карціне —

**Язэп Драздовіч** (1888–1954) адзін з заснавальнікаў беларускага нацыянальнага гістарычнага жывапісу, майстар дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Меў шырокае кола інтарэсаў: гісторыя, археалогія, этнаграфія, літаратура, астраномія. Ён запісваў фальклор і апрацоўваў для слоўнікаў народную лексіку Дзісеншчыны і Піншчыны, склаў зборнік «Песні Дзісеншчыны». Пісаў вершы, прозу, вёў дзённікі, цікавіўся загадкамі зорнага неба.

Але найбольш вядомы як мастак. Працаваў у розных жанрах, ствараў гістарычныя палотны, пейзажныя замалёўкі, афармляў вокладкі для кніг. Сярод іншага быў вядомы тым, што вандраваў па вёсках і маляваў для сялян арыгінальныя хатнія дываны.

Ураджэнец гістарычнай Дзісеншчыны (сучасны Глыбоцкі раён), у родных мясцінах правёў значную частку свайго жыцця, пражыўшы сярод іншага тут 20 апошніх гадоў.



**Дыван, намаляваны Язэпам Драздовічам** для мамінай сястры Надзі. Захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі.

* **Перабойка** (бел.) = пярэгарадка, сценка між пакоямі.




З СЯМЕЙНАГА АРХІВА АДЫ ЛАТУШКІ (СЕВАСТОПАЛЬ)

**Мая цётка Надзя.** Малюнак Язэпа Драздовіча. На адвароце — аўтограф мастака.

драўляны дом, гарод, студня, тры чалавечыя фігуркі. Мама казала, што спачатку Драздовіч намаляваў сем фігур — усіх жыхароў хаты: дзеда з бабуляй і пяцярых дзяцей. Але мама, старэйшая з дзяцей, расказвала, што ёй не спадабалася такое мноства людзей, яна сказала пра тое Драздовічу, і мастак пакінуў на карціне толькі тры фігуры.

Добра памятаю і карціну «Зіма», якая вісела на кухні ў дзедавай хаце: заснежаны лес, дарога і чалавек едзе на санях. Дзе яна падзелася — ніхто не ведае. Недзе згубілася, калі пасля смерці дзеда хату перавезлі з хутара ў вёску.

### «А да мяне нават і заляцаўся»

Я распытваў маму (яна памерла ў 2002 годзе ў 92 гады):

— Які ён быў, Драздовіч?

— Цікава апавядаў, вельмі любіў важдацца з малымі. А да мяне нават і заляцаўся.

— А ён табе падабаўся?

— Ай, не. Ён быў стары, вусаты.

— Дык ён жа насіў бараду.

— Не, тады ён быў вусаты.

Драздовіч быў на 24 гады старэйшы за маму.

Кантакты з маім дзедам Драздовіч падтрымліваў амаль да канца жыцця. Пэўны час таму мая стрыечная сястра Ада Латушка, дачка малодшай мамінай сястры Надзі, пераслала мне з Севастопаля адсканаваны малюнак сваёй маці, намаляваны Драздовічам. На адвароце рукой мастака напісана: «Надзя Балошка. Рыс. Я. Драздовіча. У Ляскове. 23-III-1949 г.» і подпіс. Цяпер думаю, што гэта ж я, будучы ўжо школьнікам, бываючы кожны год у дзеда ў Ляскове, мог спаткацца з дзядзькам Язэпам! Але ж не прыйшлося.

### Грыша з Зелясінак

Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што менавіта Драздовіч паўплываў на светапогляд майго дзеда як свядомага беларуса. Але ж Драздовіч быў не адзін у гэтай справе. І я думаю, што яшчэ мацнейшым быў уплыў на дзеда Юзюка яго сваяка, Грышы Якубёнка.

Звесткі пра Рыгора Юстынавіча, якія я атрымаў ад мамы, а таксама ад яе брата, дзядзькі Мікалая ▶

### «Цяпер наша хата — музей»

Літаратуразнавец і фалькларыст Арсень Ліс — дарэчы, мой школьны настаўнік, ён выкладаў нам беларускую мову і літаратуру ў Шаркаўшчынскай школе ў 1956–1957 гадах, — у сваёй кнізе пра Язэпа Драздовіча «Вечны вандроўнік» піша і пра нашу сям'ю, і звязаную з ёй творчасць Драздовіча:

«У сваіх дзённікавых запісах Драздовіч заўважае, што ў Ляскове пісаў сцэнныя дываны ажно пяці сёстрам Балошкам. Няцяжка здагадацца, што адлюстраваў мастак у сваім "Ляскове" сядзібу Балошкі. Адлюстраваў са ўсёй шчырасцю, гэтак жа паэтычна і светла, як паэтычны і светлы гэты куток роднай зямлі.

На заканчэнне размовы пра Ляскова — абразок са словамі з дзённіка самога мастака за 1936 год. Ён добра перадае атмасферу, удакладняе факты. "Пятніца, 26/IV. Заканчваю тут ужо чацвёртую працу для сям'і Балошак з пяццю паненкамі. І насценны дыван на падрамніку — для старэйшай, што збіраецца выйсці замуж аж пад Шаркаўшчыну, і ў мінулую нядзелю меў прыемнасць прысутнічаць на запоінах*. [Гэта былі запоіны Ганны, маёй мамы. — **В. Б.**]. Два пейзажы (выгляд іхняй сядзібы і «Зіма») для ўсёй сям'і і малодшых і насценнік для падстаршай, Жэні. Апошні, як на зайздрасць старэйшай, Ганьцы, з двума букетамі паабапал гатычнага акна з начным відам на вадзяны млын выйшаў зусім як на дзіва... Жарты, спеў і смехі — вясёлы народ гэтыя маладыя. З імі і ты маладзееш". І далей у дзённіку запіс наступнага дня: "Субота, 27/VI. Праца кончана. Закончана на папраўках. Дзяўчаткі-сёстры цешуцца: «Цяпер наша хата — музей»". А праз колькі старонак дзённіка — запіс PRO MEMORIAM: "З суботы на нядзелю, 28 чэрвеня, быў на заручынах у Ганулькі Б. у Ляскове"».

* Адзін з этапаў падрыхтоўкі да шлюбу. Пасля заручын, папярэдняй дамоўленасці, родныя «запівалі» маладых, урачыстым абедам змацоўваючы дамову.

Балошкі, былі даволі скупаватыя. Тое-сёе ўдалося знайсці ў друку ды выцягнуць з інтэрнэту. Але і тое, што я знайшоў, не заўсёды выклікала ў мяне давер. Я прывык да таго, што ў нас вёску, дзе нарадзіўся і жыў Якубёнак, звалі Зелясінкі. А вось у інфармацыі, надрукаванай у часопісе «Куфэрак Віленшчыны», чытаю пра яго: «Нарадзіўся ў вёсцы Залесінкі». Ну добра, думаю, маглі памыліцца. Аднак не, у кнізе «Памяць» Шаркаўшчынскага раёна таксама «Залесінкі». А напрыканцы кнігі — віншаванне ад кіраўніка раёна, які таксама нарадзіўся ў «вёсцы Залесінкі».

Тады я зразумеў, што маю справу з т. зв. «упарадкаваннем геаграфічных назваў», якое мела, дый надалей мае месца ў нас у Беларусі. Добра памятаю, як я здзівіўся ў дзяцінстве, пабачыўшы, што на геаграфічнай карце Беларусі мая родная Дзісёнка называецца Дзісной, а Бярозаўка, дзе я малым кожнае лета вудзіў акунёў да крумялёў (так у нас звалі рыбку, што ў літаратурнай мове завецца пячкур), — Беразвіца. Можа, яно гэтак і прыгажэй ці больш «культурна» для чужога вуха, але для мяне, як і для ўсіх тых, хто тут нарадзіўся і жыў, яны будуць гучаць заўсёды так, як было даўней: Дзісёнка, Бярозаўка, Зелясінкі...

Пасля таго, як у 1931 годзе польскія ўлады закрылі Клецкую беларускую гімназію, якой ён быў дырэктарам, Рыгор Якубёнак вярнуўся ў родныя Зелясінкі. У гэты час, дарэчы, ён перажыў і сямейную трагедыю: не вытрымаўшы выпрабавання цяжкасцямі, яго пакінула жонка.

Якубёнак працаваў на гаспадарцы разам з братам, цяслярыў, сталярыў. Асаблівым яго захапленнем было

**Рыгор Якубёнак** (1882–1944) педагог і грамадскі дзеяч. Адукацыю атрымаў да Першай сусветнай вайны ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, пасля вучыўся ў Полацку. У вайну служыў у царскім войску, заслужыў малодшы афіцэрскі чын.

Вярнуўся на радзіму ў 1917 годзе, з 1921 па 1924 год працаваў настаўнікам беларусазнаўства ў Нясвіжскай беларускай гімназіі. Але ўжо ў 1923 годзе польскія ўлады, нягледзячы на тое, што быў праведзены набор новых навучэнцаў, не далі гімназіі дазволу вучыць далей, матывуючы сваё рашэнне тым, што беларусы не маюць патрэбы ў беларускай сярэдняй адукацыі, што навучэнцаў мала, узровень навучання нізкі, а памяшканне школы не адпавядае патрабаванням.

Нягледзячы на афіцыйнае закрыццё гімназіі, настаўнікі працягвалі ў 1923/1924 навучальным годзе вучыць гімназістаў на прыватных кватэрах. Пасля безвыніковых пошукаў памяшкання для школы ў Нясвіжы і Гарадзеі яно было знойдзена ў Клецку па вуліцы Татарскай, 4. Хоць і з цяжкасцю, але здабылі і ліцэнзію на дзейнасць Клецкай беларускай гімназіі, а Рыгор Якубёнак стаў яе дырэктарам. Спачатку гімназія была чатырохкласнай, але ўжо ў наступныя гады ў ёй стала 8 асноўных класаў і 1 падрыхтоўчы, у якіх вучылася каля 200 гімназістаў. За тры выпускі гімназіі яе скончыла 46 навучэнцаў.

Дырэктар Якубёнак, які меў сталярныя, цяслярныя ды мулярныя здольнасці, падчас канікул уласнаручна рабіў мэблю для інтэрната і для гімназіі, клаў печы і нават збудаваў драўляны прасторны туалет. Як успамінаў паэт Анатоль Іверс, які вучыўся ў Клецкай гімназіі, Якубёнак увогуле быў простым ды добрым чалавекам, які вельмі спагадліва ставіўся да вучняў і нават падкормліваў іх у галодныя часы са сваёй небагатай зарплаты.

Але ахвярнасць дырэктара не змагла ўратаваць Клецкую беларускую гімназію. У 1931 годзе яна была ліквідаваная польскімі ўладамі. Афіцыйнай прычынай былі нібыта пракамуністычныя настроі вучняў.




**Вучні Клецкай беларускай гімназіі.**




**Рыгор Юстынавіч Якубёнак** — дырэктар Клецкай беларускай гімназіі.

пчалярства — у Якубёнкаў была добрая пасека. Увогуле, жыла гэтая сям'я даволі заможна, што выклікала непрыязь не вельмі багатых суседзяў.

Мой дзядзька Мікалай Балошка падчас вучобы ў Лужэцкай школе жыў у Якубёнкаў — з Зелясінак было бліжэй да Лужак, чым з Ляскова. Ён успамінае, што Рыгор Юстынавіч жыў вельмі дружна з сям'ёй свайго брата, хадзіў у вышыванай кашулі навыпуск, падперазанай поясам з кутасамі, і ў шыракаполым капелюшы. У яго была неблагая бібліятэка, большасць кніг у ёй была на беларускай мове. На жаль, падчас вайны бібліятэка тая практычна загінула: яе забралі партызаны на самакруткі. Але менавіта з яе некалькі кніг трапілі і ў мае рукі як «мамін пасаг». Праўда, усе яны згарэлі падчас пажару ў нашай хаце ў 1952 годзе.

Польскія ўлады неаднаразова прапаноўвалі Рыгору Якубёнку працу ў школе, але ён, як успамінаў мой дзядзька Мікалай, казаў, што на палякаў працаваць не будзе, таму так і не згадзіўся на гэтыя прапановы.

Вярнуўся ў прафесію Рыгор Юстынавіч толькі тады, як польская ўлада скончылася і зноў з'явілася магчымасць выкладаць па-беларуску. Пры «першых саветах», з 1939 па 1941 год, ён па просьбе аднавяскоўцаў настаўнічаў у родинай вёсцы, а пасля перабраўся ў Лужкі. Там жа ён працягваў выкладаць беларускую мову і літаратуру і пры немцах.

## Сям'я Якубёнкаў жыла заможна, што выклікала непрыязь не вельмі багатых суседзяў




**Рыгор Якубёнак (крайні злева)** з настаўнікамі Клецкай гімназіі.

А ў 1944 годзе Рыгор Якубёнак загінуў ці памёр пры нявысветленых абставінах. Я чуў пра ягоную смерць розныя версіі. Мама мая расказвала, што ён памёр «ад разрыву сэрца»: ішоў па вуліцы ў Лужках і, параўняўшыся з ідучым насустрач нямецкім патрулём, раптам асунуўся на зямлю. Але дзядзька Мікалай Балошка казаў іншае: маўляў, Якубёнка знайшлі мёртвым у лесе па дарозе ў Лужкі, і яго забілі. Хто забіў — версіі зноў жа разыходзяцца. Адныя людзі казалі, што гэта зрабілі нядобразычліўцы з Зелясінак, якія заўсёды яму зайздросцілі, а па другой — палякі, якія ненавідзелі Якубёнка за ягоную беларускую дзейнасць, якая ў іх вачах аўтаматычна была антыпольскай.

Як бы ні было, а мая беларуская свядомасць, непасрэдна перанятая ад маіх дзядоў, бацькоў ды школьных настаўнікаў з Шаркаўшчынскай школы, ускосна паходзіць і ад гэтых двух вядомых беларускіх дзеячаў — Язэпа Драздовіча і Рыгора Якубёнка. Бо на духоўнае ўзгадаванне маіх настаўнікаў яны ўплывалі самым непасрэдным чынам. ◆

# «ТАМУ МЫ НАЗЫВАЕМ РАСПУСНЫХ ЖАНЧЫН ВАЎЧЫЦАМІ, бо яны абдзіраюць сваіх каханкаў да апошняга шэлега»

**Ільвіцы нараджаюць дзіцянят мёртвымі і вартуюць іх два дні, а на трэці дзень прыходзіць бацька-леў і сваім дыханнем ажыўляе іх. Калі воўк першым убачыў чалавека, ён пазбаўляе яго здольнасці гаварыць. Калі чалавек першым згледзіць ваўка — той губляе сваю лютасць і моц. Мядзведзіца нараджае бясформенны кавалак плоці і потым фармуе ўсе часткі цела медзведзяняці, вылізваючы іх языком. Ва ўсё гэта людзі ўсур'ёз верылі, расказвае Зміцер Кузменка.**

У кнігазборах сярэднявечнай Еўропы дамінавалі кнігі Святога Пісання. Абсалютна неабходныя святарам, яны былі значнай каштоўнасцю і для свецкіх асобаў: людзі шукалі ў рэлігійных тэкстах падказак, як ім паводзіцца ў той ці іншай складанай сітуацыі.

Гэта быў адначасова і маральны імператыў, і падручнік па гісторыі. Нават чытаць вучыліся па Бібліі.




**Адам дае імёны жывёлам.** Мініяцюра з Абердынскага бестыярыя.

## Псалтыр

зборнік рэлігійнай лірыкі, адна з кніг Старога Запавету. Аўтарам заяўляецца іўдзейскі цар Давыд, што жыў у XI стагоддзі да н. э. Лічылася, што той, хто вывучыў гэтую кнігу, можа брацца за любыя іншыя кнігі.

Часцей за ўсё для навучання выкарыстоўвалі Псалтыр: нездарма менавіта з гэтай кнігі распачаў свой надзвычайны асветніцкі чын Францішак Скарына.

Тым не менш і тады ўсё да аднаго Пісання не зводзілася. У паўзмроку сціплых манастырскіх келляў і ў больш выгоднай абстаноўцы дваранскіх пакояў спакваля нараджалася свецкая белетрыстыка. З вусных легендаў пра подзвігі шляхетных ваяроў, горача закаханых у прыгожых паннаў, у кнігі патрапіў і набыў вялікую папулярнасць жанр рыцарскага рамана. Тую ж «Аповесць пра Трышчана», вядомую з XII стагоддзя, чытала ўся Еўропа — таксама і ў нас: яшчэ 500 гадоў таму яе перpredказалі і запісалі па-старабеларуску.

### Бестыярыі

Але ў Сярэднія вякі існавала яшчэ адно вельмі папулярнае чытво, і з’явілася яно задоўга да паэтычных аповедаў пра рыцараў ды паненак. Тыя кнігі можна лічыць правобразам сучасных даведнікаў. І нават жартаўліва назваць, паводле цяперашняй моды, «зверапедыямі». Хоць насамрэч яны зваліся **бестыярыямі**.



**Урывак «Аповесці пра Трышчана»** ў перакладзе са старабеларускай.




**Брытанская бібліятэка — адна з найбуйнейшых бібліятэк у свеце.** Тут захоўваецца каля паўсотні бестыярыяў і падобных да іх паводле зместу старадаўніх рукапісаў. Перад галоўным уваходам — бронзавы помнік Ісаку Ньютану.

У нас цяпер слова *бестыя* мае адмоўнае адценне і можа азначаць ці то спрытнага прайдзісвета, ці то вусцішную пачвару. Але напраўду нічога крымінальнага і страшнага ў гэтых кнігах не было. Назва іх паходзіць ад лацінскага слова *bestia*, што азначае проста «звер», без ніякіх негатыўных канатацый.



**Адважны рыцар Трышчан** мусіў прывезці прыгажуню Ізоту за жонку для свайго любага дзядзькі, караля Марка, аднак выпадкова выпівае разам з ёю мілоснае зелле. Выпрабаванні гэтую пару чакаюць нязносныя. Гэтая легенда стала сюжэтам многіх музычных твораў і фільмаў.

Гэтыя выданні былі адной з першых спробаў асэнсавання таямніц жывой прыроды: прыгожыя, багата ілюстраваныя зборнікі займальных артыкулаў пра самых разнастайных жывёл. Пакідаючы вольнае месца для каляровага малюнка, сярэднявечны пісар старанна пераносіў на старонку будучай кнігі апісанне выгляду чарговай «бестыі», цікавосткі пра яе характар і звычкі.

Многія з іх намі сённяшнімі ўспрымаюцца з усмешкай. Але што ж: іх малявалі ў той час, калі падарожжы былі смяротна небяспечнымі і праверыць, колькі праўды ў аповедах вандроўнікаў, было вельмі складана. Да ўсяго, за дзівосы добра плацілі. Таму мы нярэдка сустракаем у бестыярыях зусім неверагодныя звесткі, у тым ліку пра жывёл, якія ў прыродзе ніколі не існавалі. ▶

► Рэальныя звяры ды птушкі перамяжоўваюцца ў кнігах з міфічнымі істотамі: банаконам, драконам, аднарогам, феніксам ды іншымі.

Рэдкая старонка ў гэтых кнігах абыходзілася без шматколерных мініяцюр, часта цікавейшых для чытача, чым сціслы сухаваты тэкст. На малюнках звяры выяўляліся ў розных жыццёвых абставінах: кранальных, дзіўных, застрашлівых. Часам «бестыям» рабілася цесна ў рамках, адведзеных пад ілюстрацыю, і яны з іх вырываліся.

Дзівосныя тут і колеры. Мастакі карысталіся тымі фарбамі, што мелі пад рукой, таму ў некаторых выпадках нават добра вядомыя жывёлы маюць афарбоўку, далёкую ад сапраўднай. Што ўжо казаць пра міфічных звяроў, нікім і ніколі не бачаных, тут мастак мог напоўніцу даць волю сваёй фантазіі.

Інфармацыя пра жывёльны свет у бестыярыях абавязкова інтэрпрэтавалася праз прызму царкоўнага вучэння. Повязь рэлігіі і прыродазнаўства тут часам настолькі дзіўная, што бывае цяжка вызначыць: сапраўды аўтары дапасоўвалі да цікавостак жывёльнага свету адпаведны рэлігійны падтэкст ці, наадварот, пад загадзя зададзеныя біблійныя ісціны падстаўлялі незвычайныя асаблівасці той ці іншай «бестыі». Сапраўдныя або прыдуманыя.

Усе стварэнні прыроды ў гэтых кнігах падзеленыя на чыстыя і нячыстыя. Чыстыя атаясамліваліся з Хрыстом і яго прарокамі, нячыстыя сімвалізавалі д'ябла і служак апраметнай. Такім чынам адвечная барацьба Святла і Цемры пераносілася аўтарамі ў жывёльны свет. І гэтая акалічнасць робіць бестыярыі яшчэ цікавейшымі.

## «Слушна гаворыць фізіялог»

Першым вядомым у гісторыі бестыярыем можна лічыць грэчаскі «Фізіялог», які, у адрозненне ад пазнейшых заходнееўрапейскіх аналагаў, даступных у асноўным манаству і багатай арыстакратыі, быў сапраўды масавым чытвом, літаратурай «нізоў». Гэтая кніга з'явілася прыблізна ў III–IV стагоддзях, імаверна, у Александрыі. Незвычайная назва зборніка тлумачыцца тым, што кожны артыкул у ім пачынаўся або заканчваўся спасылкай на дасведчанага прыродазнаўцу — фізіялога. Фраза «слушна гаворыць фізіялог» паўтараецца тут шмат разоў.



**Бернскі фізіялог,**
IX стагоддзе.

Агулам кніга ўтрымлівала каля 50 невялікіх тэкстаў пра сапраўдных або міфічных істот жывой прыроды. Як і ўсе створаныя пазней на яго аснове бестыярыі, «Фізіялог» з'яўляўся, калі можна так сказаць, шматфункцыянальнай кнігай.

Па-першае, гэта сапраўды была тагачасная энцыклапедыя жывёльнага свету, няма сумневу, што па ёй у Сярэднявеччы вывучалі асаблівасці і звычкі звяроў. Па-другое, дзякуючы закладзеным у кнізе прынцыпам хрысціянскай маралі і запамінальным ілюстрацыям, кніга мела досыць выразную дыдактычную функцыю: па ёй можна было выхоўваць людзей на наглядных прыкладах і алегорыях з жыцця жывёл. І па-трэцяе — гэта проста была вельмі цікавая, займальная чытанка.

## Леў-Хрыстос і дракон-д'ябал

Нескладана здагадацца, што адкрываў зборнік леў, якому ў кнізе нярэдка прысвячалася нават не адна ілюстрацыя,





**Леў ажыўляе нованароджанае львяня ўласным дыханнем.** Мініяцюра з Бернскага фізіялога.

### Схаласты лічылі

што ўсе істоты, якія ёсць на сушы, маюць адпаведныя віды ў акіяне. Так свае назвы атрымалі марскія сланы і марскія коцікі. І цікава, што гэтая думка доўга была важным довадам за існаванне аднарогаў: бо ж існуе такое дзіва, як нарвал — аднарогі зубаты кіт!

а дзве ці тры. І гэта нездарма: магутны цар звяроў сімвалізаваў цара ўсяго чалавецтва — Ісуса Хрыста, таму распавед пра льва насычаны адсылкамі да евангельскай гісторыі пра Збаўцу чалавечага роду. Паведамлялася, што леў замятае ўласныя сляды хвастом, каб паляўнічыя не здолелі знайсці яго (як і Хрыстос, які да часу хаваў ад ворагаў сваю сапраўдную існасць); што леў спіць з расплюшчанымі вачыма (падобна да Хрыста, які бачыў і адчуваў усё навокал, нават калі зямное цела ягонае нерухомела ў сне ці паміралa на крыжы); што львіцы нараджаюць дзіцянят мёртвымі і вартуюць іх два дні, а на трэці дзень прыходзіць бацька-леў і сваім дыханнем ажыўляе львяня (аналагічна ўваскрашэнню Хрыста пасля ўкрыжавання рымлянамі).

Антыпод ільва — дракон, самая вялікая змяя на зямлі і ўвасабленне жорсткага і падступнага д'ябла. Нават магутны слон не пачуваецца побач з ім у бяспецы: дракон можа незаўважна аблытаць слану ногі сваім хвастом і задушыць яго. Але часцей за ўсё дракон забівае ахвяру не хвастом, а дыханнем. І гэтае дыханне змея-дракона, то салодкае, то спакуслівa-зманлівае, праходзіць у бестыярыях праз многія старонкі, прысвечаныя іншым жывёлам. Калі не перамагчы д'ябла, дык прымусіць яго адступіць можна, рашуча адпрэчыўшы ўсё грахоўнае.

А адным з сімвалаў такой «абсалютнай грахоўнасці» сярэднявечныя кніжнікі зрабілі палавыя залозы бабра. Паводле бестыярыяў, калі бабра праследуе паляўнічы (чарговае ўвасабленне д'ябла), той адгрызае сабе сараматнае месца ды кідае паляўнічаму. І ў выніку застаецца жывы.



WIKIMEDIA COMMONS

**Дракон аблытвае і забівае слана.** Мініяцюра з Абердынскага бестыярыя.

## Не звярамі адзінымі

Укладальнікі розных бестыярыяў, перапісваючы грэчаскі арыгінал, устаўлялі ў свае кнігі звесткі з іншых крыніц, як правіла, антычных аўтараў: Гая Плінія, Гая Юлія Соліна ды іншых. Вельмі часта ў тэкст дадаваліся і новыя раздзелы пра жывых істот, якіх не было ў першапачатковым «Фізіялогу».



WIKIMEDIA COMMONS

**Бабёр адгрызае сабе палавыя залозы, каб ўратавацца ад паляўнічых.** Мініяцюра з Абердынскага бестыярыя.

Красамоўны прыклад — згадка пра казларога, які нібыта здольны ўратавацца пры падзенні з высачэзнай вяршыні ў самую глыбокую прорву дзякуючы сваім рагам, такім доўгім і моцным, што, уторкнуўшыся ў зямлю, яны амартызуюць удар і ўтрымліваюць цела жывёлы ад смяротнага сутыкнення. Адметна, што рогі гэтыя ў сярэднявечным бестыярыі сімвалізуюць Стары і Новы Запавет Бібліі, а сам казларог — мудрага чалавека, які ▸


TRAVELFARNEAR.COM

**Старадаўні будынак Абердынскага ўніверсітэта (Шатландыя)**, у бібліятэцы якога зберагаецца ўнікальны бестыярый XII стагоддзя.


WIKIMEDIA COMMONS

**Тыгр.** Мініяцюра з Абердынскага летапісу. Гэта адзін з самых хуткіх, імклівых звяроў, параўнаных укладальнікамі бестыярыяў са стралой у палёце. Калі паляўнічы выкрадае ў тыгрыцы дзіцятка і тая нясецца наўздагон, выкрадальніку дастаткова кінуць ёй шкляны шар. Убачыўшы ў шкле сваё адлюстраванне, маці вырашае, што гэта — яе скрадзенае тыгранё, і, спыніўшы пагоню, кладзецца побач, каб яго пакарміць.

▸ з дапамогай Святога Пісання здатны перамагчы любую бяду ў сваім жыцці.

Пісалася ў бестыярыях не толькі пра дзікіх звяроў і свойскую жывёлу. Былі там раздзелы, прысвечаныя раслінам, птушкам, нават камяням. Цікавыя звесткі падаваліся пра арла і голуба, пальму і кедр. У тым жа першасным «Фізіялогу» распавядалася пра дыямент, які можна адшукаць толькі ўначы і толькі ва ўсходніх краях і які настолькі моцны, што знішчыць яго немагчыма.

Сёння сярэднявечныя бестыярыі захоўваюцца ў скарбніцах многіх бібліятэк свету. Найбольш выдатныя асобнікі алічбаваныя і выстаўленыя ў інтэрнэт для вольнага некамерцыйнага карыстання. Сярод такіх шэдэўраў — славуты Абердынскі бестыярый, знакаміты сваімі шыкоўнымі ілюстрацыямі. Аднак большая частка старадаўніх «зверапедыяў» загінула ў віры пажараў, войнаў і закалотаў. У сённяшняй Беларусі іх няма ніводнай, але думаецца, што ў даўнейшых магнацкіх кніжных зборах не магло не быць.

Прапануем чытачу пазнаёміцца з тым, што пісалі ў Абердынскім бестыярыі пра папулярных герояў нашых казак: злоснага ваўка, дурнавата-цельпукаватага мядзведзя, хітрую лісу. І зрабіць уласныя высновы. ◆


WIKIMEDIA COMMONS

**Малпа. Мініяцюра з бестыярыя Ганны Уолш XV стагоддзя** (хто была гэтая жанчына — невядома, але рукапіс цяпер носіць яе імя). Гэтую жывёлу ілюстратары нярэдка малявалі з адным дзіцём на руках і яшчэ адным — на спіне. Лічылася, што на руках малпа носіць улюбёнае дзіцятка, а за карак прымушае чапляцца таго, якога яна не любіць ці нават ненавідзіць. Але калі раптам даводзіцца ўцякаць ад драпежніка ці паляўнічага, каб бегчы хутчэй, малпа мусіць стаць на ўсе чатыры лапы, кінуўшы свайго ўлюбёнца. У выніку ратуюцца менавіта нялюбыя дзіцяняты.



**Абердынскі бестыярый** XII стагоддзя.

## Воўк

Лацінскае слова *lupus*, воўк, паходзіць ад грэцкай назвы гэтай жывёлы *licos*, якая ў сваю чаргу ўзыходзіць да грэцкага слова «ўкусы», паколькі раз’юшаныя хціўвыя ваўкі забіваюць усё, што могуць знайсці. Іншыя людзі кажуць, што слова *lupus* пайшло ад *leo-pos* (ільвіныя лапы), таму што, падобна да львоў, уся сіла ваўкоў у іх лапах. І таму ўсё, што яны пераследуюць, асуджана на гібель. Ваўкі атрымалі такое імя ад сваёй хціўвасці, таму мы называем распусных жанчын ваўчыцамі, бо яны абдзіраюць сваіх каханкаў да апошняга шэлега.

Воўк — прагавіты, крыважэрны драпежнік з моцнымі грудзямі і магутнымі сківіцамі. Ён не можа паварочваць галаву ўбок, не павярнуўшыся ўсім целам. Кажуць, што сілкуецца ён часам сваёй здабычай, часам зямлёй, а часам — нават ветрам...

...Першым убачыўшы чалавека, воўк пазбаўляе яго здольнасці гаварыць і глядзіць з пагардай, як пераможца на бязмоўную ахвяру; калі ж станецца наадварот і чалавек першым згледзіць ваўка — той губляе сваю лютасць і моц...

...Што ж рабіць чалавеку, у якога воўк забраў здольнасць гаварыць, і небарака няздатны нават паклікаць на дапамогу? Чалавек мусіць зняць сваю вопратку і кінуць яе пад ногі, а затым узяць у рукі два камяні і біць імі адзін аб адзін. Пасля гэтага воўк губляе сваю адвагу ды дзёрзкасць і ўцякае прэч, а чалавек дзякуючы сваёй кемлівасці ратуецца...




**Воўк патаемна падкрадаецца да авечак.** Мініяцюра з Абердынскага бестыярыя.

## Мядзведзь

Кажуць, што мядзведзь атрымаў сваю лацінскую назву *ursus*, таму што самка надае форму свайму нованароджанаму дзіцяняці ротам (*ore*), і ад пачатку мядзведзяў называлі *orsus*. Як вядома, мядзведзіца нараджае бясформенны кавалак плоці і потым фармуе ўсе часткі цела медзведзяняці, вылізваючы іх языком. Першапачатковая бясформеннасць дзіцянят — вынік ранніх родаў. Медзведзяняты нараджаюцца ўсяго праз трыццаць дзён пасля зачацця...

...Плодзяцца мядзведзі аднолькава, дзе б яны ні жылі. Пры гэтым любяцца не так, як іншыя чатырохногія: падчас спарвання мядзведзі абдымаюць адно аднаго амаль як людзі. Жарсць у мядзведзяў абуджаецца зімой. Самцы шануюць цяжарных самак і пакідаюць іх у спакоі, хаця могуць займаць з імі адно логавішча да самых родаў і ляжаць, падзеленыя равочкам...




**Мядзведзіца вылізвае сваё дзіцянятка і надае яму форму.** Мініяцюра з Абердынскага бестыярыя.




**Галодная ліса ўдае сябе мёртвай, каб злавіць птушку і з’есці яе.** Мініяцюра з Абердынскага бестыярыя.

...Мядзведзі нападаюць на пчол і зацята намагаюцца дабрацца да мядовых сотаў. Няма нічога, чаго мядзведзі прагнуць больш як мёду. Калі мядзведзі з’ядаюць плод мандрагоры, то паміраюць. Але яны імкнуцца пазбегнуць гэткай бяды і паядаюць мурашоў, каб аднавіць сваё здароўе...

## Ліса

Лацінскае слова *vulpis* (ліса) паходзіць ад *velupis* (клубок воўны), таму што яна імклівая і ніколі не бяжыць па простай лініі, але ўвесь час блытае і пятляе. Гэта разумная, хітрая жывёла.

Згаладаўшыся і не здолеўшы здабыць ежы, яна выкочваецца ў чырвонай зямлі, каб выглядаць акрываўленай, кладзецца на зямлю і стойвае дыханне, нібыта памірае. Калі птушкі бачаць, што яна не дыхае і ляжыць у крыві, высалапіўшы з рота язык, то лічаць лісу мёртвай і сядаюць на яе. А тая імгненна хапае іх і паядае. Такая ж натура ў д’ябла. Для ўсіх тых, хто жыве толькі цялеснымі патрэбамі, ён прыкідваецца няісным, аж пакуль не схопіць ахвяру сваімі зубамі і не знішчыць яе.

# «З незвычайнай сардэчнасцю і нейкай прастатою»

## Як прэзідэнт Чэхаславакіі прымаў прэм'ера БНР

**Вясна 1919 года. Прайшоў год з абвяшчэння ў Мінску незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, і за гэты час многае памянялася. У Беларусі больш няма нямецкай акупацыйнай улады, пасля Лістападаўскай рэвалюцыі 1918-га ў Германіі яе войскі вярнуліся на радзіму. Але і ўрад БНР заслабы, каб узяць уладу ў свае рукі. Вызваленую ад немцаў тэрыторыю з усходу займае бальшавіцкая Чырвоная армія, а з захаду — наваствbooранае польскае войска. Беларускаму ж ураду застаецца толькі спрабаваць прасоўваць беларускую справу на міжнароднай арэне. Пра адзін з тагачасных дыпламатычных поспехаў піша кандыдат гістарычных навук Андрэй Буча.**


**Дыпламатычныя сустрэчы — нарожны камень замежнай палітыкі.** Так Масарык прымаў балгарскага прэм'ера Андрэя Ляпчэва. Фота Яна Шрамэка.

MUSEUM3000.NM.CZ

Што такое дыпламатычны поспех для ўрада, які не кантралюе ўласную тэрыторыю і не прызнаны афіцыйна ніводнай дзяржавай свету? Несумненна, у такіх умовах вельмі крута, калі ўдаецца дабіцца аўдыенцыі ў аўтарытэтнага замежнага палітыка, які займае ў сваёй краіне высокую афіцыйную пасаду. А калі гэта пасада кіраўніка краіны, то ўвогуле супер.

Але дамовіцца непрызнанаму ўраду пра сустрэчу на такім узроўні вельмі складана, бо кожны дзяржаўны дзеяч, якіх бы ні меў уласных поглядаў, як палітык мусіць лічыцца з міжнародным і ўнутраным раскладам сілаў, узважваць усе за і супраць, разлічваць, ці не ўскладніць нават сімвалічная падобная аўдыенцыя пазіцыі ўласнай дыпламатыі ў адносінах з суседзямі, важнымі гандлёвымі партнёрамі ці, крый божа, сусветнымі звышдзяржавамі.

Беларусам тады ў пэўнай ступені пашанцавала. Палітыка найвышэйшага ўзроўню, які палічыў магчымым вясной 1919 года даць асабістую аўдыенцыю прэм'еру БНР Антону Луцкевічу, знайсці

ў Еўропе ўдалося. Ім стаў прэзідэнт узніклай за паўгода да таго Чэхаславацкай Рэспублікі Томаш Гарыг Масарык. Асоба вядомая і паважаная ва ўсім свеце, і не толькі за палітычныя дасягненні.

## Тата быў славакам, маці — немкай. А сам Масарык стаў бацькам новай незалежнай чэшскай дзяржавы

### Візіт на тыдзень

Візіту Луцкевіча ў Прагу папярэднічала падрыхтоўчая праца, праведзеная іншым беларускім дзеячам, Аляксандрам Цвікевічам. Ён на чале дыпламатычнай місіі БНР наведаў Прагу для таго, як пісалі ў адной з чэхаславацкіх газет, каб «арганізаваць папярэднія кантакты паміж Чэхаславакіяй і Беларускай рэспублікай, бо ў хуткім часе павінен прыехаць да прэзідэнта Масарыка беларускі прэм'ер пан Антон Луцкевіч».

Місія Цвікевіча мела поспех, і 25 красавіка 1919 года чэхаславацкае консульства ў Берліне выдала прэм'ер-міністру БНР Антону Луцкевічу візу на права ўезду ў Чэхаславакію. А ўжо назаўтра Луцкевіч перакрочыў нямецка-чэхаславацкую мяжу.

Сустрэча з Масарыкам была далёка не адзіным пунктам праграмы для Луцкевіча. Яшчэ адной важнай мэтай наведвання Прагі для беларускага прэм'ера ►



**Томаш Гарыг Масарык** (1850–1937) сацыёлаг, філасаф, першы прэзідэнт Чэхаславакіі. Нарадзіўся ў незаможнай сям'і ў Маравіі (уваходзіла ў склад Аўстра-Венгрыі). Ягоны бацька быў славакам, маці — немкай. Сам быў жанаты з амерыканкай Шарлотай Гарыг, узяў яе прозвішча як частку свайго імя. У пары было шасцёра дзяцей.

Масарык скончыў Венскі ўніверсітэт са ступенню доктара філасофіі. У 1882 годзе стаў выкладчыкам Карлавага ўніверсітэта ў Празе. Паралельна з навукай і выкладаннем займаўся палітыкай, выбіраўся дэпутатам Венскага парламента.

Выступаў за незалежную чэхаславацкую дзяржаву, з пачаткам Першай сусветнай вайны выехаў у эміграцыю. У 1916 годзе стаў на чале Чэхаславацкай нацыянальнай рады ў Парыжы. Арганізоўваў чэхаславацкія замежныя легіёны ў Францыі і Расіі.

Восенню 1918 года, пасля стварэння незалежнай Чэхаславакіі, быў абраны яе прэзідэнтам. У 1920, 1927 і 1934 гадах перавыбіраўся на новы прэзідэнцкі тэрмін, а ў 1935-м пайшоў у адстаўку.

Быў перакананым прыхільнікам дэмакратычнага развіцця. У тым ліку і дзякуючы Масарыку Чэхаславакія фактычна адзіная з усіх цэнтральнаеўрапейскіх дзяржаў у міжваенны час не скацілася да аўтарытарнага кіравання. Там увесь час захоўваліся рэальная дэмакратыя і шматпартыйнасць, паважаліся правы нацыянальных меншасцяў, знаходзілі прытулак палітэмігранты з іншых краін.

Чэхі і славакі настолькі паважалі свайго першага прэзідэнта, што называлі яго «Татачка» (па-чэшску «Tatíček»).




**23 чэрвеня 1928 года. Дзеці вітаюць Масарыка** плакатамі «Татачка наш, будзь з намі» і «На кожным кроку ў жыцці». Фота Яна Шрамэка.




**Прэзідыум Беларускай канферэнцыі ў Вільні** (25–28 студзеня 1918 года). Антон Луцкевіч у цэнтры.

было атрыманне чарговага траншу крэдыту ад украінскага ўрада, пераведзенага на рахунак аддзела Венскага банка ў Празе. Гэтыя грошы былі патрэбныя Луцкевічу для выезду дэлегацыі БНР на мірную канферэнцыю ў Парыж.

Увогуле ж ён прабыў у чэхаславацкай сталіцы цэлы тыдзень, да 3 мая. А аўдыенцыя ў Масарыка адбылася 29 красавіка. Прытым Луцкевіч быў запрошаны не абы-куды, а ў прэзідэнцкую рэзідэнцыю на Пражскі Град.

## Луцкевіч задаволены

Сустрэча працягвалася амаль дзве гадзіны, што для кіраўніка дзяржавы нямала. Праўда, для Масарыка сустрэча з беларускім палітыкам фармальна насіла неафіцыйны характар, яна нават не была пазначаная ў кнізе візітаў чэхаславацкага прэзідэнта.

Луцкевіч пазней успамінаў, што Масарык прыняў яго «з незвычайнай сардэчнасцю і нейкай прастатою». Беларускі прэм’ер спачатку прывітаў чэхаславацкага лідара па-беларуску, але потым, зразумеўшы, што Масарык з цяжкасцю лавіў сэнс ягоных словаў, перайшоў на рускую мову, якой Масарык валодаў вельмі добра.

Гаварылі не столькі пра ўласна Беларусь, колькі пра яе месца ў рэгіянальным раскладзе сілаў. Са слоў беларускага прэм’ера, Масарык «са шчырым спачуваннем паставіўся да нашых спраў. Між іншым са смуткам адзначыў, што Польшча, якая лёгка магла б пасля Расеі заняць месца правадыра славянства, пра гэтую ролю абсалютна не клапацілася».

Гаспадар Пражскага Града зацікавіўся луцкевічаўскай ідэяй антыбальшавіцкай Балтыйска-Чарнаморскай федэрацыі, у якую, паводле задумкі аўтара, павінны былі ўвайсці Украіна, Чэхаславакія, Літва, Латвія, Эстонія, Фінляндыя і Беларусь. Але чэхаславацкі прэзідэнт выказаў меркаванне, што варта было б да канцэпцыі гэтай федэрацыі далучыць яшчэ Югаславію з Польшчай.

## Грунт закладзены раней

На мяжы XIX–XX стагоддзяў чэшскае грамадства мела даволі цьмянае ўяўленне пра Беларусь, беларусаў і беларускае адраджэнне. Але беларусы стараліся сябе адкрыць, і аднымі з першых, хто паспрабаваў наладзіць кантакты з чэшскімі інтэлектуаламі, былі браты Іван і Антон Луцкевічы. Старэйшы з братоў, Іван, пачынаючы з 1904 года неаднаразова наведваў Прагу, дзе сустракаўся з дзеячамі чэшскага нацыянальнага адраджэння. А Антон Луцкевіч перыядычна дасылаў невялікія артыкулы і інфармацыйныя матэрыялы пра беларускае адраджэнне для славістычнага часопіса *«Slovanský přehled»* («Славянскі агляд»).

У 1908 годзе на з’ездзе прагрэсіўнай моладзі славянскіх народаў у Празе прысутнічала і беларуская дэлегацыя на чале з Іванам Луцкевічам. Перад самай Першай сусветнай вайной у чэшскім друку ўсё часцей сталі з’яўляцца паведамленні пра беларускі рух.

Праўда, Першая сусветная вайна на пэўны час перарвала беларуска-чэшскія кантакты. А пасля вайны былі ўжо абсалютна іншыя ўмовы. Па яе выніках чэхі займелі ўласную дзяржаву, супольную са славакамі, а беларусы спрабавалі стварыць Беларускую Народную Рэспубліку, ды няўдала.

Падзеі, якія адбываліся ў Беларусі перад сустрэчай Луцкевіча з Масарыкам, чэхам, якія цікавіліся міжнароднай палітыкай, былі ў агульных рысах вядомыя, бо пра іх пісалі ў мясцовай прэсе.

Луцкевіч рашуча запярэчыў чэхаславацкаму лідару, сказаўшы, што «Польшча, як дзяржава імперыялістычная з захватнымі апетытамі, у нашай кампаніі будзе дысанансам».

Падчас размовы Масарык абяцаў аказаць беларускай дэлегацыі на Парыжскай мірнай канферэнцыі «ўсялякую дыпламатычную падтрымку». Паводле ўспамінаў Луцкевіча, падчас сустрэчы ён дамовіўся з Масарыкам «аб абмене полуафіцыяльнымі дыпламатычнымі прадстаўнікамі: нашым у Празе і чэшскім у Горадні». У той жа час чэхаславацкі лідар устрымаўся ад канкрэтнага адказу наконт прызнання афіцыйнай Прагай БНР дэ-юрэ, але запэўніў Луцкевіча, што як толькі беларускі ўрад умацуецца, то чэхі адразу ўсталююць з ім дыпламатычныя адносіны.

Луцкевіч палічыў запэўніванні Масарыка ў падтрымцы ідэі ▶


DEPOSITPHOTOS.COM, BY IGORP

**Прэзідэнт Масарык любіў шпацыраваць вуліцамі Прагі.** За ім наводдаль ішоў адзін паліцэйскі агент: а раптам сталаму ўжо чалавеку спатрэбіцца дапамога.

## З успамінаў Луцкевіча пра Масарыка

«Па прыездзе ў Прагу і ўстанаўленні кантакту з Градам паехаў у вызначаны час у рэзідэнцыю прэзідэнта. Там я мусіў нейкія 5–10 мінут пачакаць: выявілася, што прэзідэнт Масарык быў на сваім штодзённым шпацыры і трохі спазніўся. Пры гэтым даведаўся, што прэзідэнт звычайна шпацыруе па вуліцах горада сам адзін і нікому не дазваляе суправаджаць яго, часцей можа ездзіць конна. Што праўда, падчас пешых прагулянак заўсёды наводдаль ішоў за ім паліцэйскі агент, але пры гэтым мусіў прыкладаць намаганні, каб Масарык яго не заўважыў. Мне тлумачылі, што клопат быў не пра ахову асобы прэзідэнта ад якога-небудзь замаху, а пра тое, што яму, чалавеку пажылому, магла спатрэбіцца дапамога...»

**На даляглядзе Пражскі Град —** рэзідэнцыя прэзідэнтаў і каралёў.

VPRAZEJAKODOMA.CZ

▶ беларускай эмансіпацыі «фактычным прызнаннем Прэзыдэнтам Чэха-Славацкай Рэспублікі» БНР. На афіцыйнае прызнанне, на думку Луцкевіча, Прага не пайшла толькі таму, што супраць гэтага выступалі краіны Антанты.

### «Павінна была б застацца Расія, і баста!»

Але на самай справе ўсё было не так проста. Сапраўдная пазіцыя чэхаславацкага прэзідэнта па беларускім пытанні была адлюстраваная ў лісце, адасланым на наступны дзень пасля сустрэчы з Луцкевічам члену чэхаславацкай дэлегацыі на Парыжскай мірнай канферэнцыі, міністру замежных спраў Чэхаславакіі Эдварду Бенешу, які ў сярэдзіне 1930-х, дарэчы, замяніў Масарыка ў прэзідэнцкім крэсле.

Інструкцыя Масарыка Бенешу была наступнага зместу: «Гэтая Беларуская рэспубліка — вынік распаду Расіі: павінна была б застацца Расія, і баста! Як украінцы; але Расія распалася, таму часовая арганізацыя гэтых ускраін будзе лепшым варыянтам, чым разбурэнне пад штучным маскоўскім цэнтралізмам! Таму мы, не ўлазячы ў філалогію і пытанні ўнутранай адміністрацыі, трымаем статус-кво. З гэтага пункту гледжання я запэўніў А. Луцкевіча, што мы з задавальненнем будзем з Беларуссю весці гандаль і г. д. Увага, аднак, на палякаў, якія ў нашым нейтралітэце ўбачаць антыпольскасць, бо яны хочуць захапіць беларускую тэрыторыю».

### Прызнанне палітычна нявыгадна

У гэтай інструкцыі праявілася базавая ўстаноўка, якой прытрымлівалася Прага ў адносінах да «малых» народаў былой Расійскай імперыі. Яна прадугледжвала апору на моцную небальшавіцкую Расію, здольную скласці супрацьвагу галоўнаму замежнаму ворагу маладой Чэхаславакіі — Германіі. Каб не псаваць адносіны з гэтай патэнцыйнай Расіяй будучыні, належала ўстрымлівацца ад надта актыўнай падтрымкі незалежнасці тых аскепкаў былой імперыі, якія ад яе хацелі назаўсёды адлучыцца.

Яшчэ адной прычынай, што паўплывала на адмаўленне кіраўніцтва Чэхаславакіі ад розыгрышу «бээнэраўскай карты», стала нежаданне Масарыка ісці на пагаршэнне і да таго няпростых адносін з Польшчай. Чэхі з палякамі мелі памежны канфлікт з-за рэгіёна Цешынская Сілезія, які атручваў узаемныя адносіны ўвесь міжваенны перыяд.

Можна пагадзіцца і з чэшскай даследчыцай Даніэлай Калэноўскай, якая прычыну непрызнання чэхаславацкімі ўладамі БНР бачыць у тым, што Чэхаславакія была прадуктам Версальскай сістэмы, якая ў той час акурат фарміравалася на Парыжскай мірнай канферэнцыі, і, вядома, была зацікаўленая ў ёй. У той час як урад БНР выступаў супраць несправядлівай для беларусаў сістэмы пасляваеннага ўладкавання Еўропы і быў зацікаўлены калі не ў яе суцэльнай ліквідацыі, то як мінімум у значным пераглядзе з улікам інтарэсаў беларускага народа.

Зрэшты, самая галоўная прычына была ўсё ж у тым, што ўрад БНР рэальна не кантраляваў ані найменшай часткі заяўленай дзяржаўнай тэрыторыі, а таму і не мог успрымацца іншымі дзяржавамі як раўнапраўны

### Масарык быў у Бабруйску

Мала хто ведае, што Томаш Масарык бываў у Беларусі. Будучы першы прэзідэнт Чэхаславакіі ў ліпені 1917 года прыязджаў у Бабруйск. Завітаў ён у гэты горад для таго, каб сустрэцца з вайскоўцамі чэшскага добраахвотнага батальёна, які ў той час акурат тут размяшчаўся.



MZV.CZ

**Чэшскія салдаты** ў бабруйскіх бараках.



**1918 год. Чэхаславацкія «сокалы»** трэніраваліся нават у Сібіры.

з сабой міжнародны суб'ект. У такіх абставінах нават проста сустрэча з сапраўдным замежным прэзідэнтам была значным дыпламатычным прарывам. Які ўсё ж не мог вырашыць праблемы рэальнай няроўнасці вагавых катэгорый.

### Усё ж не дарма

Як бы там ні было, але сустрэча беларускага прэм'ера з чэхаславацкім прэзідэнтам была гістарычнай. І яна мела не толькі сімвалічнае значэнне, але і практычныя вынікі ды значны плён для беларускай справы. Бо хоць афіцыйнага прызнання БНР дасягнуць не ўдалося, нефармальна чэхі ўсё ж аказвалі беларусам спрыянне, прытым нават тады, калі ўжо было зразумела, што справа незалежнай беларускай дзяржаўнасці пакуль што пастаўлена на паўзу.

Ужо ў чэрвені 1919 года ў Празе пачаў працу прадстаўнік урада БНР па справах ваеннапалонных у Чэхаславакіі Мікола Вяршынін. Для гэтага яму нават не давялося ў чэхаславацкую сталіцу выязджаць, бо ён эміграваў у Прагу больш за 10 гадоў да таго, яшчэ пасля рэвалюцыі 1905–1907 гадоў. А з 1 лютага 1920 года той жа Вяршынін, у адпаведнасці з загадам Луцкевіча, стаў паўнамоцным прадстаўніком урада БНР у Чэхаславакіі.

**Вынікам стала выдзяленне чэхаславацкім урадам стыпендый для навучання беларускай моладзі**

Дзякуючы ўсталяваным у 1919 годзе кантактам, у верасні 1921 года ў Празе прайшла Першая ўсебеларуская канферэнцыя, на якой прадстаўнікі беларускіх партый і арганізацый, якія дзейнічалі за межамі БССР, згуртаваліся вакол Рады БНР і чарговы раз пацвердзілі прынцып незалежнасці і непадзельнасці Беларусі. Цікава, што праходзіла гэтая канферэнцыя ў тым самым будынку, у якім у кастрычніку 1918-га была абвешчана незалежнасць Чэхаславакіі.

Вынікам мэтанакіраванай дзейнасці прадстаўніцтва БНР у Чэхаславакіі стала выдзяленне чэхаславацкім урадам стыпендый для навучання беларускай моладзі. Для многіх заходнебеларускіх хлопцаў і дзяўчат, якія падвяргаліся нацыянальнай дыскрымінацыі ў Польшчы, гэтыя стыпендыі сталі адзінай магчымасцю, каб атрымаць вышэйшую адукацыю. Скарысталіся з яе такія заслужаныя для Беларусі людзі, як Ян Станкевіч, Ігнат Дварчанін, Уладзімір Жылка, Янка Геніюш. Восенню 1921 года, пасля прыбыцця ў Прагу беларускіх студэнтаў, была створана першая афіцыйная беларуская арганізацыя ў Чэхаславакіі — Беларуская грамада ў Празе.

Ды і тое, што для дзеячаў БНР, якія не прызналі самаліквідацыі яе ўрада ў 1925 годзе, менавіта Прага стала тым месцам, дзе яны на шмат гадоў знайшлі прытулак, а некаторыя і вечны спакой, таксама не было выпадковасцю. ◆

### «Чаму мы нічога падобнага не маем?»

По выніках той паездкі ў Чэхаславакію Луцкевіч запісаў свае ўражанні ад святкавання чэхамі 1 мая 1919 года:

«Цудоўны 1-май бачыў я ў Празе! Гэта было сапраўды нацыянальна-работніцкае свята. Глядзеў на многатысячны паход “сокалаў” (моладзевая патрыятычная арганізацыя ў Чэхаславакіі. — **А. Б.**) і чуць не плакаў ад злосці: чаму мы нічога падобнага не маем?!»

# Стэфан Дзенісевіч

## *Каталіцкі біскуп, які адчуваў беларускую душу*



Hod II. Wilnia 30 Studnia 1914 hodu. № 5.

BIEŁARUS

tydniowaja katalickaja hazeta.

Kasztuje s pierasyłkaj: na hod 1 rb. 50 kap. na 6 miesiacau 80 kap. addzielny numer 3 kapiejki.

Rukapisy pawinny być padpisany praudziwaj familijej dziela wiedama redakcii, inaksz nia buduć drukawany; rukapisy nie zwiertajucca. Hroszy można pasylać pacztowymi markami.

Usio adresawać: Wilnia Wilenskaja wulica, № 18 kw. 6. Redakcija „Bielarusa“.

Szkoda mnie hetaho narodu... bo nie maje czaho jeści (słowy Chrystusa).

† Ś. P. Biskup S. Denisewicz.

**Газета «Беларус» (№ 5 за 1914 год)** з вялікім некралогам, прысвечаным Дзенісевічу.

**Наведаўшы старажытны Смаленск, можна яшчэ пабачыць, як там паціху разбураецца гіганцкі гмах каталіцкага касцёла. Наяўнасць у горадзе гэтага храма — вынік таго, што Смаленскі край гістарычна быў цесна звязаны з Беларуссю. А да пабудовы сучаснага будынка касцёла мелі непасрэднае дачыненне людзі, звязаныя з беларускім нацыянальным адраджэннем. Піша Сяргей Астанковіч.**

### Каталіцтва здаўна

Першы каталіцкі храм у Смаленску з'явіўся вельмі даўно. Яшчэ ў 1168 годзе побач з праваслаўнай царквой Святых Пятра і Паўла была пабудавана «лацінская бажніца». Горад у той час актыўна гандляваў з нямецкімі купцамі Рыгі і Гоцкага берага (так тады называлі востраў Готланд, які зараз належыць Швецыі, а ў той час займаў вядучыя пазіцыі ў гандлі на Балтыцы). У касцёле не толькі праводзіліся набажэнствы для замежных купцоў, але і захоўваліся эталоны мераў і вагі. Той першы храм праіснаваў да канца XVI стагоддзя.

З пачатку XV стагоддзя Смаленшчына цэлае стагоддзе

была ўскраіннай тэрыторыяй Вялікага Княства Літоўскага, хоць за яе вяліся пастаянныя войны з Маскоўскай дзяржавай. У пачатку XVI стагоддзя Смаленск перайшоў пад кантроль Масквы, але яшчэ праз сто гадоў войскі Рэчы Паспалітай, скарыстаўшыся Смутным часам, вярнулі яго сабе назад і ўтрымлівалі да 1654 года, калі страцілі канчаткова. Заходняе хрысціянства мела тут моцныя пазіцыі ў прывілеяваных слаях грамадства.

І пасля канчатковага ўсталявання на гэтых землях маскоўскай улады гісторыя каталіцтва ў рэгіёне не заканчваецца. Каб залагодзіць новых падданых — **смаленскую шляхту**, якая прысягнула новай уладзе, — цар Аляксей Міхайлавіч даў ёй пэўныя адмысловыя правы, у тым ліку магчымасць надалей трымацца сваёй веры. Своеасаблівы статус Смаленшчыны адмяніла толькі імператрыца Кацярына II незадоўга да першага падзелу Рэчы Паспалітай. Але каталіцтва захавалася тут і надалей.

Смаленская парафія моцна пацярпела падчас вайны 1812 года. Касцёл згарэў, а на яго месцы былі пахаваныя салдаты арміі Напалеона. Пазней тут жа быў пабудаваны маленькі драўляны храм, разабраны ў 1838 годзе. А на яго месца ў наступным годзе быў узведзены новы касцёл, названы ў імя Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі.

## Энергічны святар

У 1866 годзе пробашчам касцёла ў Смаленску быў прызначаны малады ксёндз Стэфан Дзенісевіч. Перад тым, скончыўшы ў 1863 годзе Духоўную акадэмію ў Пецярбургу, ён ужо паспеў трохі папрацаваць у Оршы і Магілёве. А прыбыўшы ў Смаленск, адразу ж адзначыў беднасць мясцовай парафіі. Касцёл патрабаваў правядзення неадкладных рамонтных работ, вартае жалю відовішча ўяўлялі сабой і іншыя касцельныя пабудовы. Таму давялося адразу ж узяцца за іх аднаўленне і развіццё.

Ксёндз Стэфан напоўніцу праявіў тут сябе як таленавіты адміністратар. Ён добра арганізаваў работы ў касцёле і па-за ім, з кожным годам паляпшаючы інтэр'ер святыні і прастору вакол яе. Парафіяне гэта заўважылі і ацанілі. Таму, калі ў 1873 годзе Дзенісевіч зноў быў пераведзены ў Магілёў, каб стаць там пробашчам магілёўскага архікафедральнага касцёла, жыхары Смаленска не хацелі яго адпускаць і настойвалі на вяртанні. Іх просьбы былі пачутыя — у студзені 1877-га Дзенісевіч вярнуўся назад у Смаленск.

Гэта быў цяжкі час пасля задушэння паўстання 1863 года. Але неўзабаве пачалася пэўная лібералізацыя. У пачатку 1880-х гадоў у Смаленск прыязджаюць з сібірскай ссылкі раней рэпрэсаваныя ксяндзы. Дзенісевіч дапамагаў ім з жыллём, патрэбнымі паперамі, нярэдка сам звяртаўся ў разнастайныя дзяржаўныя ўстановы, каб аблегчыць лёс гэтых людзей. І яму ўдавалася знаходзіць са свецкімі ўладамі супольную мову. У 1890 годзе ён нават атрымаў дзяржаўную ўзнагароду — ордэн Святога Станіслава III ступені.

## Грандыёзная будоўля

Смаленск у другой палове XIX і пачатку XX стагоддзя актыўна рос. Згодна з першым Усерасійскім перапісам насельніцтва 1897 года, у ім жыло тады каля 47 000 чалавек. Прыбывала і католікоў, таму стары храм ужо не змяшчаў усіх вернікаў. Праз гэта ксёндз Дзенісевіч звярнуўся да ўладаў з просьбай аб дазволе на будаўніцтва новага. Ён, між ▸

## Архітэктар-беларус

Замову на будаўніцтва Смаленскага касцёла па праекце губернскага архітэктара Міхаіла Мейшара атрымала брыгада архітэктараў пад кіраўніцтвам **Лявона Вітан-Дубейкаўскага** (1867–1940), ураджэнца засценка Дубейкава пад Мсціславам і выпускніка варшаўскай Школы будаўнічых рамёстваў.

У сувязі з будаўніцтвам Дубейкаўскі пераехаў у Смаленск на сталае жыхарства. У пачатку XX стагоддзя ён накіраваўся ў Пецярбург, дзе ў 1903 годзе атрымаў дыплом інжынера-будаўніка пры Інстытуце цывільных інжынераў. А пасля зноў вярнуўся ў Смаленск, займаўся там рэалізацыяй розных праектаў, уваходзіў у склад кіраўніцтва мясцовага каталіцкага таварыства дапамогі бедным.

Вітан-Дубейкаўскі цікавіўся нацыянальным адраджэннем, удзельнічаў у беларускім нацыянальным руху. Быў сябрам і актыўным дзеячам многіх нацыянальных арганізацый: Беларускага нацыянальнага камітэта ў Мінску, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, Беларускага камітэта ў Варшаве, Віленскага беларускага нацыянальнага камітэта, Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры і іншых.

Ствараў «беларускі стыль» у архітэктуры, з'яўляўся галоўным урадавым архітэктарам БНР. Сярод ягоных праектаў — стараверская царква ў Відзах і касцёл у Дрысвятах на Браслаўшчыне, кляштар пад Варшавай і мікрараён на Антокалі ў Вільні.

іншым, сцвярджаў: «Давераная мне Смаленская рымска-каталіцкая парафія ўключае ў сябе ўсю Смаленскую губерню і частку Аршанскага павета Магілёўскай губерні... Каталікоў абодвух палоў ва ўсёй парафіі налічваецца па спісах 3 015 чалавек, а ў самім горадзе 956, але гэтая колькасць у апошні час значна павялічылася з-за пасялення літоўцаў і латышоў*, а таксама з-за прыбыцця войскаў, у якіх каталікаў маецца больш за 1 500 чалавек...»

Грошай у Пецярбургу, праўда, не далі, але прынамсі дазволілі рабіць касцёл за ўласныя сродкі. У красавіку 1894 года стары храм быў разабраны, а ў чэрвені пачалася закладка будынка вялікага мураванага касцёла. Праўда, да пачатку працы праект святыні давялося трохі спрацціць — з-за недахопу сродкаў. Згодна з дакументамі,



РАСІЙСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ГІСТАРЫЧНЫ АРХІЎ. ФОНД 1293, ВОП. 5, СПР. 167

**Першапачатковы праект касцёла ў Смаленску.** 1893 год.

будаўніцтва каштавала 42 473 рублі 47 капеек. Грошы збіралі не толькі мясцовыя парафіяне, але і большасць духавенства Магілёўскай архідыяцэзіі.

Газета «Смаленскі веснік» 3 красавіка 1894 года паведамляла жыхарам горада, што «за Малахоўскімі варотамі на Касцельнай вуліцы будзе ўзведзены новы каталіцкі храм, які будзе каштаваць 40 000 рублёў. Патрэбныя для пабудовы матэрыялы ўжо дастаўляюцца».

Да восені 1896 года асноўныя будаўнічыя работы былі завершаныя, а 13 кастрычніка ксёндз Дзенісевіч выканаў г. зв. малое асвячэнне храма, каб можна было праводзіць там набажэнствы яшчэ да поўнай кансэкрацыі. Поўнае ўрачыстае асвячэнне касцёла магілёўскім вікарным біскупам Альбінам Францішкам Сымонам адбылося 29 чэрвеня 1897 года.

## Кар'ерны ўзлёт

Настолькі хуткае і ўдалае будаўніцтва такога вялікага аб'екта было заўважана вышэйшай духоўнай уладай

* Літоўцы і латышы перасяляліся на Смаленшчыну ў пошуках таннай зямлі, якой не хапала на іх перанаселенай радзіме. Пра літоўцаў, якія ў той час рассяліліся і на ўсходзе Беларусі, у № 7/2019 «Нашай гісторыі» быў надрукаваны артыкул Юрыя Унуковіча.

**Магілёўская архідыяцэзія** ў часы Расійскай імперыі была шырокім паняццем і зусім не абмяжоўвалася ваколіцамі Магілёва. Гэта была фактычна мітраполія, якой падпарадкоўваліся ўсе епархіі Расійскай імперыі, за выключэннем тых, якія існавалі на тэрыторыі аўтаномнага Царства Польскага (Прывіслінскага краю). Створаная яна была Кацярынай II пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай, у 1773 годзе, і спачатку называлася Беларускай дыяцэзіяй з рэзідэнцыяй у Магілёве. У 1782 годзе гэтая дыяцэзія стала афіцыйна Магілёўскай архідыяцэзіяй, якой пасля другога і трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай сталі падпарадкоўвацца пяць іншых дыяцэзій: Віленская, Жамойцкая, Мінская, Луцкая і Камянецкая.

У 1847 годзе, пасля заключанага канкардату з рымскім папам і новай рэарганізацыі, такіх падпарадкаваных Магілёўскай архідыяцэзіі асобных дыяцэзій стала шэсць: Віленская (ахоплівала тэрыторыю Віленскай і Гродзенскай губерняў), Жамойцкая (Ковенская і Курляндская губерні), Мінская (Мінская губерня), Луцка-Жытомірская (Валынская і Кіеўская губерні), Камянец-Падольская (Падольская губерня) і Цірaспальская, да 1852 года Херсонская (Херсонская, Екацярынаслаўская, Таўрычаская, Астраханская, Самарская і Стаўрапальская губерні, а таксама Грузія і Бесарабія). Усе астатнія каталіцкія парафіі імперыі, у тым ліку і ў абедзвюх сталіцах — Санкт-Пецярбургу і Маскве, — знаходзіліся ў непасрэдным падпарадкаванні магілёўскага архібіскупа. З 1869 года пад яго кіраванне перайшла і ліквідаваная Мінская дыяцэзія. Сам жа магілёўскі архібіскуп, нягледзячы на фармальны тытул, меў пастаянную рэзідэнцыю не ў Магілёве, а ў сталічным Санкт-Пецярбургу.

У пачатку XX стагоддзя ўласна Магілёўская архідыяцэзія, кіраваная непасрэдна архібіскупам, налічвала каля 930 тысяч вернікаў і 270 храмаў, а ў іншых дыяцэзіях жыло яшчэ каля 4 мільёнаў католікаў.

у Пецярбургу, і ксяндза Дзенісевіча вырашылі перавесці туды. У 1898 годзе ён перадаў новазбудаваны касцёл свайму пераемніку, а сам выехаў на службу ў сталіцу імперыі.

А тут духоўная кар'ера ксяндза Стэфана пачала развівацца вельмі паспяхова. Спачатку ён быў прызначаны асэсарам (засядацелем) Магілёўскай рымска-каталіцкай духоўнай кансісторыі, а з 1901 года стаў афіцыялам гэтай установы. Гэта быў вельмі высокі статус, дзякуючы якому Дзенісевіч тройчы ў 1903–1910 гадах станавіўся фактычным кіраўніком Магілёўскай архідыяцэзіі як часовы апостальскі адміністратар, бо арцыбіскупы Баляслаў Іеранім Клапатоўскі, Ежы Шэмбек і Апалінары Унукоўскі адзін за адным паміралі. Агульны стаж такога адміністравання склаў чатыры з паловай гады. А ў 1908 годзе Дзенісевіч і афіцыйна атрымаў годнасць біскупа.

### «Разумеў і жыва адчуваў патрэбы душы беларускай»

Высокае становішча, якое біскуп Дзенісевіч заняў у царкоўнай іерархіі, стала вельмі станоўчай з'явай для беларускага адраджэння, якое тады пачало ахопліваць усё новыя сферы, у тым ліку і рэлігійнае жыццё. Выхадцаў з сем'яў беларускіх сялян-каталікоў, якіх шмат вучылася ў духоўнай акадэміі ў Санкт-Пецярбургу, каб пасля стаць ксяндзамі, не абмінулі агульныя павевы часу. Яны ўсё часцей задавалі сабе самім і іншым пытанне, чаму ў практыцы Каталіцкай царквы ў Беларусі выкарыстоўваюцца, як правіла, толькі чужыя лацінская і польская мовы, у той час як родная мова народа, беларуская, у касцёлах практычна не гучыць.

Маладыя студэнты і святары не абмяжоўваліся толькі пытаннямі, а гуртаваліся ў зямляцтвы, арганізуючы вывучэнне беларусазнаўства і намерваючыся ў будучыні прысвяціць сябе пашырэнню беларускасці ў Царкве. Такім чынам пачала фармавацца хрысціянска-дэмакратычная плынь беларускага нацыянальнага руху.

Беларусам паводле паходжання быў і біскуп Дзенісевіч. Ягоная радзіма, дзе ён нарадзіўся ў 1836 годзе, — мястэчка Чарэя Сенненскага павета Магілёўскай губерні, а бацькі ягоныя належалі, хутчэй за ўсё, да вольнаадпушчаных сялян. Беларуская мова была роднай і для яго самога. У адрозненне ад многіх іншых святароў, ён яе не забыўся і разумеў патрэбу выкарыстання ў царкоўнай практыцы. Па словах будучага ▸



**Паштоўка з выявай смаленскага касцёла** ў пачатку XX стагоддзя.

летапісца гісторыі беларускага хрысціянска-дэмакратычнага руху ксяндза Адама Станкевіча, «кс. Данісэвіч разумеў і жыва адчуваў патрэбы душы беларускай і шчыра імкнуўся аблягчыць яе долю».

Падчас сваёй працы ў Пецярбургу ксёндз Дзенісевіч не толькі заахвочваў да выкарыстання беларускай мовы ў касцёлах маладых ксяндзоў, але і сам перакладаў духоўную літаратуру, выступаў пры патрэбе цэнзарам такіх выданняў. Ён за свае грошы выдаў беларускай лацінкай брашуры *«Elementarz dla dobrych dzietak-katolikou»* (Пецярбург, 1906) і *«Karotki katachizm dla pryspasablennia dziaciej da pierszaj spowiedzi»* (Вільня, 1907). А падчас біскупскага візіту па парафіях Магілёўшчыны ў 1910 годзе прамаўляў казані па-беларуску.

Акрамя таго, біскуп Дзенісевіч разам з прафесарам Браніславам Эпімах-Шыпілам духоўна апекаваўся нацыянальным гуртком, які ўтварылі студэнты-беларусы ў Духоўнай каталіцкай акадэміі ў Пецярбургу.

Але зігзагі чалавечага лёсу часам непрадказальныя, і біскуп-патрыёт, відаць, не мог сабе ўявіць, што ягонае жыццё хутка раптоўна паламаецца, а ўскосна


KEYTOWN.ME

да гэтага спрычыніцца святая заступніца беларускай зямлі.

## Падвяла Еўфрасіння

У 1910 годзе ў Беларусі ладзіліся царкоўныя ўрачыстасці, звязаныя з вяртаннем у Полацк мошчаў святой Еўфрасінні Полацкай. Падчас іх на чыгуначнай станцыі Бобр на Магілёўшчыне адбыўся інцыдэнт, які ўрэшце каштаваў біскупу Стэфану Дзенісевічу кар'еры. Данясенне з выкладаннем сутнасці інцыдэнту легла на стол самому тагачаснаму расійскаму прэм'ер-міністру Пятру Сталыпіну: «21 жніўня 1910 года на чыгуначную станцыю Бобр Сенненскага павета Магілёўскай губерні прыбыла з паштовым цягнікам з горада Полацка ікона вялебнай Еўфрасінні, князёўны Полацкай. З гэтым цягнікам прыехаў і біскуп Дзенісевіч з двума прэлатамі. Гэтыя духоўныя асобы, выйшаўшы з вагона, разам з мясцовымі ксяндзамі... прайшлі сярод прыбылых для сустрэчы праваслаўнай іконы, не зняўшы капелюшоў. Прычым адным з ксяндзоў, відавочна па неахайнасці, быў перакулены падсвечнік са свечкай, што гарэла».

Ад іерарха ўлады запатрабавалі тлумачэнняў інцыдэнту, якія Сталыпіна не задаволілі. Дзенісевіч у сваім адказе звярнуў увагу на віну паліцыі, якая не змагла навесці парадак на станцыі. Гэта раззлавала прэм'ера, а таму было вырашана распачаць татальную праверку ўсіх дзеянняў біскупа за час яго службы. Па яе выніках 4 красавіка 1911 года на стол імператару Мікалаю II лягла справаздача пад назвай «Аб незаконных дзеяннях біскупа Дзенісевіча». Сталыпін прапанаваў пазбавіць апальнага іерарха ўсіх займаных пасад і штогадовага грашовага ўтрымання ў памеры 2 000 рублёў. Рэшту жыцця Дзенісевіч мусіў правесці без пенсіі ад дзяржавы. Імператар з такім рашэннем пагадзіўся.

## Запозненая справядлівасць

Праўда, адзін на адзін са сваімі бедамі біскупа Дзенісевіча не пакінулі. Сам тагачасны кіраўнік Магілёўскай


„NAŠA NIWA"
ELEMENTARZ
DLA
DOBRYCH DZIETOK
KATOLIKOU.
1906

Ба 27283
Karotki Katachizm
dla
pryspasablennia dziaciej da pierszaj
Spowiedzi i Kamunji Świntoj.
Cena 5 kap.
WILNIA
1907

архідыяцэзіі Вінцэнт Ключынскі (выхадзец з беларускай Шаркаўшчыны) узяў дзейсны ўдзел у вырашэнні далейшага лёсу апальнага іерарха, робячы ўсё, што ад яго залежала, каб яго змякчыць. Ключынскі звярнуўся да дырэктара Дэпартамента духоўных спраў Яўгенія Менкіна з просьбай аб вяртанні біскупу Дзенісевічу пенсійнага забеспячэння і ўзнаўленні яго на пасадзе пралата Магілёўскага кафедральнага капітула (рады пры біскупскай кафедры). Старанні далі плён — іерарху была вернута палова пенсіі, а 7 ліпеня 1912 года яго нават аднавілі на пасадзе.

Гэтую вестку біскуп атрымаў у Смаленску, куды канчаткова пераехаў з Санкт-Пецярбурга вясной 1912 года. Але паўнавартасна скарыстацца з «амністыі» ўжо не змог. Доўгае цкаванне пажылога — яму было ўжо 76 гадоў — іерарха царскімі ўладамі канчаткова падарвала яго здароўе. Усё больш частымі станавіліся прыступы грудной жабы (стэнакардыі), а да таго ж у сярэдзіне 1913 года дактары выявілі ў яго неаперабельную пухліну страўніка. 3 снежня 1913 года Стэфан Дзенісевіч адышоў у лепшы свет.

Яго пахаванне 7 снежня 1913 года стала для Смаленска прыкметнай падзеяй. На яго прыехалі трое біскупаў, мноства ксяндзоў і парафіян. Дзенісевіч спачыў непадалёк ад пабудаванага пры ім касцёла, каля магілы сваёй маці. З нагоды смерці іерарха ў віленскай каталіцкай газеце «Беларус», выданне якой ён таксама падтрымліваў, ксёндз Францішак Будзька змясціў вялікі некралог. А смаленскія парафіяне тады ж замовілі мармуровую надмагільную пліту, якую ўжо пры позняй савецкай уладзе, у 1970-я гады, нехта з могілак скраў.

У 1998 годзе, дзякуючы стаbooанням тагачаснага смаленскага пробашча, да 85-годдзя з дня смерці гэтага выдатнага чалавека паставілі новы помнік.

Сённяшняя роля Каталіцкай царквы ў Беларусі як аднаго з асяродкаў беларушчыны і патрыятызму — заслуга ў тым ліку і біскупа Дзенісевіча. ◆



Магіла ксяндза Дзенісевіча.

PROWINCJA.PANEWNIKI.PL




**Пяткевіч, Кшыштаф. Вялікае Княства Літоўскае пад уладай Аляксандра Ягелончыка. Даследаванне гісторыі дзяржавы і грамадства на мяжы XV–XVI стагоддзяў** / Пераклад з польскай мовы Яўгена Глінскага. — Смаленск: Інбелкульт, 2022. — 416 с.

У гэтай кнізе ідзе гаворка пра 14-гадовы (1492–1506) перыяд кіравання ў Вялікім Княстве Літоўскім Аляксандра Ягелончыка.

У гісторыі Аляксандр Ягелончык застаўся як слабы кіраўнік, пазбаўлены здольнасцяў і характару, якія дазвалялі б яму адэкватна адказваць на выклікі, што паўсталі перад дзяржавай у час, калі яму выпала ў ёй панаваць. Менавіта тады выйшлі наяў грамадска-палітычныя з'явы і працэсы, якія заставаліся прыхаванымі на працягу паўвекавога (1440–1492) панавання бацькі Аляксандра Казіміра Ягелончыка. Дзве прайграныя вайны супраць Масквы ў 1492–1494 і 1500–1503 гадах пазбавілі Вялікае Княства Літоўскае каля траціны тэрыторыі на ўсходзе. А паўднёвая мяжа пастаянна знаходзілася пад небяспекай нападу крымскіх татараў.

Аўтар гэтай манаграфіі, аднак, разглядае і постаць самога Аляксандра, і ягонае кіраванне перадусім з пункту гледжання ўнутранай палітыкі.

Кнігу можна набыць у мінскіх кнігарнях «Акадэмкніга» (пр. Незалежнасці, 72) і «Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе), у гандлёвым цэнтры «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай, крама 41–42), інтэрнэт-кнігарнях kniganosha.by і knihi.by. На сайце arche.by выданне даступнае як у папяровай, так і ў электроннай версіях.

# ТАЯМНІЧЫ ДРУКАПІС З ГРОДНА

PIXABAY.COM, BY BY MICHAL JARMOLUK

## Чаму яго аўтара нельга было называць

**Гродзенская аптэка-музей месціцца ў адным з будынкаў кляштара, пабудаваных у 1709 годзе. Таямніц у ёй шмат яшчэ з часоў езуітаў. Але загадкі XX стагоддзя не менш цікавыя, пераканалася Святлана Воцінава.**

Слова «музей» далучылі да назвы «аптэка» ў 1996-м, калі апекавацца старым будынкам стала ТАА «Біятэст». Ва ўстанову адразу пачалі прыносіць старыя артэфакты, звязаныя з медыцынай і фармацэўтыкай. Прыйшоў да гаспадара і старэнькі доктар.

Старэнькія лекары ў Гродне ўвогуле асаблівая тэма, а гэты прыйшоў з рарытэтам: два стосы аркушаў, сшытыя ў кнігі таўшчынёй па 4–5 сантыметраў, з аддрукаванымі на машынцы тэкстамі. Копіі бледныя, з-пад 4-й ці 5-й капіркі. Уладальніку аптэкі-музея візіцёр паведаміў: перад ім — найкаштоўнейшая праца пра лекавыя расліны.

Як тут не згадаць Міхала Войніча, бібліяфіла і антыквара, які хоць нядоўга, але працаваў у гэтай аптэцы, і адкрыты ім у 1912 годзе загадкавы рукапіс. Відаць, аптэкары ў Гродне — яшчэ адна асаблівая тэма.

Леваруч ад кафедральнага касцёла ў Гродне, **у адным з найстарэйшых мураваных будынкаў горада месціцца аптэка-музей**. Тут можна ўбачыць старадаўні аптэчны посуд і медыцынскія інструменты, першыя лекавыя і касметычныя сродкі вядомых і сёння брэндаў, а таксама дакументы. Уваход бясплатны.



WIKIMEDIA COMMONS

**Рукапіс Войніча**
таямнічая кніга, напісаная каля 600 гадоў таму невядомым аўтарам на невядомай мове з выкарыстаннем невядомага алфавіта. Рукапіс быў створаны паміж 1404 і 1438 гадамі. Адкрыў яго бібліяфіл з Коўна Міхал (Вільфрыд) Войніч. Цяпер рарытэт захоўваецца ў бібліятэцы Ельскага ўніверсітэта ў ЗША.


WIKIMEDIA COMMONS

Але вернемся да нашага візіцёра і яго «інкунабулы»*, якая таксама была загадкай: не мела ніякай вокладкі, а значыць, ні імя аўтара, ні назвы, ні іншых звестак, якія маглі б хоць штонебудзь патлумачыць. Проста рускамоўны машынапіс пра расліны — пра некалькі соцень раслін — з іх апісаннямі, назвамі на розных мовах, пералікам уласцівасцяў і лекавых магчымасцяў, спісам крыніц...

Спісам крыніц! Самая ранняя — *«De Materia Medica»*, праобраз сучаснай фармакапеі (збору нарматыўных дакументаў, у якіх рэгламентуюцца патрабаванні да якасці лекавых сродкаў) — належыць Дыяскарыду (40–90 гады нашай эры), самая позняя датуецца 1938-м. Такім чынам, час напісання працы зразумелы. Як, зрэшты, і тое, што рускамоўны машынапіс — пераклад.

## Гісторыя пятага аркуша

— Гэта быў відавочны пераклад, але пераклад чаго? — згадвае свае першыя ўражанні ад незвычайнага набытку ўладальнік аптэкі-музея, дырэктар ТАА «Біятэст» Мікалай Дарашкевіч, і сам кандыдат біялагічных навук. — Доктар той распавёў далей вось што. Шматгадовая зацікаўленасць раслінамі і іх лекавымі ўласцівасцямі прывяла яго аднойчы ва Усерасійскі навукова-даследчы інстытут лекавых і духмяных раслін у Маскве. Там ён пазнаёміўся з прыгожанькай сакратаркай, і яна, друкуючы на машынцы нейкую працу, пачала спецыяльна для яго закладаць пяты аркуш. Так да доктара трапіў гэты тэкст.

Пасля доўгага захоўвання ў сябе лекар палічыў патрэбным аддаць пірацкі друкапіс у аптэку-музей. І правільна палічыў. Тое, пра што не даведаўся ён, адкрылася больш пільнаму даследчыку Мікалаю Дарашкевічу.

— На адной са старонак знайшлася пазнака: хто і калі браў арыгінал для перакладу на рускую мову. Значыць, кніга была «для службовага карыстання», маладаступная. Прозвішча перакладчыка ў подпісе — Мухін. Хто такі гэты Мухін?.. Не варта было шукаць яго як перакладчыка: такія тэксты на іншыя мовы павінны тлумачыць спецыялісты з навуковай ступенню...

## Мухін

Пошук вывеў Мікалая Дарашкевіча на Сяргея Мухіна, чалавека з даволі цікавай біяграфіяй. Паходзіў ён з рабочай сям'і, бацькоў страціў рана — праз сухоты, на якія хварэла ўся сям'я, і маленькі Сярожа таксама. Гадаваўся ў прытулку расійскай вялікай княгіні Аляксандры Мікалаеўны. Пасля рэвалюцыі ўстанова ператварылася ў дзіцячы дом «Маладая гвардыя». Тут і пачалося інтэлектуальнае ўзыходжанне Мухіна: установу курыравала сама Надзея Крупская, гадаванцам яе давалі бліскучую адукацыю і ўзорнае выхаванне.

Далей Сяргей Мухін ідзе служыць у армію і трапляе не проста на флот, а на «Аўрору» (у 1920-я легендарны крэйсер стаў вучэбным суднам). Па завяршэнні службы паступае на медыцынскі (нярэдкі выбар для хранічна хворага юнака) ▸


MEDINHOM.RU

**Сяргей Аляксеевіч Мухін.**

* **Інкунабуламі** называюць першыя друкаваныя кнігі, выдадзеныя ў перыяд з пачатку кнігадрукавання да 1 студзеня 1501 года.

▶ факультэт МДУ, а потым — у клініку прафесара Дзмітрыя Плятнёва, выключнага настаўніка і вучонага ў галіне кардыялогіі. Прафесар Плятнёў меў аўтарытэт у Еўропе, таму не дзіўна, што супраць яго была сфабрыкавана не адна крымінальная справа: ён абвінавачваўся і ў сувязях з Захадам, і ў садызме, і нават у смерці Максіма Горкага. Урэшце ў 1941 годзе ён быў расстраляны. Цень усяго гэтага ўпаў на Мухіна, які пад кіраўніцтвам Плятнёва абараніў дысертацыю. Дысертацыі не прызналі, але ў цэлым бяда абмінула: ад канчатковай расправы Мухіна ўратавалі «простае» паходжанне, дзяцінства ў знакамітым прытулку і служба на легендарным судне.

З кардыялогіяй, у якой малады вучоны ўжо паспеў засвяціцца сур'ёзнымі навуковымі працамі, давялося развітацца. Мухін падаўся ў гамеапатыю. Тады яе не лічылі лжэнавукай, як цяпер, да таго ж ён і сам лячыўся ў гамеапатаў, і паспяхова: гэты метад у звязцы з народнымі сродкамі прымусіў адступіць тую смяротную хваробу, ад якой ён пакутаваў у дзіцячыя і маладыя гады.

Папраўленае здароўе дазволіць Мухіну трапіць у 1939-м доктарам ІІ рангу на савецка-фінскую вайну (гл. пра яе артыкул Андрэя Акушкі ў № 11/2019 «Нашай гісторыі»). Верне ён сабе і навуковую практыку, і абраную спецыяльнасць: пачне працаваць у лабараторыі кардыялогіі Інстытута харчавання. У пачатку вайны з немцамі ўзначаліць там шпітальны аддзел. Дапамагаючы хворым і цяжка параненым, Мухін будзе выкарыстоўваць лячэнне і раслінамі, і гамеапатычнымі сродкамі даволі

**Хваробы адаптацыі**
паталагічныя станы, выкліканыя ўздзеяннем на арганізм неспецыфічных фактараў (стрэсараў) праз недасканаласць рэакцый арганізма.

шырока, а галоўнае — паспяхова. Вялікі Ганс Сельe, хросны бацька паняцця «стрэс», аўтар канцэпцыі хвароб адаптацыі, назаве падыходы Мухіна адкрыццямі стагоддзя.

Але ў сваёй Айчыне пракрокаў, як ведаем, не шануюць. Паразумення з савецкімі калегамі Сяргей Мухін па вялікім рахунку не знойдзе (хоць будзе мець і званні, і дзяржаўныя ўзнагароды) і праз нейкі час пасля вайны пакіне традыцыйную медыцыну назаўсёды. Веданне лекавых уласцівасцяў флоры і практыка гамеапатыі дазволяць яму здзейсніць некаторыя вынаходніцтвы, пра якія, праўда, сёння ўжо мала хто згадвае.




PUBLIKATIONSSERVER.TU-BRAUNSCHWEIG_DE

**Ілюстрацыя з кнігі Герхарда Мадауса.** Пагартаць кнігу можна па спасылцы.



## Ад рукапісаў да друкапісу

Сяргея Мухіна як магнітам прыцягвалі старадаўнія рукапісы па народным лекарстве. Над іх старонкамі ён і да вайны, і пасля яе праседжваў гадзіны і дні ў Гістарычнай бібліятэцы. А ў сярэдзіне 1950-х яго зацікавіла друкаваная кніга. Сучасная.

Гэта быў вывезены з Германіі пасля перамогі над нацыстамі падручнік па лекавых раслінах, можна сказаць, іх сусветная энцыклапедыя. Мухін атрымаў заданне перакласці яе на рускую мову. Мікалай Дарашкевіч расказвае, што дзякуючы гэтаму перакладу савецкія вучоныя дарасталі да акадэмікаў, абараняючы дысертацыі і пішучы працы, у якіх спасылкі на аўтара арыгінала не ўказваліся. І арыгінал, і пераклад былі засакрэчаныя.

А ў 2005 годзе, калі навуковая грамадскасць адзначала 100-годдзе Сяргея Мухіна, яго ўдава ў сваім выступленні нечакана прамовіла, што ў далёкія 1950-я муж займаўся перакладам з нямецкай мовы кнігі Мадауса.

У гэтым прозвішчы і хавалася прычына засакрэчанасці выдання.

## Магдалена і добры пастар

Можна быць жонкай лютэранскага святара — і заснаваць фармацэўтычнае прадпрыемства. Але не адразу. Спачатку трэба аднаго за адным нараджаць і страчваць дзяцей, увесь час баяцца за іх кволыя жыцці, пераязджаць з мужам з месца на месца ў пошуку лепшых умоў і ўрэшце, ад адчаю і страху за лёс малодшага сына, хворага на поліяміэліт, знайсці паратунак у мястэчку Рэпелен, недалёка ад Дуйсбурга. Тут жыў Эмануэль Фельке, які лячыў прыхаджан

сонечнымі і глінянымі ваннамі, прапагандаваў сон на паветры, шырокае ўжыванне лекавых раслін у складаных камбінацыях і простае харчаванне з абмежаваннем мяса.

Цуд выздараўлення малодшага сына аказаў на няшчасную маці вельмі моцны ўплыў, і яна пачала прапаведаваць метады натурапатыі Эмануэля Фельке, які з часам разгорнецца так, што стане ўладальнікам курортнага бізнэсу ў некалькіх гарадах.

Так Магдалена Ягана Марыя Мадаус, дачка магдэбургскага ювеліра, жонка пастара Генрыха Фрыдрыха Пітэра Мадауса і шматдзетная маці, сама пачала вырошчваць лекавыя расліны, а заадно зацікавілася падыходамі ў распазнаванні хвароб па радужнай абалонцы вока.

У 1908 годзе Магдалена Мадаус адкрые сваю лячэбніцу. А яшчэ праз адзінаццаць гадоў — ужо аўдавеўшы, напісаўшы падручнік па «радужнай» дыягностыцы і вырасціўшы сыноў, —ператворыць сямейную клініку ў прадпрыемства *Dr. Madaus & Co*, дзе будуць выпускацца лекавыя сродкі на аснове дароў прыроды.



WIKIMEDIA COMMONS

**Пратэстанцкі пастар Эмануэль Фельке (справа)** распрацаваў уласны метад лячэння: сонечныя і гліняныя ванны, а таксама сон на паветры.

### Лячыў не таго і не тым

Старэйшым з сыноў прадпрымальніцы быў Герхард. Ён нарадзіўся ў 1890-м і на час адкрыцця сямейнай фармацэўтычнай вытворчасці быў лекарам (нямецкія хваравітыя юнакі, як бачым, таксама ішлі ў медыцыну). Улічваючы досвед маці, спецыяльнасцю ён выбраў ▶

### Гамеапатыя

адрозніваецца ад алапатыі (традыцыйнай медыцыны) тым, што яе сродкі ўздзейнічаюць не на хваробу, а на хворага і падбіраюцца па двух узаемаабумоўленых прынцыпах: «малых доз» і «падабенства ад адваротнага» (*similia similibus curantur*, «падобнае лечыць падобнае»). Тое, што здольнае выклікаць стан, падобны да паталагічнага, з'яўляецца ў звышмалых канцэнтрацыях ратункам.

Над такім метадам лячэння сёння прынята іранізаваць, але трэба ведаць, што значыць хвароба ў гамеапатыі. Гэта не сведчанне пашкоджання здароўя (як у алапатыі), а ўласна працэс яго ўзнаўлення. Просты прыклад: звычайны доктар скажа, што насмарк — гэта сімптом рэспіраторнай інфекцыі (і трэба яго лячыць, і для гэтага выпіша кроплі), а гамеапат бачыць у насмарку ахоўны механізм самога арганізма, які калі патрабуе якога лякарства, дык хіба толькі насоўкі.

Што да эфектыўнасці звышмалых дазіровак, то справа ў тым, што ў хворых тканках узнікае мясцовае «перанапружанне», якое праяўляецца парушэннем функцый і характарызуецца тым, што моцныя раздражняльнікі (сярод іх даволі часта сустракаюцца «нармальныя» лекі) не ўспрымаюцца тканкамі аніяк, а ўспрымаюцца толькі вельмі слабыя і спецыфічныя. У пачатку XX стагоддзя гэтую з'яву, назва якой парабіёз, даследаваў прафесар Мікалай Увядзенскі, але пазнейшая фізіялагічная навука пайшла іншым шляхам, і цікавасць да біялагічнага і медыцынскага значэнняў парабіёзу аказалася, можна сказаць, у такім самым пагранічным стане, якім ёсць ён сам.

Заснавальнікам гамеапатыі быў Хрысціян Фрыдрых Самуэль Ганеман (1755–1843) — доктар медыцыны, якога расчараваў яе стан з усімі недахопамі пануючых тэорый і практычных прыёмаў лячэння.




**Герхард Мадаус.**

▸ фітатэрапію. І, відаць, быў вельмі добрым спецыялістам у гэтай галіне, бо стаў асабістым фітатэрапеўтам «першай асобы» — Адольфа Гітлера.

— Гэта была першая прычына, па якой імя Герхарда Мадауса ў Савецкім Саюзе не згадвалася, праз што і кніга яго, адзін з тамоў чатырохтомніка па лекавых раслінах, выпушчанага ў 1938 годзе, была засакрэчаная і перакладалася Мухіным як ананімная, — распавядае далей гаспадар аптэкі-музея ў Гродне Мікалай Дарашкевіч. — Другое кляймо на прозвішча Мадаус было пастаўлена на Нюрнбергскім працэсе. Гісторыя ўсплыла ў сувязі з даследаваннем уласцівасцяў дыфенбахіі — расліны сямейства ароідных, трапічнай, але нам вядомай як пакаёвая. Яшчэ да вайны Герхард Мадаус, праводзячы доследы з мышамі, знайшоў, што яна аказвае на іх эфект стэрылізацыі. Калі пачалася Другая сусветная вайна, нямецкія даследчыкі ўспомнілі пра яго знаходку і паспрабавалі ўжыць дыфенбахію для стэрылізацыі ваеннапалонных. Потым высветлілася, што эканамічна гэта нявыгадна: для вырошчвання расліны трэба будаваць вялікія парнікі. А тут яшчэ падаспелі адкрыцці, датычныя ўласцівасцяў радыеактыўных элементаў. Выкарысталі з мэтай стэрылізацыі радый — аказалася эфектыўна і танна.

Пра дыфенбахію хутка забыліся, але на Нюрнбергскім працэсе ўсплылі і яна, і прозвішча Мадауса, хоць да выпрабаванняў расліны на чалавеку гэты доктар дачынення не меў: у 1942 годзе Герхард Мадаус пасля цяжкай хваробы памёр.

Так Герхард Мадаус быў выкраслены з гісторыі, таму што абслугоўваў дыктатара. А фармацэўтычная фірма з яго прозвішчам працягвала існаваць і развівацца. У наш час яна страціла самастойнасць як вытворца, але засталася гандлёвая марка *MADAUS, GmbH*. Кардонкі з пазнакай *MADAUS* можна сустрэць і ў беларускіх аптэках. Лозунг ранейшы: «Лекі з прыродных крыніц». ◆




**У Германіі кнігу Герхарда Мадауса перавыдалі.** Спецыялісты сцвярджаюць, што гэта і сёння найлепшы даведнік па лекавых раслінах. Мікалай Дарашкевіч марыць, што гродзенскі друкапіс таксама будзе апублікаваны.




**Лабачэўская, Вольга. Беларускія посцілкі і дываны: антрапалогія і мастацтва традыцыйнай рэчы.** — 2-е выданне. — Мінск: Беларуская навука, 2022. — 286 с.

Як кажа сама аўтарка ў інтэрв'ю газеце «Культура», посцілкі «яшчэ і сёння ёсць амаль у кожнай хаце, але іх ужо практычна не вырабляюць. Прытым што посцілкі — гэта такая невычарпальная скарбніца творчасці: з мноствам тэхнік, узораў, арнаментаў, спалучэнняў колераў. Чалавеку, які любіць мастацтва, ёсць чым захапляцца...

Здымкі з 50-х гадоў мінулага стагоддзя — сямейныя фота на фоне посцілкі. Посцілка была самай прыгожай рэччу ў доме, якую выносілі для такой значнай і рэдкай справы — сямейнага фота. Гэтая "простая" рэч была часткай нейкага іншага, лепшага, святочнага жыцця».

Акрамя тэксту, у кнізе змешчана і каля паўтысячы цудоўных фотаздымкаў.

Кнігу можна набыць у мінскай кнігарні «**Акадэмкніга**» (пр. Незалежнасці, 72).

## Хлеб для свіней

Берасцеец **Іван Чайчыц** дзеліцца на сваёй старонцы ў Фэйсбуку цікавым фота, на якім тыповы абразок з вясковага жыцця часоў позняга СССР. Здымак зроблены ў вёсцы Кабелка на паўднёвым захадзе Брэсцкага раёна, у Дамачаўскім сельсавеце. Аўтар так каментуе фота:

«Асабіста я яшчэ памятаю такую карціну ў 80-я і 90-я гады ў нашых вёсках і пасёлках. Да моманту, калі павінны былі прывезці хлеб, каля магазіна збіраўся народ з вялікімі торбамі. Куплялі чорны хлеб, мінімум па 5–6 боханаў, звычайна больш — аж да 10. Навошта? Рыхтаваліся да цяжкіх будняў і магчымай вайны, пастаянна нарыхтоўваючы сухары ў запас? Ці ўсё было настолькі кепска і харчаваліся толькі чорным хлебам? Ці сем'і былі настолькі вялікія?

Ага, каб жа. Хлеб у такіх колькасцях куплялі для таго, каб потым гэтыя свежыя, часам яшчэ гарачыя боханы прынесці дахаты і накіраваць на адкорм жывёлы, перадусім свіней. Чаму? Страшным дэфіцытам быў камбікорм. Вось так і жылі».

Сапраўды, так усё і было. Мяса было цяжка купіць, таму гадаванне свіней было жыццёвай неабходнасцю.

**Людзі ў пабытовых паводзінах кіруюцца не ідэйнымі пастулатамі, а эканамічнай мэтазгоднасцю**

У савецкай эканамічнай мадэлі з прапагандысцкіх меркаванняў цану на хлеб трымалі ніжэй за сабекошт, таму ён быў найбольш танным і даступным кормам, таму ён і выкарыстоўваўся, нягледзячы на прапагандысцкую трасканіну,



што «хлеб усяму галава». Прытым скормлівалі яго свінням людзі, якія добра ведалі цану кавалку хлеба, бо ў сваім жыцці ім даводзілася асабіста прайсці і праз сапраўдны голад.

Людзей за гэта кляймілі ў друку, заклікалі да свядомасці. Але гэта мала дапамагала, большасць людзей у сваіх пабытовых паводзінах кіруюцца не ідэйнымі пастулатамі, а эканамічнай мэтазгоднасцю.

Марныя спробы падмены аб'ектыўных законаў рынку дырэктыўным планаваннем пад інфашум дзяржаўнай прапаганды. Кожная сістэма, якая супрацьпастаўляе сябе законам прыроды, рана ці позна асуджаная на крах.

## Як Беларусь у 1918-м хацелі далучыць да Саксоніі

Гісторык **Павел Церашковіч** піша ў Фэйсбуку:

«Выпадкова зачапіўся за малавядомы факт з гісторыі "Сасаў". Апошні саксонскі кароль Фрыдрых Аўгуст ІІІ, які кіраваў з 1902 па 1918 год, быў апантаны пашырэннем межаў свайго ўладання. Саксонія, дарэчы, пасля стварэння Германскай імперыі захоўвала пэўную ступень суверэнітэту, у тым ліку мела свае войска, а ў Дрэздэне былі замежныя амбасады.

Дык вось, у 1918 годзе ён прапанаваў далучыць Літву з добрым кавалкам Беларусі да свайго каралеўства на падставе асабістай уніі і з улікам гістарычных традыцый XVIII стагоддзя. Гаворка ішла пра тэрміновае стварэнне ў Літве саксонскай адміністрацыі.

Не атрымалася. Берлінскія ўлады знайшлі альтэрнатыву на трон літоўскага караля сярод арыстакратыі Вюртэмберга ў асобе Вільгельма фон Ураха. А параза ў вайне і рэвалюцыя цалкам сапсавалі планы саксонска-літоўскага саюзу.

Але цікава, калі б атрымалася, ці казалі б беларусы, што і "за гэтым Сасам наеліся хлеба і мяса"?»

## «Некага ганялі, з некім біліся. Быццам бы адпомсцілі»

Ветэран журналістыкі **Мікалай Галко** дзеліцца ў Фэйсбуку цікавымі ўспамінамі з часоў вучобы ў далёкія ўжо 1960-я гады ў Мінскім аўтамеханічным тэхнікуме (цяпер Мінскі дзяржаўны аўтамеханічны каледж імя акадэміка Міхаіла Высоцкага на Сацыялістычнай, 5):

«55 гадоў таму мы бегалі туды-сюды з тугімі скруткамі ватману, а на лістах тых — накрэмзаныя алоўкамі ("кахінорам", калі пашанцавала) лабірынты чарцяжоў. На маіх, напрыклад, месцілася ў розных праекцыях лябёдка для МАЗа-лесавоза. Лічылася, што я распрацаваў удасканалены агрэгат, каб бярвенне лепш, з посвістам слізгала на платформу грузавіка. Ну, такі самападман. Бо ўся наша прамысловасць і тады, і цяпер перамалёўвала зробленае ў іншых краінах. Не без выключэнняў, зразумела. Тэндэнцыя яскрава ілюструецца аўтапрамам, для якога наш тэхнікум рыхтаваў кадры. Савецкі "масквіч" і замежныя, італьянскія, асавечаныя "жыгулі". ▶

▶ Нас някепска правялі праз курс сярэдняй школы, прывучылі да заводскіх умоў, адна з практык цягнулася цэлы год за станкамі. І далі базу для тых, хто захацеў ісці за вышэйшым дыпломам. А як жа, вывучалі тэхналогію металаў (табліца "жалеза-вуглярод"), супраціў матэрыялаў, дэталі машын і многа чаго іншага.

Моцна плюшчыла нас, вясковых. Для беларускай у раскладзе заставалася пара ўрокаў на тыдзень. Вымушаныя былі перавучваць усе тэрміны. Большасць у групе была за гараджанамі: хапала мінчукоў, а таксама і барысаўскіх, асіповіцкіх, бабруйскіх, магілёўскіх... Знешне мы, вяскоўцы, выглядалі пудзілавата, хаця і сталічныя не з арыстакратычных сем'яў прыйшлі. Адзін хлопец увесь час хадзіў на заняткі ў вайсковым кіцелі, на некалькі памераў большым за яго самога. Памятаю толькі прозвішча — Дабравольскі, бо ён сышоў пасля першага курса.

Я вытрымаў, перашыў сам бацькавы штаны на швейнай машынцы сястры, звузіўшы калашыны да стандарту. Знасіў куплены сястрою з запасам на вырaст палітон — шэдэўр савецкага легпраму. Не выкідаць, бо дзе другое возьмеш? Спроба ачалавечыць яго ў атэлье толькі пагоршыла апранаху. Але паступовае ўцягванне ў сяброўства з аднакурснікамі, прытым моцнае, побыт інтэрната знялі напругу.

Гартавала дружбу вясковае сала. Вучыліся жыць на капейкі. Кукурузныя батоны, вар у слоіках, запраўлены варэннем. На масла капеек не хапала.

Моцна выручала сястра Клава, яна са слаўным шваграм Міколам працавала на МТЗ, потым на электратэхнічным. Некалькі прыпынкаў на трамваі — і ты кароль над талеркай з катлетамі.

Хоць заводскія людзі жылі бедна, не зусім па-жабрацку, але цяжка. Грошы ад авансу да палучкі ўсе пазычалі адзін у аднаго. Хаця швагер працаваў мадэльшчыкам — рабочая эліта, ездзіў у Маскву на выстаўку дасягненняў, прывёз у якасці падарунка кітайскі плашч з лэйблам "Дружба" і шапку з сабачага футра.

Аднойчы некалькі хлопцаў з інтэрната пайшлі на вечар, на танцы ў суседні кааператыўны тэхнікум на Магілёўскай шашы [цяпер кааператыўны каледж на Партызанскім праспекце, 73, у раёне ўнівермага "Беларусь"]. І былі моцна збітыя мясцовымі, з Шарыкаў, шпанюкамі. Да крыві. Ахвяры прыбеглі да інтэрната на тагачаснай вуліцы Касманаўтаў і доўга адціраліся снегам. Ясна, што іх адразу заўважылі. Кроў бударажыць імгненна. Розум закліньвае: "Нашых пабілі!" З усіх пяці паверхаў высыпала каля сотні юнакоў з усіх курсаў. Маршам — да кааператыўнага тэхнікума, потым увесь вечар гойсалі па вуліцах Шарыкаў, па Жданава [цяпер Жылуновіча], Народнай... Некага ганялі, з некім біліся. Быццам бы адпомсцілі. Хаця, канешне, наўрад ці тым, хто заслугоўваў помсты.

Апантана гулялі ў футбол, зімой і летам. Спявалі песні пад гітару: "Бабье лето", "Последний троллейбус", "Лёньку Королёва" Булата Акуджавы.

Даўно тое было. Ратавала бібліятэка МАЗа. Старая чытальная зала. Чытальная зала ў інтэрнаце. Часопісы ў шапіках "Саюздруку". Капейкі на іх ашчаджаў, як бы цяжка ні было».




## А можа, «Айчыннай» была Першая сусветная?



Экскурсавод **Цімафей Акудовіч** у тэлеграм-канале «Беларускі Бабілон» разважае з нагоды памятнай даты:

«11 лістапада — дзень заканчэння Першай сусветнай вайны.

Пра гэту вайну перагаворана шмат, хаця ў нас значна менш, чым павінна было б. Сярод іншага, ніхто, падаецца, не звярнуў увагу на адзін дзіўны факт, датычны беларускай гісторыі ў гэтай вайне.

Пачынаючы з глыбокага XVI стагоддзя (а можа, і раней) не было ні адной вялікай вайны на нашых землях, якую б беларусы (як бы яны сябе тады ні называлі) не пераўтварылі ў грамадзянскую. Лівонская, Патоп, Паўночная, Напалеонаўская, Грамадзянская, Другая сусветная. Усюды беларусы арганізавана ваявалі супраць беларусаў на іншым баку.



Апроч адной — Першай сусветнай. Менавіта ў гэту вайну тысячы беларусаў, не дужа супраціўляючыся, а дзесьці і з пэўнай ахвотай, пайшлі на фронт. І, вось дзіва, не мусілі штыкамі прабіваць жываты сваім суродзічам. Такая вось дзіўная асаблівасць той вайны.

Таму дурная дыскусія тутэйшых рускамірцаў, якую вайну лічыць больш "Айчыннай" — напалеонаўскую ці Другую сусветную, — закругляецца досыць проста. Чыста фармальна пад гэтую ідэалагізаваную катэгорыю падыходзіць толькі Першая сусветная.

Сялянам пра айчыннасць той вайны казалі папы ў цэрквах. Беларускія нацыянальныя дзеячы Расію сваёй маці-радзімай не лічылі, але на фронт існа былі вымушаныя.

Ладная частка будучай Рады БНР прайшла праз тую вайну. І ўсе былі на адным баку. А некаторыя да той Рады, магчыма, проста не дажылі. Як, напрыклад, мілоснік беларусаў князь Мікалай Радзівіл, які геройчна загінуў у першы год баёў. На фронт ён пайшоў добраахвотна. Менавіта таму частка Рады так негатыўна ўспрыняла тую няшчасную грамату да кайзера. Нават пасля развалу Расіі "немец" заставаўся для іх ворагам.

Такі вось паварот гісторыі. Для імперыі гэта была першая вайна, на якую яна адпраўляла падданых, а вярнуцца з яе маглі грамадзяне. Грамадзяне той імперыі. Але — у гісторыі Расіі так бывала не раз — у самы важны момант яны ўсё прафукалі і пабеглі будаваць рай на зямлі, які аказаўся пеклам».

## Вашчыла, Кайзер... Мянушкі сабак Радзівіла

Супрацоўнікі **Нацыянальнага гістарычнага архіва** знайшлі і размясцілі на сваёй старонцы ў Фэйсбуку дакументы, у якіх пералічваюцца мянушкі паляўнічых сабак на псярні Гераніма Фларыяна Радзівіла ў Горках (сёння ў межах Слуцка) у 1750-я гады.

Вось на якія мянушкі адгукаліся тады радзівілаўскія гадаванцы: **Вашчыла**, **Рацхер**, **Мопс**, **Мордакс**, **Гардусь**, **Тыспа**, **Дыянка**, **Мопсіца**, **Вашчылюк**, **Думан**, **Собаль**, **Попель**, **Бонет**, **Шэйна**, **Бабця**, **Дубця**, **Лях**, **Малямп**, **Грыфан**, **Мультакс**, **Сора**, **Ляшанка**, **Мужык**, **Дэкрэт**, **Кундысь**, **Разбой**, **Клыпа**, **Шастай**, **Паніч**, **Кантэса**, **Прынцэса**, **Эмабль**, **Бастардзіца**, **Корс**, **Валёр**, **Тумульт**, **Строкіш**, **Дамка**, **Кайзер**.

Не выключана, як выказалі здагадку ў каментарах, што мянушка «гданьскага брытана» Вашчылы (у якога дакументы зафіксавалі нават дату смерці — кастрычнік 1753 года) паходзіла ад прозвішча кіраўніка вядомага сялянскага паўстання на Крычаўшчыне 1743–1744 гадоў Васіля Вашчылы. Гэта дастаткова верагодна, бо князь Геранім Фларыян Радзівіл меў да таго паўстання самае непасрэднае дачыненне: яно адбывалася ў ягоных уладаннях, і менавіта ягонае войска яго жорстка задушыла (пра гэта паўстанне, дарэчы, і апавяданне Уладзіміра Арлова «Міласць князя Гераніма»). На памяць пра пераможанага праціўніка мог атрымаць сваю мянушку і пародны шчанюк. Сынам якога, у сваю чаргу, мог быць сабака з мянушкай Вашчылюк. ◆









































## Шукайце часопіс у кнігарнях і крамах!

**Мінск**

Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45

«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)

«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)

«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз knihi.by, kniganosha.by, mmkut.by, halijafy.by, ragna.by

**Гродна**

«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).

**Віцебск**

«Светач» (вул. Кірава, 10)

**Бабруйск**

«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.